© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 15 ліпеня 1988 г. № 29 (3439) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**

ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ.

Фота А. ДУДКІНА (з серыі «Палессе»).

## У НУМАРЫ:





© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023



● *Перабудове — ідэі абнаўлення*

# „Толькі самастойнасць!"

**Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» гутарыць з дэлегатам XIX Усесаюзнай партканферэнцыі генеральным дырэктарам Мінскага вытворчага швейнага аб'яднання «Камсамолка» А. М. Біёнчыкам**

**— Расказваючы ў прэсе, па радыё і тэлебачанні аб партыйнай канферэнцыі, многія дэлегаты ў першую чаргу адзначаюць атмасферу дэмакратычнасці, адкрытасці і прынцыповасці, *якая на ёй панавала.***

— Ведаеце, некаторыя выходзілі на трыбуну, нават папярэдне не запісаўшыся ў спрэчках. Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў толькі прасіў назваць сябе. Я чалавек ужо немаладога веку, шмат гадоў на кіруючай пасадзе, даводзілася ўдзельнічаць у многіх форумах самага рознага маштабу, і, бывала, калі хочаш выступіць, абавязкова ўзгадні тэкст з начальствам... Так, XIX партыйная канферэнцыя, акрамя ўсяго іншага, дала нам урок дэмакратыі, плюралізму думак, новага палітычнага мыслення. Вы заўважылі, што з ужытку рэпарцёраў, якія пісалі пра канферэнцыю, зніклі такія раней звычныя пасажы, як: «горача падтрымліваем і ўхваляем», «усе, як адзін, савецкія людзі ў адказ...», «з залы даносяцца воклічы: «Няхай жыве...»? Не было гэтага штучнага пафасу, паказнога энтузіязму — была сур'ёзная, зацікаўленая, часта вострая, нават эмацыянальная гаворка аб тым, што хвалюе кожнага з нас, гаворка аб лёсе краіны...

**— На канферэнцыі і ў *дакладзе Генеральнага сакратара* ЦК КПСС М. С. Гарбачова, у выступленнях дэлегатаў закраналіся самыя складаныя пытанні эканомікі. Ацэнкі, як мы ведаем з матэрыялаў канферэнцыі, былі крытычныя і самакрытычныя, бо застой у розных сферах эканомікі пераадольваецца вельмі марудна. Нездавальняюча ажыццяўляецца радыкальная *эканамічная рэформа. Як асабіста вы,* Анатоль Мікалаевіч, кіраўнік вялікага прадпрыемства, ставіцеся да гэтых праблем?**

— Перад партыйным форумам, калі ішло абмеркаванне Тэзісаў ЦК КПСС, у мяне былі шматлікія сустрэчы з камуністамі, якія абралі мяне дэлегатам канферэнцыі, наогул, з многімі працоўнымі калектывамі. Людзі раілі звярнуць увагу дэлегатаў на цэлы шэраг пытанняў, звязаных з перабудовай у вытворчасці, у прыватнасці, з укараненнем гаспадарчага разліку, самафінансавання і самакіравання. Такіх наказаў сабралася ў мяне больш як чатырыста. І ў Маскве я ўсе іх перадаў у сакратарыят канферэнцыі. Хачу адзначыць адну акалічнасць. Ужо на другі дзень работы канферэнцыі я з задавальненнем адзначыў сам сабе, што на большасць пытанняў, якія непакоілі маіх землякоў, даюцца адказы і ў дакладзе, і ў выступленнях многіх дэлегатаў.

Што я думаю аб укараненні эканамічнай рэформы? Спачатку адна заўвага. Калі старшынствуючы даў слова дырэктару Інстытута эканомікі Акадэміі навук СССР акадэміку Абалкіну, я сканцэнтраваў усю сваю ўвагу. Працы гэтага вядомага эканаміста стаяць на паліцы і ў маім службовым кабінеце, я не раз звяртаўся да іх. Але тут, на канферэнцыі, яго выступленне выклікала ў мяне пэўнае расчараванне. Вельмі ўжо змрочную карціну стану нашай эканомікі ён намаляваў. Ніводнага светлага мазка. Так, ёсць шмат яшчэ недахопаў, нават правалаў. Але ёсць ужо і рэальныя вынікі перабудовы. Я кажу пра гэта, зыходзячы з вопыту нашай рэспублікі і, у прыватнасці, нашага прадпрыемства. І што асабліва не задаволіла, дык гэта адсутнасць у выступленні масцітага вучонага канструктыўных прапаноў. Хай бы сказаў, у чым канкрэтна бачыць ён выйсце, якія захады трэба ўжыць, каб пераадолець негатыўныя з'явы.

Так, пакуль што гаспадарчы механізм працуе кепска, што адмоўна адбіваецца на вырашэнні многіх вытворчых і сацыяльных праблем. Узяць хоць бы нашу «Камсамолку». Яна лічыцца неблагім прадпрыемствам — апошнія дзесяць гадоў атрымлівае пераходныя Чырвоныя сцягі саюзнага міністэрства. І зроблена на першым этапе перабудовы як быццам нямала — укаранёны гаспадарчы разлік, якім ахоплены ўсе брыгады асноўнай вытворчасці, створаны адзіны метадычны парадак давядзення гаспадарча-разліковых паказчыкаў да цэхаў і брыгад з улікам спецыфікі іх работы, галоўным ацэначным паказчыкам стаў выпуск вырабаў па мадэлях у натуральным выражэнні па днях і тыднях і да т. п. Рост фонду аплаты працы пастаўлены ў прамую залежнасць ад павышэння інтэнсіфікацыі, эфектыўнасці вытворчасці, ад канчатковых вынікаў дзейнасці. Вось некаторыя лічбы. Агульны аб'ём прадукцыі ўзрос да 90 мільёнаў рублёў. 70 працэнтаў вырабаў выпускаецца з індэксам «Н» — «навінка». Калі ў 1985 годзе высакаякасных вырабаў выпускалася на 500 тысяч рублёў, дык у мінулым на 8,1 мільёна рублёў — у 11 разоў больш.

**— Анатоль Мікалаевіч, даводзіцца чытаць у прэсе, што на шэрагу прадпрыемстваў з укараненнем гаспадарчага разліку рабочыя пачалі меней зарабляць.**

— У нас сярэдняя заработная плата павялічылася са 175 да 209 рублёў у месяц. Скажу больш: у фабрычных сталоўках кормім рабочых бясплатна. На гэта штогод выдаткоўваецца 130 тысяч рублёў.

**— Рай ды і толькі! Што ж вас тады турбуе?**

— Вам так здалося? Не, далёка не ўсё добра. Ёсць нямала фактараў, якія тармозяць перабудову, замінаюць правядзенню эканамічнай рэформы. Па-першае, прабуксоўвае Закон аб прадпрыемстве. Разумееце, калі ён быў выдадзены, дык на паперы здаваўся вельмі прывабным. Нарэшце, падумалася, нам, гаспадарнікам, дадуць самастойнасць, свабоду выбару, свабоду дзеяння. Як папрацаваў, так і будзеш мець. Я, можна сказаць, фанатык гаспадарчага разліку. Упэўнены, што гэты эканамічны інструмент у нашых умовах самы эфектыўны. А што атрымалася? Як быццам сутнасць дзяржаўнага заказу і агульныя прынцыпы яго фарміравання дакладна вызначаны Законам аб прадпрыемстве — маецца на ўвазе заказ галоўных відаў прадукцыі народна-гаспадарчага значэння, на самай жа справе атрымалася, што плануючыя органы, міністэрствы, ведамствы ніяк не могуць адысці ад старых стэрэатыпаў гаспадарання, звычных каманднa-адміністрацыйных метадаў кіравання эканомікай. Адсюль імкненне ахапіць дзяржаўным заказам усе 100 працэнтаў аб'ёму прадукцыі — да самых дробязей. Фактычна пад выглядам дзяржзаказу прадпрыемствам даведзены ранейшы план па наменклатуры. Дарэчы, у Законе аб прадпрыемстве гаворыцца, што заказ выдаецца на пастаўку асноўнай прадукцыі. Але што ім там, наверсе, у Дзяржплане, да закона? Нам, напрыклад, запісалі ў дзяржзаказ выраб запасных частак для швейных машын на 20 тысяч рублёў. А калі мы добрыя гаспадары і трымаем тэхніку ў належным стане і нам не патрэбны тыя запчасткі?

Пры такім падыходзе да дзяржзаказу дыскрэдытуецца ідэя самастойнасці прадпрыемства ў планаванні, выпуску прадукцыі, якая мае попыт у спажыўца.

**— Прымушаюць гнаць славуты «вал»?**

— Гэта ў корані пярэчыць сэнсу эканамічнай рэформы. Я лічу, што для прадпрыемства швейнай прамысловасці, напрыклад, дзяржзаказ павінен распаўсюджвацца не больш як на 80 працэнтаў аб'ёму прадукцыі. Астатняе — наша. Гэта значыць, частку вытворчых магутнасцей мы можам выкарыстаць на выраб прадукцыі, якую дыктуе сённяшняя мода. Разумееце, нам патрэбна свабода манеўра.

**— Сапраўды, усё вельмі лагічна. Але такое да вас пытанне, Анатоль Мікалаевіч. Мяркуючы па гэтых лічбах і табліцах, з якімі вы мяне азнаёмілі, у вас сапраўды дасканалы гаспадарчы разлік. Але ж «Камсамолка» існуе не сама па сабе, яна звязана сотнямі ніцей з пастаўшчыкамі, фінансавымі органамі, гандлёвымі арганізацыямі і г. д. У вас, напрыклад, укараняецца эканамічная рэформа, а ў многіх вашых партнёраў — не. Ці не вядзе гэта да перакосу ў агульным эканамічным механізме рэспублікі? Ці я нешта не разумею?**

— Вы маеце рацыю. Сапраўды, наш гаспадарчы разлік ператвараецца ў нішто за сценамі прадпрыемства. Вось вам такі прыклад. Дзякуючы ўкараненню гаспадарчага разліку, самафінансаванню мы атрымалі летась 5 мільёнаў рублёў звышпланавых прыбыткаў, якія павінны пайсці на развіццё вытворчасці, будаўніцтва і г. д. Але атаварыць гэтыя грошы мы не можам, бо ні ў камітэце па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні, ні ў міністэрстве нам нічога прапанаваць не могуць. Яны ў палоне старой лімітнай сістэмы, якая рэгламентуе кожны цвік. Між тым, эканамічную рэформу мы не ажыццёвім без наладжвання аптовага гандлю. Каб я мог пайсці на базу і купіць па сваім жаданні, па сваім гусце тканіну, машыны, будаўнічы матэрыял. Але пакуль планавыя органы, органы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, нарэшце, міністэрствы самі не пяройдуць на гаспадарчы разлік, ніякіх станоўчых вынікаў не будзе.

**— На канферэнцыі ўсеагульную ўвагу прыцягнула выступленне дырэктара аднаго з іванаўскіх вытворчых аб'яднанняў В. Кабаідзе, які наогул узняў пытанне аб мэтазгоднасці існавання міністэрстваў. «Самастойнаму прадпрыемству, — сказаў ён, — міністэрствы не патрэбны».**

— Кабаідзе *я добра* ведаю, мы неаднойчы з ім сустракаліся, — гэта разумны і разам з тым арыгінальны, неардынарны чалавек. У нечым ён мае рацыю. Ва ўсякім разе я лічу, што праца ведамстваў павінна грунтавацца на гаспадарчым разліку. Тады і штаты ў іх не будуць такія велізарныя, кожны чалавек будзе на сваім месцы. І глядзеў бы гэты чалавек у першую чаргу за тым, як дапамагчы заводу, фабрыцы, каб яны былі з добрым набыткам, бо ад гэтага залежала б і яго зарплата.

Дачакаемся мы гэтага? Спадзяюся, што дачакаемся, бо іншага выйсця няма. Я мог бы прывесці яшчэ нямала прыкладаў няўклюднага гаспадарчага механізму. Вось хоць бы такі. У каго ёсць малыя дзеці, падлеткі, тыя ведаюць, што існуе пастаянны дэфіцыт дзіцячага адзення. Чаму? Вы думаеце, мы б не змаглі запоўніць рынак прыгожымі сукенкамі, спаднічкамі, кофтачкамі для дзяўчынак, кашулямі і штанамі для хлопчыкаў? Вядома ж, змаглі б. Але вось не адольны бар'ер. Справа ў тым, што самафінансаванне базіруецца на старой сістэме цэн. Як гэта зразумець? Дзіцячы асартымент больш танны, чым дарослы, таму і фактычна нявыгадны для прадпрыемства. Да таго ж і расцэнкі на яго пашыў ніжэйшыя, чым на пашыў дарослага адзення, і рабочыя ў «дзіцячыя» цэхі ідуць неахвотна, бо зарабляюць тут менш.

**— Я чуў ад нашых рэдакцыйных жанчын, што многія вырабы «Камсамолкі» на магазінных паліцах не залежваюцца. Кабаідзе, пра якога я ўжо нагадваў, расказваў на канферэнцыі, як ён гандлюе з замежнымі фірмамі, зарабляючы цвёрдую валюту.**

— Цяпер *можна назіраць павышаную цікавасць замежных фірм, у тым ліку і капіталістычных, да тавараў лёгкай прамысловасці рэспублікі. Маецца шэраг выгадных прапаноў па пастаўках гэтых тавараў на экспарт. Аднак наладжванне кантактаў з замежнымі партнёра-*

# УСЕСАЮЗНЫЯ, СІМАНАЎСКІЯ

Праз многія гарады пралеглі франтавыя дарогі ваеннага журналіста, пісьменніка Канстанціна Сіманава ў гады Вялікай Айчыннай вайны, ды асабліва запомніўся яму Магілёў. Будучы сведкам памятных баёў, К. Сіманаў аператыўна расказваў пра іх у цэнтральным друку.

У пасляваенныя гады К. Сіманаў неаднойчы **бываў у** тутэйшых мясцінах і заўсёды з асаблівым хваляваннем прыходзіў на Буйніцкае поле, а, пайшоўшы з жыцця, назаўсёды застаўся з Магілёўшчынай — яго прах, як вядома, развеяны над Буйніцкім полем. Аб гэтым напамінае і мемарыяльны знак, устаноўлены тут.

12 ліпеня, роўна праз сорак сем гадоў пасля таго, як абаронцы Магілёва здзейснілі свой подзвіг, падбіўшы 39 фашысцкіх танкаў, адбыўся ўрачысты мітынг, у якім поруч з удзельнікамі баёў, ветэранамі прынялі ўдзел вядомыя савецкія пісьменнікі А. Вазнясенскі, Р. Казакова, Р. Раждзественскі, Я. Хелемскі, І. Шклярэўскі і іншыя, а таксама беларускія літаратары Р. Барадулін, В. Быкаў, А. Жук, Л. Прокша, А. Сульянаў, сын К. Сіманава А. Сіманаў.

На працягу трох дзён у Магілёве праходзілі Усесаюзныя сіманаўскія літаратурныя чытанні. Адбыліся шматлікія сустрэчы іх удзельнікаў з чытачамі. Выручаныя сродкі вырашана перавесці на ўзвядзенне мемарыяльнага комплексу «Буйніцкае поле».

Да першых Усесаюзных сіманаўскіх чытанняў «ЛіМ» мае намер вярнуцца ў адным з бліжэйшых нумароў.

● **ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# Ва ўрочышчы Курапаты...

**Як вядома, урадавая камісія, створаная пасля з'яўлення ў друку артыкула «Курапаты — дарога смерці», пачала сваю дзейнасць. Зараз у Курапатах у прысутнасці членаў камісіі вядуцца работы па эксгумацыі выяўленых тут астанкаў людзей. Актыўны ўдзел у раскопках прыняў адзін з аўтараў артыкула ў «ЛіМе» З. Пазняк. За ходам работ у першы дзень назіраў пісьменнік А. Адамовіч.**

**Рэдакцыя звярнулася да члена ўрадавай камісіі, народнага мастака СССР М. Савіцкага з просьбай пракаменціраваць работы ва ўрочышчы Курапаты.**

— Адзначу, што раскопкі, эксгумацыя, робяцца на прафесійным узроўні, так, як і павінна *рабіцца падобная* работа — пад наглядам археолагаў, у прысутнасці панятых, следчых, неабходных экспертаў. Усё пратакаліруецца пісьмова і на фотастужку. У Курапатах працуюць кінадакументалісты, бываюць прадстаўнікі прэсы.

**— Ці можна ўжо сёння рабіць нейкія вывады?**

— Канчатковыя вынікі будуць толькі пасля заканчэння ўсіх работ, усяго комплексу работ. І гэта кампетэнцыя камісіі ўвогуле. Я ж, ніякім чынам не апераджаючы будучае рашэнне, магу толькі выказаць уласнае меркаванне. Я лічу, што пункт гледжання, выказаны аўтарамі артыкула «Курапаты — дарога смерці», пацвярджаецца. Знаходкі ў магілах (так умоўна назавём гэтыя пахаванні, хоць там няма ні крыжоў, ні магільных пліт) мяне ў гэтым пераконваюць.

Відаць, што ў Курапатах эксгумацыі ўжо праводзіліся. Хто гэта рабіў, калі і з якой мэтай — таксама было б варта высветліць дзяржаўнай камісіі. Характэрная ў гэтым сэнсе магіла, пазначаная ў пратаколе нумарам пяць. Цэнтр магілы выбраны, але па баках — некранутыя чалавечыя астанкі. Чарапы з кулявымі адтулінамі, побач гільзы ад савецкіх наганаў. Тут жа асабістыя рэчы — грабеньчыкі, кубачкі, зубныя шчоткі. Запомніліся галёшы з фабрычным кляймом, дзе выразна чытаецца слова «СССР».

**— Мабыць, ёсць патрэба для канчатковага высвятлення ісціны звярнуцца ў архівы МУС і КДБ!**

— Эксгумацыя, хоць і вельмі важная, але толькі частка праграмы работы камісіі. Будуць таксама выслуханы сведкі злачынстваў у Курапатах, прадугледжана і праца ў архі-



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

мі на практыцы стрымліваецца з-за таго, што прадпрыемствы БССР пазбаўлены права на рэалізацыю часткі аб'ёму сваёй прадукцыі на экспарт па прамых сувязях. Мэтазгодна было б для аператыўнага правядзення экспартна-імпартных аперацый па наменклатуры выпускаемай прадукцыі даць магчымасць прадпрыемствам рэспублікі права штогадовага экспарту тавараў у колькасці двух-трох працэнтаў ад агульнага іх выпуску.

**— Наша з вамі, Анатоль Мікалаевіч, гаворка вялася пераважна аб пытаннях перабудовы эканомікі. Але эканоміка — не замкнёная сістэма, яна павінна быць падначалена чалавечым інтарэсам. Не чалавек для эканомікі, а эканоміка для чалавека. Так павінна быць, але так не было раней. Казённа-адміністрацыйна-бюракратычныя метады кіравання краінай сталі сур'ёзным тормазам для ініцыятывы людзей, грамадскіх арганізацый і калектываў. Саветы, многія партыйныя органы аказаліся не ў стане кантраляваць напор ведамасных інтарэсаў. Як сказана ў дакладзе М. С. Гарбачова на канферэнцыі: «Універсальным правілам стала тое, што орган, які прымаў рашэнні, не нёс эканамічнай адказнасці за вынік сваіх дзеянняў». Як інструмент удасканалення і ўмацавання Савецкай улады прапануецца аб'яднанне ў адной асобе функцый першага сакратара партыйнага камітэта і старшыні Савета. Я чытаў, што некаторыя дэлегаты выказвалі неўразуменне ад гэтай прапановы, якая, на іх думку, наогул не ўпісваецца ў канцэпцыю размежаванняў функцый партыйных і савецкіх органаў.**

— Я рашуча падтрымліваю рашэнне адрадзіць паўнаўладдзе Саветаў народных дэпутатаў метадам спалучэння ў адной асобе першага сакратара парткамітэта і старшыні Савета.

**— Ці не мэтазгодна было б спачатку правесці такія эксперыменты ў некалькіх абласцях і рэспубліках і паглядзець, што ад гэтага атрымаецца?**

— Не і не. Эксперыментаваць тут няма чаго, бо справа не чакае.

**— Пры самым вялікім аўтарытэце што зможа зрабіць старшыня Савета, калі фінансавымі, матэрыяльнымі каштоўнасцямі распараджаюцца ведамствы?**

— Вы маеце рацыю. «Саветы, — сказана ў дакладзе М. С. Гарбачова, — павінны мець салідныя, заснаваныя на доўгатэрміновых нарматывах крыніцы прыбытку, уключаючы паступленні ад усіх прадпрыемстваў, размешчаных на іх тэрыторыі, назапашваць сродкі для ажыццяўлення буйных задач». Зараз мы адлічваем у мясцовы бюджэт 6 працэнтаў сваіх прыбыткаў. Я лічу, што трэба адлічваць не менш 30 працэнтаў. Тады Савет народных дэпутатаў будзе сапраўды рэальнай сілай.

**— Дзякуй, Анатоль Мікалаевіч, за гутарку.**

**Гутарку правёў М. ЗАМСКІ.**

---

вах. Гэты аспект работы, відаць, найбольш складаны.

У 1941 годзе архівы рэспубліканскага НКУС былі вывезены ў Маскву. Кажуць, нібыта тое, што вывезці было немагчыма, знішчылі на месцы. Аднак нават і ў гэтым выпадку недзе павінны існаваць хоць бы спісы знішчаных спраў.

**— Дзейнасць камісіі расплянавана на пэўны тэрмін!**

— Зразумела. Але ж новыя акалічнасці, якія могуць узнікнуць у часы следства, унясуць карэктывы і ў планы работы камісіі.

На 13 ліпеня раскрыта каля дзесяці магіл. Увогуле ж у Курапатах магіл больш за 500. Гэта тое, што можна выявіць. Частка пахаванняў знішчана, калі праз урочышча цягнулі газатрасу. Частка — яшчэ раней, калі будавалі акружную дарогу.

У бліжэйшы час камісія збярэцца на пасяджэнне, дзе і будзе вырашана пытанне — спыніць раскопкі ці працягваць іх далей.

---

# У ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ, ЗАЎТРАШНІ І... УЧАРАШНІ

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ ЎДЗЕЛЬНІКА СЕМІНАРА

ЖЫТА стаяла высокаю роўнаю сцяною. Не адзін тыдзень перад гэтым ішлі — нават не ішлі, а лілі дажджы, праносіліся над полем навальніцы з моцным ветрам і градам, але жыта не паддалося, устаяла, і цяпер, пад ласкавым ліпеньскім сонцам, старанна налівала-спяліла колас, які самавіта і гожа гнуўся долу. Жытнёвае поле цешыла вока, сагравала душу, нашэптвала-падказвала памятныя пысінскія радкі: «Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта...»

І згадалася мне іншае поле, даўняе ўжо, прызабытае. Шмат гадоў не згадвалася, а тут раптам прыпомнілася. Шырокае, надта ж нямеранае пасля беларускага казахстанскае поле. Не жытнёвае — пшанічнае. Поле 1957 года. Мы, тады студэнты БДУ імя У. І. Леніна, прыехалі пад Акмолінск, цяперашні Цалінаград, ці не на другое цаліннае жніво. Прыехалі і былі зачараваны пшанічным полем. І не столькі яго нязвычнай для нашага вока бязмежнасцю — яно гублялася недзе далёка-далёка за небакраем у трымценні летняй смугі, колькі сваёй шчодрасцю і красою. Пшаніца стаяла густою роўнаю, нідзе не паклычанаю шчоткаю, колас пры коласе, шчыгульненька, кранаючыся вусамі адзін аднаго. І ці не ад гэтага поле пад подыхам ласкавага ветрыка ціха шумела-пазвоньвала.

Той парою дома мы не маглі яшчэ бачыць такога поля, такога ўраджаю, і здзіўляліся, і захапляліся, і рукі нашы цягнуліся да важкіх, нязвычна доўгіх каласоў, вылушчвалі на далань ужо амаль спелыя, васковыя зярняты, і вока міжволі лічыла іх, і мы зноў здзіўляліся, што ў коласе можа быць іх столькі, гэтых духмяных, буйных і жыццядайных зярнят. Дадому мы ехалі — бадай што ўсе — са снапкамі цаліннай пшаніцы: паказаць бацькам і суседзям, што гэта зусім не байкі — стопудовыя ўраджаі, пра якія спяваецца ў песнях, што вось яна, пшанічка, не выбраная напаказ, каласок да каласка, як на раённую выстаўку, а ўся такая, дайце веры, каласістая, умалотная...

А жытнёвае поле, ля якога прыбегла да мяне згадка пра лета пяцьдзесят сёмага на казахстанскай цаліне, было полем Гродзенскай абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі ля пасёлка Ражанка Шчучынскага раёна. Засеяна яно было жытам гатунку «Пухаўчанка» і абяцала ўраджай прынамсі цэнтнераў пяцьдзесят, а мо і ўсе шэсцьдзесят. І перад такім ураджаем блякнуў і мізарнеў ураджай той цаліннай пшаніцы, які толькі на паасобных участках дасягаў 28—30 цэнтнераў з гектара. Сёння зусім не чарназёмная Беларусь здымае ўраджаі куды большыя — летась на круг атрымана амаль трыццаць пяць цэнтнераў збожжа. А на Гродзеншчыне і таго больш. І дзякуючы вось гэтай самай «Пухаўчанцы» таксама, якою занятыя ў вобласці ці не ўвесь, як кажуць, жытнёвы клін.

Адсюль, з поля абласной сельгасстанцыі, пачаўся маршрут нашай, скажам так, «сталічнай» групы рэспубліканскага семінара па праблемах развіцця аграпрамысловага комплексу, які два дні — 7 і 8 ліпеня — праходзіў на Гродзеншчыне (абласныя групы — з Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Гомельшчыны, Брэстчыны і Міншчыны — ездзілі па іншых маршрутах). Чаму на гэты раз для правядзення семінара была выбрана менавіта Гродзенская вобласць? Тут набыты досыць багаты вопыт інтэнсіфікацыі сельскагаспадарчай вытворчасці многіх падраздзяленняў агракомплексу. Тут, дзякуючы эканамічным метадам гаспадарання, удасканаленню арганізацыі працы, з году ў год павышаюць прадуктыўнасць жывёлагадоўлі, атрымліваюць высокія ўраджаі збожжа, бульбы, цукровых буракоў на скупых пясчаных і супясчаных землях. Тут зроблены першыя і перспектыўныя крокі да раскрыцця патэнцыялу калгасаў і саўгасаў на аснове развіцця розных форм падраду і арэнды, пераходу ўсяго аграпрамысловага комплексу на новыя ўмовы гаспадарання. Партыйныя і савецкія работнікі, спецыялісты агракомплексу, міністэрстваў і ведамстваў, вучоныя, кіраўнікі калгасаў і саўгасаў, прадпрыемстваў Дзяржаграпрома рэспублікі былі запрошаны для ўдзелу ў семінары, каб пазнаёміцца з гэтым вопытам і поспехамі гродзенцаў, абмяняцца ўражаннямі ад убачанага і пачутага, падвесці пэўныя вынікі работы партыйных арганізацый, савецкіх і гаспадарчых органаў, навуковых устаноў па павелічэнні вытворчасці і паляпшэнні забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання, абмеркаваць задачы, якія вынікаюць з рашэнняў XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС па гэтым пытанні.

Сярод удзельнікаў семінара была і вялікая група журналістаў, рэдактараў рэспубліканскіх газет і часопісаў, прадстаўнікоў творчых саюзаў, у прыватнасці, Алесь Жук, Сяргей Законнікаў, Аляксандр Шабалін, кампазітар Валерый Іваноў. З гэтай прычыны трапіў на семінар і я. Падзялюся некаторымі ўражаннямі па ходу нашага семінарскага маршруту па Гродзеншчыне.

**ПАЧАТКОВЫ прыпынак, як я ўжо сказаў, — палеткі абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі. Увагу тут прыцягвалі не толькі загоны «Пухаўчанкі», але і грэчкі (у самым разгары цвіцення), пялюшка-аўсянай сумесі, буракоў, розных траў і, вядома ж, бульбы. Тут давялося пачуць шмат цікавага. Скажам, пра новы метад вырошчвання бязвіруснага пасадачнага матэрыялу, галоўную састаўную частку праграмы «Бульба», над якой працуюць вучоныя станцыі, пабачыць бульбяныя плантацыі, засаджаныя не звычайным насеннем, а мікрабульбінкамі, вырашчанымі ў прабірках. Такога пасадачнага матэрыялу на гектар патрабуецца ўсяго каля 16 кілаграмаў, а ўраджай атрымліваецца паўнаважкі і чысты ад хвароб, якія апошнім часам не толькі вельмі істотна яго зніжаюць, але і губяць.**

**Навукова-даследчая работа праводзіцца, акрамя праграмы «Бульба», яшчэ па 8 навукова-тэхнічных рэспубліканскіх праграмах, якія ўключаюць шматлікія пытанні сельскагаспадарчай вытворчасці. Вучоныя доследнай станцыі, заключыўшы з гаспадаркамі прамыя гаспадарча-разліковыя дагаворы, распрацоўваюць сістэмы інтэнсіўнай кормавытворчасці, насенняводства і прыёмаў гатунковай агратэхнікі сельскагаспадарчых культур, сістэмы ўгнаенняў у спецыялізаваных севазваротах і прыёмаў апрацоўкі дзярнова-падзолістых супясчаных глебаў, эфектыўных тэхналогій вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі і г. д.**

**І ў тым, што гэта прыносіць вялікі плён, што работнікі палёў і ферм Гродзеншчыны ўмеюць працаваць, што ім уласцівы актыўны творчы пошук, жаданне прымяніць на практыцы сучасныя тэхналогіі, новыя формы арганізацыі працы, мы пераконваліся ўсюды, куды збочвалі нашы «Ікарусы».**

**Адзін з прыпынкаў у Мастоўскім раёне — свінагадоўчы комплекс «Прамень» калгаса «Дубна» імя Д. І. Валковіча. Перад тым, як зазірнуць на сам комплекс, мы агледзелі холы, лячэбныя кабінеты і пакоі псіхалагічнай разгрузкі прафілакторыя. Прафілакторый зрабіў вялікае ўражанне, ён — відавочнае сведчанне клапатлівых адносін да людзей, якія працуюць на комплексе, разуменне таго, што затраты на здароўе і настрой людзей акупяцца выдатнай працай. Не часта, прызнаюся, даводзілася бачыць раней мне і такі адкормачны комплекс — сапраўдную фабрыку свініны. Зацікавіла ўсіх устаноўка для мікранізацыі зерня, што паляпшае якасць корму і спрыяе павышэнню сутачных прывагаў.**

**Там жа, у Мастоўскім раёне, быў і яшчэ адзін прыпынак — ля кукурузнага палетка калгаса «Дружба». Колішняя «плакатная каралева» выглядала тут сапраўднай каралевай — высокая, лапушыстая, ужо з досыць ёмкімі, хоць яшчэ і прыхаванымі ў лісці катахамі. Два дзесяткі гатункаў гэтай культуры выпрабоўваюць у калгасе, лепшы з іх прыжывецца на калгасных палетках. На гэтым полі рос югаслаўскі гібрыд, пасаджаны па новай тэхналогіі. Усё гэта — клопат аб тым, каб корм жывёле быў як мага таннейшы, каб сабекошт свініны быў ніжэйшы.**

**Комплекс па вырошчванні ялавічыны саўгаса «Зара» — гэта ўжо Ваўкавыскі раён. 10 тысяч бычкоў стаяць тут на адкормачным канвееры. Больш чым на кіло прыбаўляюць яны ў вазе за суткі, пад канец ператвараючыся ў ціхмяных «зуброў» па 500—550 кілаграмаў. Кожныя 13 дзён комплекс прадае дзяржаве 182 тоны ялавічыны, прытым, досыць таннай. Сакрэт колькасці і якасці прадукцыі комплексу ў тым, што ён — увесь комплекс! — узяты ў арэнду. Арандатары — калектыў аднадумцаў — працуюць так, каб было выгадна і самім, і саўгасу. А ва ўмовах арэнднага падраду гэты прынцып сапраўды вось такі просты: калі выгадна саўгасу, дык выгадна і табе, і наадварот.**

**У саўгасе «Ваўкавыскі» аб'ектам увагі ўдзельнікаў семінара быў незвычайны жылы пасёлак. Незвычайны ў тым сэнсе, што ўзводзіцца ён... маладзёжным будаўнічым кааператывам. Як грыбы, растуць наўкруг, у гожай мясціне ля саду, каля 30 аднапавярховых і двухпавярховых катэджаў. Будуюць іх самі сабе маладыя саўгасныя механізатары, спецыялісты, інтэлігенты. Матэрыял дае саўгас. Саўгас жа аплачвае і палову кошту дома (прыкладна 15 тысяч рублёў). 20 працэнтаў кошту — узнос члена кааператыву, выплата рэшты расцягваецца на 50 гадоў. Дамы, не крывячы душою, проста выдатныя: трох- і чатырохпакаёвыя, з прасторнымі вітальнямі, кухнямі, з усімі выгодамі, у тым ліку з гарачым водазабес-**

(Заканчэнне на стар. 4).




Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі удзельнікі семінара: намеснік галоўнага рэдактара газеты «Советская Белоруссия» І. СЯРЭДЗІЧ, А. ЖУК, кампазітар В. ІВАНОЎ, С. ЗАКОННІКАЎ. Фота У. МЯЖЭВІЧА.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# У ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ, ЗАЎТРАШНІ І... УЧАРАШНІ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).

пячэннем. У дадатак пад кожным домам — велізарны склеп. Праўда, трошкі бянтэжыла вонкавая аднастайнасць дамоў — усяго некалькі тыпаў, аднак хлопцы — будаўнікі і будучыя гаспадары — запэўнілі, што гэтая аднастайнасць будзе «разбурана» рознасцю веранд і іншых аздоб...

З Ваўкавыскага раёна перабраліся ў Бераставіцкі. Тут пазнаёміліся з тэхналогіяй адкорму бычкоў на комплексе калгаса імя Леніна. Комплекс разлічаны на 5 тысяч галоў. Культура вытворчасці проста-такі адмысловая. Відаць, інакш і нельга, толькі такім чынам, своеасаблівым канвеерам, з выкарыстаннем навейшай тэхналогіі прыгатавання і раздачы кармоў, прыбірання і ачысткі можна даваць краіне таннае і першагатунковае мяса, хоць мая вясковая душа трошачкі і засмучалася. што на такой прамысловай, па сутнасці, вытворчасці ўжо не застаецца, бадай, месца ніякім эмоцыям у дачыненнях чалавека і жывёліны, што бычок тут — гэта ўжо не Рабы ці Рыжы, а ўсяго толькі жывая машына па вытворчасці ялавічыны...

«Кааператыў арандатараў «Вясёлка» па вытворчасці малака». Такую шыльду ўбачылі ў калгасе імя А. М. Варанецкага таго ж Берастравіцкага раёна. Калісьці была звычайная малочнатаварная ферма, а зараз вось — кааператыў! Зноў жа, гэтае газетна-бюракратычнае «па вытворчасці малака», што ні кажыце, рэжа вуха. але ўсё гэта адступае на задні план, калі даведваешся, што арэнда прынесла добрыя зрухі па ўсіх паказчыках — надоі выраслі, сабекошт малака знізіўся, а колькасць работнікаў зменшылася ажно на дзесяць чалавек. Вельмі прыемнае ўражанне зрабілі на ўсіх самі арандатары на чале з былым загадчыкам фермы, а цяпер старшынёй савета кааператыву І. Лукашыкам — людзі працавітыя, дзелавыя, рызыкоўныя і адкрытыя, людзі, якія ўмеюць пастаяць за сябе, шанаваць сваю і чужую працу. Карацей кажучы, новыя людзі новай вёскі, у якіх ужо, бадай, не засталося і следу зусім нядаўняй затурканасці, пакорлівасці, абыякавасці...

У гэтым жа калгасе імя А. М. Варанецкага прыпыніліся на колькі хвілін і ля Палаца культуры — цудоўнага, неардынарнага збудавання, у якім некалькі ўтульных холаў, пакояў для заняткаў розных гурткоў і аб'яднанняў, выдатная глядзельная зала, танцавальная зала, бібліятэка, а таксама — басейн. А яшчэ калгасны палац запомніўся шматлікімі ластаўчынымі гнёздамі, якія нястомныя і спрытныя птушачкі ўмудрыліся паналеплівваць да бетонных калон проста ля ўвахода...

У Гродзенскім раёне завіталі на свінакомплекс «Юбілейны» калгаса «Кастрычнік». Комплекс не самы вялікі — усяго на 12 тысяч свіней (усяго, бо бываюць і на 24 тысячы, і на 108 тысяч), але здзіўлялі надзвычайны ўсюды парадак і чысціня. Нават не верылася, што ходзіш па свінаферме — аніякага паху, рахманыя, укормленыя падсвінкі — чысцюткія, як з карцінкі.

Гэтакім жа парадкам і чысцінёй уразіў і цэнтр калгаса — вёска Квасоўка, адбудаваная адметна, з вялікім густам і стараннасцю. Звярталі ўвагу і арыгінальныя жылыя дамы, і гандлёвы цэнтр, і Палац культуры на цэнтральнай плошчы. Асабліва ж уражвалі акуратныя тратуарчыкі ўздоўж вуліц і незвычайныя, чыгуннага ліцця, рашоткі-плоцікі з такімі ж металічнымі веснічкамі ў кожны двор-сядзібу...

Пасля ўсяго пабачанага ўжо не верылася, што нешта яшчэ можа ўразіць. Аднак тое, што пабачылі ў аграпрамысловым калгасе-камбінаце «Прагрэс» таго ж Гродзенскага раёна, пераўзышло ўсе чаканні. Адкормачны комплекс калгаса на 5 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы — быццам і такі, як іншыя (тыя ж вытворчыя карпусы і тэхналагічныя цэхі, тыя ж сянажныя вежы), і не такі (цудоўны, са шкляным дахам у холах, адміністрацыйна-гаспадарчы корпус, велічны фантан перад ім, адмысловая лесвіца, што звіваецца, бяжыць уніз ад фантана да люстранай гладзі возера).

Ды, бадай, найбольш уразіў сам магутны эканамічны патэнцыял гаспадаркі. Не надта шаную я лічбы, аднак жа вось якія яны тут: працуе ў калгасе 1700 чалавек; леташні ўраджай збожжавых — 63,7 цэнтнера з гектара, бульбы — 425 цэнтнераў; гаспадарка прадае штогод 5 тысяч тон мяса і 9 тысяч тон малака; чысты прыбытак перавышае 10 мільёнаў рублёў. Тут надзейная і вялікая сувязь вытворчасці з навукай. Лабараторны корпус — не хочацца назваць яго двухпавярховы, адметнай архітэктуры будынак, забяспечаны самым сучасным абсталяваннем, звычайнай лабараторыяй — не ведаю, ці можа які райцэнтр пахваліцца такім. У калгасе свая апрацоўчая прамысловасць: забойны цэх і мясазавод, які выпускае вэнджаныя шынкі, кілбасы, завод па вытворчасці касцяной мукі, завод па выпуску самых розных сокаў, мэблевы цэх і г. д. Неўзабаве калгас будзе прадаваць, найперш замежным спажыўцам, ракаў. Але, самых звычайных рачных ракаў, хоць і купленых на развод ажно ў Сан-Францыска. Ну. а калгасны пасёлак, славутыя Верцялішкі — што пра іх сказаць? Здаецца, тут зроблена ўсё, каб людзям жылося палюдску...

Канечны семінарскі маршрут — калгас «Шлях да камунізму» з цэнтрам у вёсцы Абухава непадалёк ад Гродна. Зрэшты, вёскай назваць Абухава ўжо наўрад ці можна. Гэта вялікі добраўпарадкаваны пасёлак гарадскога тыпу. Найбольш уражвае плошча — велізарная. Адметна сплanаваная, з газонамі кветак і фантанам (будуецца пакуль што), вакол якой — цудоўны (іншае слова цяжка знайсці) Палац культуры, пад адным дахам з якім, акрамя ўсяго іншага, два плавальныя басейны з выдатна абсталяванымі лячэбна-прафілактычнымі, аздараўленчымі кабінетамі, магазіны, кафэ-сталовая, пошта, прадпрыемствы службы быту і інш.

Тут, у калгасе, удзельнікі семінара пазнаёміліся з работай малочнатаварнага комплексу «Будоўля» на 400 дойных кароў і свінакомплексам. Абодва комплексы працуюць па прынцыпе арэнднага падраду, тут умеюць лічыць кожную капейку, пастаянна адшукваюць дадатковыя, найперш унутрыгаспадарчыя рэзервы. Адным з такіх рэзерваў стаў уласны камбікормавы завод, які істотна знізіў расходы на кармы і тым самым паспрыяў павелічэнню прывагаў і зніжэнню сабекошту свініны.

І тут зноў, каторы раз за два дні работы семінара, падумалася пра тое, што ўсё ж не кожная, не ўсялякая праца выпрастае чалавека, надае яму годнасці і самапавагі, а толькі праца свядомая, адухоўленая, праца, якая прыносіць чалавеку не толькі матэрыяльнае, але і маральнае задавальненне. У паездцы, пад час сустрэч з людзьмі, кідалася ў вочы вось гэтая ўнутраная, народжаная апошнім часам людская самапавага, жыццёвая і душэўная ўпэўненасць, мэтаімкнёнасць, акрыленыя сённяшняй атмасферай у краіне ўласцівыя нашаму народу заўсёдныя адкрытасць, даверлівасць, сардэчнасць, шчырасць...

Тут, у гэтым па-царску велічным Палацы культуры (не згодзен з тымі, хто выказвае скептычныя меркаванні накшталт таго, што, маўляў, ці ёсць неабходнасць будаваць у вёсках такія шыкоўныя гмахі, ці апраўдваюць яны сябе тут, дзе людзей усё ж не дзесяткі і не сотні тысяч, ці не пустуюць яны амаль круглы год, запаўняючыся толькі зрэдчасу, наогул, ці разумна рабіць такія вось невытворчыя выдаткі,— не і не, такі палац — сведчанне павагі да людзей працы, ён не толькі работай сваёй, выглядам сваім спрыяе выхаванню людзей, падказвае манеру паводзін, дыктуе звычкі і моду, нясе ў вёску вялікі і высокі духоўны патэнцыял) адбылося пленарнае — заключнае — пасяджэнне семінара. З дакладам «Аб рабоце партыйнай арганізацыі вобласці па павышэнню эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці ва ўмовах поўнага гаспадарчага разліку, самафінансавання і задачах, якія вынікаюць з рашэнняў XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС» выступіў першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ Л. Г. Кляцкоў. Другі даклад «Аб некаторых выніках работы партыйных арганізацый, савецкіх і гаспадарчых органаў, навуковых устаноў рэспублікі па павелічэнні вытворчасці і паляпшэнні забеспячэння насельніцтва харчовымі таварамі і задачах, якія вынікаюць з рашэнняў XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС па гэтым пытанні» зрабіў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржаграпрома рэспублікі Ю. М. Хусаінаў. У спрэчках выступілі старшыня калгаса «Шлях да камунізму» Гродзенскага раёна І. П. Сянько, першы сакратар Мінскага абкома КПБ А. А. Малафееў, старшыня Гомельскага аблаграпрома М. М. Бусько, старшыня калгаса імя Суворава Пастаўскага раёна А. А. Валадзько, першы сакратар Нясвіжскага РК КПБ М. М. Худая, дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна А. Р. Лукашанка.

Падсумаваў вынікі семінара, выступіўшы з вялікай прамовай, першы сакратар ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў.

Усе выступаючыя гаварылі аб тым, што трэба скіроўваць намаганні на паскарэнне пераводу сельскай гаспадаркі на інтэнсіўны шлях развіцця, умацаванне эканомікі калгасаў і саўгасаў, вырашэнне на гэтай аснове праблем сацыяльнай перабудовы вёскі; што сакрэт поспехаў працаўнікоў Гродзенскай вобласці заключаецца ў раскрыцці патэнцыялу калгасаў і саўгасаў на аснове развіцця ўнутрыгаспадарчага разліку, укаранення падраду, высокай культуры земляробства і жывёлагадоўлі, умацавання сувязі з навукай; што гэты вопыт, гэтыя метады павінны браць на ўзбраенне працаўнікі палёў і ферм іншых абласцей рэспублікі.

І прыходзіла думка аб тым, што нам, літаратарам, усім творчым работнікам, трэба часцей бываць сярод людзей, шчыльней кантактавацца з рэальным сённяшнім жыццём, а не задавальняцца (на жаль, многія з нас задавальняюцца) старым багажом, колішнімі, надта ж падчас даўнімі ўяўленнямі аб гэтым самым жыцці.

Рэспубліканскі семінар па праблемах развіцця аграпрамысловага комплексу, месцам правядзення якога была выбрана Гродзеншчына, завяршыўся. Ён прынёс несумненную і безумоўную карысць усім яго ўдзельнікам. Усе яны навочна пераканаліся — на прыкладзе лепшых гаспадарак вобласці,— што можна жыць і працаваць інакш, чым, жылі і працавалі дагэтуль, чым мы жывём і працуем сёння, што трэба і можна пераводзіць працу хлебароба і жывёлавода на новыя арганізацыйныя і тэхналагічныя рэйкі.

Маршруты семінара, якія пралеглі па многіх дарогах Гродзеншчыны, былі маршрутамі ў сённяшні і заўтрашні дзень нашай сельскагаспадарчай вытворчасці. Сёння ўжо многія гаспадаркі тут працуюць так, што даюць добры прыклад іншым. Калі б усе вобласці неўзабаве падцягнуліся да ўзроўню Гродзеншчыны — які б моцны штуршок, які б значны крок наперад зрабіла б наша сельская гаспадарка, як бы відочна пабагацелі б прылаўкі нашых магазінаў, абедзенны стол нашых людзей.

Аднак жа гэта была паездка не толькі ў дзень сённяшні. У тых гаспадарках, у якіх пабывалі ўдзельнікі семінара, у іх поспехах бачыўся і дзень заўтрашні, бачыліся перспектывы — прытым перспектывы рэальныя — нашага далейшага развіцця. Будучыня — і ў гэтым ужо нельга сумнявацца аніяк — менавіта на шляхах развіцця гасразліку і арэнднага падраду, самага шырокага ўкаранення і ўдасканальвання новых тэхналогій, высокай культуры земляробства і жывёлагадоўлі, усямернага ўмацавання сувязі вытворчасці і навукі. І ў гэтым сэнсе семінарскія маршруты несумненна былі і маршрутамі ў наш заўтрашні дзень.

Але, на жаль, было і тое, што часам нагадвала колішнія маршруты, паездкі ў дзень учарашні. Што маю на ўвазе? Сякія-такія аксесуары, што суправаджалі семінар. Скажам, такое спараджэнне застойнага часу, як сустрэчы — урачыстыя, з кветкамі, з дзяўчаткамі ў сцэнічных касцюмах — на мяжы абласцей і раёнаў. Ці патрэбны, ці дарэчы яны сёння, у час цвярозай, мэтанакіраванай работы па перабудове ў краіне ўсіх галін жыцця і гаспадарання? Безумоўна, гэта пережытак, ява дня ўчарашняга.

Учарашнім днём падаліся і папкі з памятным цісненнем разам з блакнотамі, ручкамі, кнігамі, буклетамі, і шматлікія, спецыяльна пабудаваныя ў полі ці на ўзлеску паднавесы з частавальнымі сталамі, шчодра застаўленымі напіткамі (канечне ж, сёння ўжо не алкагольнымі), садавінай, гароднінай, печывам, цукеркамі, цыгарэтамі (кажу так, хоць, грэшны, і сам частаваўся з гэтых сталоў). Цяжка ўсё ж нам адвыкаць ад колішніх заганных звычак.

Учарашнім днём падаўся і бясплатны абед у калгасным кафэ. Было відаць, што людзі адчувалі сябе неяк нялоўка, марудзілі вылазіць з-за сталоў, бы спадзеючыся, што мо афіцыянткі ўсё ж падыдуць і разлічацца. Тым больш, што людзям былі выпісаны камандзіроўкі.

І паказуха пакуль што таксама не канчаткова сканала. Яно, вядома, гаспадары заўсёды рыхтуюцца да сустрэчы гасцей, так ужо заведзена здаўна ў народзе, **але ж—не пускаюць пыл у вочы. А,** між тым, сям-там заўважалася менавіта гэта самае жаданне навесці лішні лоск і чысціню, ажно да таго, каб падштурхнуць сяго-таго з удзельнікаў семінара «папытаць» у вальяжнага, разамлелага падсвінака: «Скажы, даражэнькі, якім шампунькам цябе толькі што выкупалі?»

Больш, мне думаецца, магло б быць і дзелавітасці ў самой арганізацыі семінара. Паездка, вядома, была азнаямленчая, аднак жа магла б яна быць і трошкі спакайнейшай, без такое імклівае паспешлівасці, без пастаяннага падганяння: «Таварышы, прашу ў аўтобусы, час не церпіць!» Атрымлівалася, у выніку, не азнаямленне, а верхаглядства. І таварышы — старшыні калгасаў, кіраўнікі комплексаў і вытворчасцей, якія давалі тлумачэнні ўдзельнікам семінара, — таксама маглі б менш займацца самасправаздачамі, а засяроджвацца найперш на тым, **як,** пры дапамозе **якіх сродкаў, метадаў і спосабаў** дасягнуты тыя ці іншыя поспехі, **якія канкрэтна людзі і якім чынам** дамагліся іх. Людзі, на жаль, часцей за ўсё наогул заставаліся ў ценю, недзе за лічбамі. Лічбы, вядома, рэч добрая, уразлівая, але ад стракацення іх у выступленнях некаторых таварышаў проста было непамысна...

І яшчэ адно, што нібыта і не мае непасрэднага дачынення да праблем семінара, аднак жа... Думка пра гэта ўзнікла недзе яшчэ ў дарозе на Гродзеншчыну. У дарозе, якая чамусьці размаўляе з падарожнікамі толькі... па-руску. Дзіўна, але і праўда: за ўсю дарогу — зусім немалую! — мільганулі перад вачыма два надпісы на мове гэтай зямлі: назва аўтобуснага прыпынку «Гасцілаўцы» ля аднайменнай вёскі ды невядома каму адрасаваны лозунг недзе на мяжы Іўеўскага і Лідскага раёнаў «Слава працы хлебароба!» Чаму ж так? Пытанне гэтае як узнікла ў дарозе, так і асела ў галаве, бо сілкавалася той жа адсутнасцю роднага слова паўсюль як у жывым, так і ў пісьмовым выглядзе. Зрэдзь часу, як на посмех ці, даруйце, на здзек, мільгане адзін-другі выпадковы надпіс (скажам, у надзвычай зялёным, утульным і дагледжаным гарадку Масты) на беларускай мове, і зноў суцэльнае панаванне рускай арфаграфіі. На шыкоўным Палацы культуры калгаса імя Варанецкага ў Эйсмантах шыльда — на беларускай мове, але затое ў бібліятэцы, што на другім паверсе палаца, усё па-руску, па-беларуску толькі адзін надпіс — на стэндзе з краязнаўчымі кніжачкамі. І гэта на Гродзеншчыне, адной ці не з самых «беларускіх» абласцей рэспублікі! Людзі ж гродзенскія гавораць на роднай мове! Пераконваўся ў гэтым кожны раз, у кожнай вёсцы, на кожным комплексе, у час кожнага чарговага прыпынку. І хораша гавораць! Тыя ж свінаркі (дакладней, аператары па адкорме жывёлы), тыя ж даяркі (таксама аператары, толькі ўжо машыннага даення) агукаліся да нас у родным слове. І таму, думаецца, такое суцэльнае ігнараванне гэтага слова не што іншае, як праява непавагі да гэтых людзей. Чалавек праяўляе сябе, поруч з усім іншым, і ў родным слове. Дык, мусіць, не трэба, не варта пазбаўляць яго такой магчымасці. На жаль, магчымасці такія вельмі і вельмі звужаны. Нават запраграмаваны, можна сказаць. Бо, што грахі ўтойваць, школы ў тых жа самых калгасах-гігантах «Прагрэс» і «Шлях да камунізму», выдатныя школы-дзесяцігодкі, ніякія не беларускія. беларуская мова там нават не рабочая, амаль усе прадметы выкладаюцца па-руску, як і чыста ўся пазакласная, выхаваўчая работа таксама. І мімаволі думалася: а хіба ж было б горш, каб слова беларускае гучала, пісалася, чыталася, працавала тут паўсюль гэтак жа нязмушана, як сёння рускае слова? Хіба ж ад гэтага людзі тутэйшыя працавалі б меней старанна, меней творча? Наадварот, бадай! Бо — і ў слове ж родным праяўляецца чалавек!

Такія адносіны да роднага слова, з якімі давялося — між іншым, мімаволі — сутыкнуцца ў часе семінарскіх паездак па Гродзеншчыне, таксама з дня ўчарашняга. Натуральна, што і іх трэба папраўляць, пераводзіць на тыя ж новыя рэйкі— рэйкі абнаўлення і прагрэсу.

**Мікола ГІЛЬ.**

Гродна — Мінск.



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# У добры час!

## Выйшла першая кніжка маладосцеўскай бібліятэкі

**Называецца яна «...І надзея, і лёс, і ўспамін». Склалі яе творы паэтаў з таварыства маладых літаратараў пры Саюзе пісьменнікаў БССР, вядомага яшчэ пад назваю «Тутэйшыя». Самы юны аўтар — Юльяна Бармута, ёй семнаццаць, толькі што скончыла сярэднюю школу. Старэйшаму Паўлу Бурдыку — трыццаць гадоў, ён служыў у Савецкай Арміі, працаваў рабочым, скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Астатнім — Славаміру Адамовічу, Эдуарду Акуліну, Паўлу Дзмітруку, Хведару Кашкурэвічу, Юрыю Кісялеўскаму — ад дваццаці трох да дваццаці пяці гадоў. Усе, за выключэннем Х. Кашкурэвіча, выступалі ў рэспубліканскай перыёдыцы.**

**Гэта, бадай, самае маладое на сённяшні дзень пакаленне ў нашай літаратуры. Мажліва, не ўсім з іх яшчэ стае майстэрства, аднак іх грамадзянская пазіцыя досыць выразная.**




**Эдуард Акулін (ён нарадзіўся на Веткаўшчыне) з трывогай піша пра «зону адчужэння». Адзін з яго вершаў так і называецца — «Зона адчужэння»: «Зона адчужэння — якая жахлівая назва. Адчужэнне — ад хаты, дзе змалку рос. Адчужэнне. З сабой не возьмеш прысаду святла бяроз, асвер у двары, буслянку і трох буслят у ёй...» Другі верш «Вучу беларускаму слову...» (паэт настаўнічае ў Рэчыцкім раёне) — таксама пра адчужэнне, але ўжо іншае: «Вучу беларускаму слову. Ды ўмерці было б лягчэй, чым знесці: «Мы вучым мову, каб Вам зарабляць на хлеб...»**

**Балючых пытанняў не абмінае і Ю. Кісялеўскі, вяртаючыся ў «Зорным дажджы», скажам, у не такі яшчэ і далёкі час, калі «аж да кружэння галавы грымелі маршы і парады, і мужна маршал тылавы брывамі аддаваў загады. Ён толькі сон перамагаў, не ведаў болю і трывогі і мірным часам атрымаў славуты ордэн «Перамогі».**

**Маладых хвалюе не толькі блізкае, але і далёка мінулае. Бадай, яшчэ не было ў нашай паэзіі прызыву, аўтары якога б так настойліва імкнуліся асэнсаваць далёкі дзень свайго народа, звяртаючыся да імён лепшых яго прадстаўнікоў, спрабуючы суаднесці постаці іх з тым, што робіцца сёння. Вершы «Гістарычны эцюд», «Мадонна», «Францішак Скарына», «Слова Паўлюка Багрыма», «Сляза па Кастусю Каліноўскаму», «Францішку Багушэвічу» — у Э. Акуліна, «Паўлюку Багрыму», «Балада вершніка» — у Ю. Бармуты. «Тры вершы Кастусю Каліноўскаму» — у П. Бурдыкі... Відавочная трываласць глебы, на якой узрастаюць парасткі маладой паэзіі. Гэта і радуе, і абнадзейвае.**

**Разам з тым дэбютанты бібліятэкі, як і іхнія папярэднікі, досыць часта і аднадушна апяваюць сваё вясковае маленства, вяртаюцца туды, дзе «ў матчыных казках пастух быў шчаслівы і ў поле рупліва выходзіў ратай» (С. Адамовіч), «рыпіць паціху з сенам воз, і пырхаюць самотна коні, а зоркі падаюць з нябёс ў мае малечыя далоні» (П. Бурдыка). Што ж, у аўтараў не надта багатая жыццёвая і творчая біяграфія, таму і спяваюць яны пра тое, што больш і лепш ведаюць.**

**Дарэчы, па-ранейшаму нараджэнню паэзіі больш садзейнічае вясковая стыхія: з сямі паэтаў толькі Х. Кашкурэвіч і Ю. Кісялеўскі нарадзіліся ў горадзе.**

**Зрэшты, і паэтыка іх пераважна (за выключэннем хіба Х. Кашкурэвіча) традыцыйная, без асаблівых навацый.**

**Завяршыць гэтае невялічкае слова хочацца пажаданнем:**

**— У добры час, «Бібліятэка часопіса «Маладосць»!**

**— У добры час, маладыя паэты!**

**А. ВІШНЕЎСКІ.**

ДА ПЕРШЫХ ТВОРАЎ У. Рубанава крытыка паставілася даволі прыхільна. Пазней пісьменніку даводзілася чуць папрокі за ардынарнасць герояў і канфліктаў. Сёння, калі чытачу ўжо вядомы тры кнігі У. Рубанава — «Вокны без фіранак» (1981), «Пахі адталай зямлі» (1984) і «Цёплы пух адуванчыкаў» (1987), — ёсць магчымасць глыбей зразумець кірунак творчых пошукаў аўтара, яго здабыткі і магчымасці.

Пробным каменем для любога пісьменніка была і застаецца праблема героя. Нарматыўная крытыка звычайна арыентуе аўтара на тыя ці іншыя схемы ідэальнага героя і пагардліва ставіцца да паказу жыцця звычайных людзей. Пісьменнік, творчы лёс якога арганічна звязаны з лёсам народа, не можа аддаць свой талент на эстэтызацыю выключных эмоцый героя-звышчалавека. Грамадская думка нашага часу добра ўсведамляе, да якіх катаклізмаў прыводзіць людзей масавае захапленне выключнымі героямі — незалежна ад таго, шчырае яно ці паказное.

Праблематыка прозы У. Рубанава *разгортваецца ў рэчышчы* гуманістычных традыцый беларускай літаратуры з яе абвостранай цікавасцю да лёсу і будучыні людзей з сацыяльных нізоў. Пісьменнік унутрана перакананы, што цікавасць да жыцця простых людзей ніколькі не зніжае ідэйна-філасофскіх вартасцей прозы. Мастацкія творы, прасякнутыя думкай *аб праве звычайнага чалавека* на паўнацэннае жыццё, звычайна ўздымаюцца да шырокіх сімваліка-філасофскіх абагульненняў.

У прозе У. Рубанава крытыка пакуль што вылучае яе сацыяльна-бытавы змест, хоць не меншай увагі заслугоўвае і своеасаблівая, някідкая на фоне адкрытай міфалагізацыі сімволіка і экспрэсія.

У напісаным паводле чужых успамінаў апавяданні «Пастушок» аўтар не прэтэндуе на дакладнае ўзнаўленне трагічных рэалій ваеннага часу. Пісьменнік адносіцца да пакалення, якое, нарадзіўшыся пасля вайны, адчувае яе разбуральную сілу па-свойму. Рахунак вайне ў апавяданні «Пастушок» увасоблены не толькі ў трагічных калізіях сюжэта, але і ва ўсёй канцэптуальна-вобразнай структуры, цэнтрам якой з'яўляецца думка пра лёс звычайных людзей — *дробных птушак*, гнёзды якіх гараць у вогненным смерчы. Малюнак, які ўбачыў раніцай за некалькі гадзін да сваёй пагібелі хлопчык, герой апавядання, — гэта своеасаблівы камертон, па якім настроена проза У. Рубанава: «Раней сітавак шмат вялося ў саламянай страсе старога калгаснага гумна, але яго спалілі, і сітаўкі рассяяліся, дзе іх цяпер гнёзды — Вася не ведаў». Вобраз маленькіх птушак і спаленых гнёздаў у апавяданні «Пастушок» невыпадковы. Яго сэнсавыя вытокі пачынаюцца з апавядання «Плісіца», змешчаным у першай кнізе «Вокны без фіранак». Там расказваецца, як Ахрэм Мацвяёнак не знайшоў узаемаразумення з сям'ёй вучоных-псіхолагаў, якія прапанавалі чалавеку грошы за тое, што ён паказаў рыбнае месца. Апавяданне магло быць пабудавана і на гэтай псіхалагічнай калізіі і было б не горшым, але і не лепшым за іншыя, у якіх выкрываецца эмацыянальны прымітывізм некаторых інтэлектуалаў. Але У. Рубанаў да гэтага далучае яшчэ і тое, што яму рупіць больш за іншае. Форма атрымалася не вельмі зграбная, але затое традыцыйны вобраз вяскоўца тут засвяціўся новымі гранямі. *Ахрэм Мацвяёнак заслужыў новую* мянушку і стаў Плісіцай. Гэта здарылася ранняй вясной. На беразе ракі стаялі людзі, і ніхто не ведаў, як уратаваць чалавека, якога несла ледзяная плынь. Ахрэм з незвычайнай лёгкасцю асядлаў бервяно і паплыў напярэймы асуджанаму на пагібель. «Ну акурат плісіца, — крутнуў злыселай галавой стары Даніла, прыціскаючы да грудзей шапку.—Ета ж трэба дзяржацца на той гнятовіне. Не дай божа...» З гэтага моманту за Ахрэмам і замацавала вёска новае прозвішча — Плісіца, як ганаровае званне за гатоўнасць да самаахвярнасці ў імя чалавека.

Ідучы сваім шляхам у рэчышчы нацыянальных традыцый, У. Рубанаў уздымае бытавыя малюнкі і дэталі да ўзроўню вобразаў-сімвалаў. І ў іх ува*соблены роздум пісьменніка пра* веліч душы нашага народа і яго хісткае шчасце ў цёмных вірах эпохі.

дэкларацыйны, г зн. усвядомлены праграмны кірунак. Прыбіты дажджом лясны канёк — зноў-такі дробная птушка, па велічыні такая ж, як і пліска, — адагрэўшыся, рвецца на святло і трапляе ў распаленую печ. Гэта мініяцюра «На святло», якая сваёй змястоўнасцю нагадвае лепшыя ўзоры філасофска-алегарычнай прозы. Падобныя мастацкія структуры з'яўляюцца вынікам глыбокага *разумення шляхоў* маладога пакалення, якое ва ўмовах узмоцненай урбанізацыі шукае святла на стыку дзвюх стыхій:

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

**Аляксей РАГУЛЯ**

# ДА ЛЮДЗЕЙ ІДУЧЫ

**Нататкі аб прозе Уладзіслава РУБАНАВА**

Проза прадстаўнікоў старэйшага пакалення зрабіла многае для таго, каб знайсці «філасофскі камень» (В. Быкаў) эпохі, вызначыць агульныя заканамернасці ў гістарычным абліччы даваеннага і ваеннага часоў. *Прадстаўнікі пасляваенных* пакаленняў настойліва суадносяць сучаснасць з блізкім і далёкім мінулым. У плане праблематычным проза У. Рубанава мае шмат агульнага з прозай А. Жука, В. Гігевіча, Г. Далідовіча, якіх не так даўно лічылі ў першую чаргу пісьменнікамі эпохі НТР. Проза У. Рубанава — гэта голас пакалення, якое на ўзлёце развіталася назаўсёды са сваімі гнёздамі ў Рэпкавічах ці Малінаўках, што ў хуткім часе афіцыйна былі залічаны да неперспектыўных, пазбаўленых будучыні. Ва ўмовах гарадскога побыту, дзе стандартызацыя выцручвае рэшткі нацыянальнай бытавой культуры і мовы, замяняючы іх культурай масавай і канцылярска-бульварным жаргонам, мігранты адчуваюць сябе няўтульна. У. Рубанава цікавіць здольнасць мігрантаў супрацьстаяць пагрозе духоўнага збяд*нення. Пісьменнік імкнецца* акрэсліць перш за ўсё маральна-эстэтычныя арыенціры. Таму У. Рубанаў у сваіх апавяданнях звяртаецца да сацыяльна-псіхалагічных тыпаў, якія даўно сталі традыцыйнымі ў нашай прозе. «Працу я люблю ўсё жыццё», — гаворыць пра сябе адзінокая пажылая жанчына ў адным з апавяданняў пра вёску. Словы гэтыя нічога не гавораць юным модніцам з горада, што пакутуюць у восеньскай баразне: у іх зусім іншае ўяўленне пра любоў і працу.

Праблема пераемнасці маральных каштоўнасцей стала адметнай рысай сучаснай літаратуры. У. Рубанаў вырашае яе па-свойму: пісьменніка цікавіць вастрыня маральнага зроку. Яна ўласціва персанажам яго апавяданняў пра вёску — «Буслы на снезе», «Тры дні ў касавіцу», «Усё жыццё любіла». Зрок героя-апавядальніка У. Рубанава здольны і ў гарадской мітусні вылучыць маленькага чалавека, «дробную птушку» з вялікім сэрцам або з вялікай ранай. У аўтарскім набытку з'яўляюцца апавяданні, рызыкоўныя з этычнага пункту гледжання. У імпрэсіі «Люсінка» размова ідзе пра карліц, якія прагнуць паўнацэннага дзявочага і мацярынскага шчасця. У мініяцюры «Праз дарогу» гаворыцца пра неаслабнае духоўнае і фізічнае напружанне дзяўчыны, якая на мыліцах пераходзіць вуліцу. У. Рубанава цікавіць штодзённая драма звычайнага жыцця, ён аддае сваю ўвагу не чалавеку на хадулях, а чалавеку на мыліцах, яго імкненням да святла і шчасця. У тэматыцы і пабудове сюжэта апавяданняў празаіка выразна адчуваецца іх за плячыма ў яго дзяцінства, працоўны ўклад вёскі, яшчэ не разбэшчанай спажывецкімі амбіцыямі, а наперадзе — цынізм, узведзены ў норму дэнацыяналізаванай бюракратыяй, бульварныя эталоны эрзац-культуры. *Шмат хто з маладых* мігрантаў рынуўся на падманлівае святло, спапяліўшы сваю душу. Невыпадкова ў апавяданні «Перад вяселлем» прычынай для знаёмства сталася ўсяго толькі імкненне героя як-небудзь прадухіліць магчымую памылку зусім яшчэ наіўнай студэнткі.

Зло можа аплесці душу нібы «чорны павой», калі выкарыстаць вельмі ёмкі вобраз з аднайменнай аповесці А. Жука. У. Рубанава цікавіць здаровы інстынкт, які кіруе асобу да святла. У раннім апавяданні «Свеціцца лісце» юнак Алесь адчувае, што яму нечага «нестае». Ён многа думае, але яму здаецца, што яго думкі «не тыя, не галоўныя», што глыбіня іх уяўная. І сапраўды, да сутнасці справы выпускнік універсітэта пакуль што не дайшоў. Ён думае, што першапрычына яго турбот — неакрэсле*ныя адносіны* з Людкай. Аднак чаканая «таямнічая відушчасць» не прыйшла да Алеся і пасля таго, як яны з Людкай выпілі на ўлонні прыроды марачнага віна і ўволю нагледзеліся ў вочы адно другому. А тым часам чорны павой бездухоўнасці паціху, але настойліва вяжа рукі. Праўда, калі наляцеў вецер, Алесь раптам зрабіў адкрыццё *для сябе: лісце спадыспаду* свеціцца. Але не ўсіх гэтае святло кранае. Духоўныя патрэбы Людкі абмяжоўваюцца на дадзеным этапе мадэрнымі джынсамі, чорным блішчастым раменьчыкам, што «туга абцягваў яе бёдры, роўна абразаючы ніз ружовай гіпюравай кофтачкі з кароткімі рукавамі», бутэлькай марачнага віна і партрэтам Алы Пугачовай.

Зрэшты, гэта і не дзіва: жывучы ў горадзе, можна многаму навучыцца. А вось трактарыст Пецька з апавядання «Артыстка» хоць і універсітэтаў не канчаў, але ведае, якія асалоды можна ўзяць ад жыцця, калі цябе ранняй вясной клапатлівы прафком ні з таго, ні з сяго выпіхнуў на курорт, калі з першага дня табе сустрэлася такая рахманая гарадская зорка — артыстка. Аднак з Рэгінай адпрацаваны стэрэатып курортнага рамана не атрымаўся: яна непрыкметна змагла павярнуць Пецьку Хведаронка да зусім іншых сфер чалавечых адносін. Пецька з яго сялянскім здаровым розумам зразумеў, што Рэгіна жыве ў іншым духоўным вымярэнні, што ўбачаны, адшуканы з яе дапамогаю свет адразу ж стаў і згубленым назаўсёды. Аднак пісьменнік дае чытачу зразумець, што ў душы юнака застаецца і след высокага хвалявання, пакінутага сустрэчай з Рэгінай.

Як правіла, У. Рубанаў не спяшаецца фарсіраваць развіццё канфлікту. Ён больш дбае пра яго псіхалагічнае забеспячэнне і дасягае поспеху. Бывае, праўда, што пісьменнік адступае ад гэтага ўласнага прынцыпу, тады яго герой з усімі яго слабасцямі і хваробамі становіцца ўзорным, але схематычным «барацьбітом», а ад твора павявае водарам літаратуршчыны, жыццёвая праблема здымаецца. Так здарылася з апавяданнем «Леапольд». Бывае, што з-за недахопу сацыяльнага матэрыялу У. Рубанаў праз меру эксплуатуе алегорыю («На радаўніцу»). У большасці ж выпадкаў сюжэт твора разгортваецца натуральна, непаспешліва. Аўтар звычайна спыняе апавяданне якраз тады, калі контуры жыццёвай праблемы чытач бачыць зусім выразна. У апавяданні «Паляванне» некалькі эпізодаў з жыцця дырэктара нарыхтоўчай канторы пераконваюць чытача ў тым, што Васіль Кастагрыз — гэта браканьер і ў лесе, і на рабоце. Яго мэта — пабольш адхапіць. Яго мараль — гэта мараль чалавека, сфарміраванага на ніжняй ступені бюракратычнай іерархіі ва ўмовах чыноўніцкага разбою. Узяць хабар, забіць лася — гэта для Кастагрыза будзённы занятак. Сэнсавую кульмінацыю ў апавяданні складае заключная сцэна, калі браканьер знаходзіць прытулак у гасціннай хаце ахоўнікаў прыроды — адзінокіх і нямоглых старых. Здаецца, што вось яшчэ адзін крок — і Кастагрыз нарэшце будзе апазнаны, хіжы звер трапіць у пастку, але гэтага не здарылася, старыя ведаюць перш за ўсё закон гасціннасці.

Грамадзянскі пафас апавяданняў і аповесцяў У. Рубанава не ляжыць на паверхні. Яго творы прасякнуты турботнай думкай аб тым, што зло вельмі спрытна жывіцца сокамі чалавечай дабраты, што народу, абяскроўленаму незлічонымі стратамі сваіх лепшых дзяцей, цяжка адразу перамагчы зло. Маладому пакаленню сёння не лёгка адшукаць прасветліны яшчэ і таму, што яно пачынае сваё жыццё на новым духоўным грунце. Творчая самастойнасць У. Рубанава праявілася ў тым, што ён не пайшоў за шаблонамі, якіх прытрымліваюцца кан'юнктуршчыкі, падкія на выгадныя сацыяльныя заказы ад бюракратыі. Такія пісьменнікі, услаўляючы экстэнсіўныя формы гаспадарання, вывозяць сваіх герояў за свет, нібыта ў сябе дома няма маладому чалавеку месца для рэальнага самасцвярджэння, нібы ў сваім краі жыццё несапраўднае.

У. Рубанаў прыйшоў у літаратуру з перакананнем, што праблему грамадскага самасцвярджэння чалавек павінен вырашыць перш за ўсё ў сябе дома, на сваёй зямлі. Ён павінен быць яе гаспадаром. Але і тут У. Рубанаў не спяшаецца, ён спыняецца на першапачатковым этапе гэтай задачы. У аповесці «Каштаны» мнагазначнай з'яўляецца і сама назва твора, і прозвішча яго галоўнага героя Пятра Чаранка, якому назад у вёску няма вяртання, а на гарадской глебе Чаранок адчувае сябе перасаджаным каштанам. Мікрабіёлаг Пятро Чаранок яшчэ не ўзняўся на такую вышыню, каб адчуваць сябе гаспадаром жыцця ў горадзе. Ён нават і задачы такой сабе не ставіць, хоць, праўда, унутры жыве непахіснае жаданне застацца самім сабой. Ажыццявіць гэта ў атмасферы застойных гадоў было нялёгка. «Запомні, — чуе Чаранок ад свайго гарадскога сябра, — чалавек ніколі не даб'ецца мэты, калі будзе толькі слухаць «души прекрасные

(Заканчэнне на стар. 6).



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# ДА ЛЮДЗЕЙ ІДУЧЫ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

порывы». Хай сабе не адразу, але ўсё ж Чаранок знайшоў магчымасць супрацьпаставіць прыстасавальніцтву сваю альтэрнатыву: «Чалавек павінен імкнуцца да мэты, як промні сонца да зямлі». Асвятліць і сагрэць зямлю — гэта не зусім тое, што знайсці прасветліны. Праўда, сентэнцыя гэта ўзята героем не з уласнага вопыту, а хутчэй за ўсё з «казак жыцця» Я. Коласа. Чаранок пакуль што сяк-так прышчапіўся да гарадскога жыцця, ад вялікай мэты яго адцягваюць бытавыя клопаты.

Творчай удачай аповесці трэба лічыць і тое, што аўтар звёў на адну жыццёвую дарогу Пятра і Ірыну, якая, як потым высветлілася, зведала ў юнацтве чалавечую подласць і жыла ў атмасферы душэўнай неўладкаванасці. Ірына — дачка вядомага прафесара, у яе генетычнай памяці няма таго грузу мужыцкай нядолі і пачуцця абавязку перад бацькаўшчынай, якія вызначаюць далёкія мэты Чаранка. Аднак іх яднае пачуццё адрынутых. Аўтар дае зразумець, што да ідыліі яго героям яшчэ далёка.

Прывычка ідэалізаваць героя ўсё ж яшчэ да канца не выкаранена ў аповесці «Каштаны». Занадта лёгка і проста Чаранок прышчапіўся ў «Белгіпрабіясінтэзе», занадта лёгка, як бы між іншым, ён раптам робіць адкрыццё, занадта лёгка прыходзіць да яго прызнанне. Фінал аповесці, праўда, дае магчымасць адчуць, што Чаранка клічуць новыя далягляды, да канца яшчэ не ўсвядомленыя абавязкі перад бацькаўшчынай, якія нельга абмежаваць службай у «Белгіпрабіясінтэзе».

Аповесці У. Рубанава паказваюць, як малады сучаснік пераадольвае свой грамадзянскі інфантылізм і эгацэнтрызм. У аповесці «Разам па жыцці» ў журналіста Мікалая Бібічыка таксама хапае дробязных і не зусім дробязных клопатаў, але пунктам адліку на шкале каштоўнасцей стаў «немы крык» народа. Ён чуе яго, калі на турысцкіх аўтобусах чытае надпіс «ХАТЫНЬ». Невыпадкова духоўнае жыццё героя пачынаецца ў аповесці з наведвання шпіталя для інвалідаў вайны. Сабраныя разам, яны выклікаюць у чалавека з пасляваеннай рэчаіснасці пачуццё пашаны, гордасці і жаху: «Чэрап у чалавека нейкі плоскі, жоўты, сухі, як струк. Замест вачэй зеўралі ружовыя глыбокія ямкі з *вузялкамі-папурышкамі*, падобныя на сухія, зморшчаныя гарошыны; носа няма, а толькі дзве прадаўгаватыя дзіркі». Мікалай Бібічык чуе голас чалавека, якога нянькі дзесяткі гадоў носяць на руках: «Я выжыў, каб расказаць табе гэта, а ты запомні гэта, ты...» Запомніць то Бібічык запомніў, але як матэрыялізаваць энергію народнага болю, пераплавіць яе ў дзейсную грамадскую сілу — гэтага малады журналіст не ведае. Далягляды пісьменніка, зразумела, значна шырэйшыя, чым у героя аповесці. Увесь вопыт духоўных кантактаў Бібічыка з бязрукім інвалідам вайны Пятром Максімавічам падводзіць чытача да маральнага імператыву: спадчына маладога пакалення — гэта перамога над фашызмам і знявечаныя бацькі, знявечаная бацькаўшчына, трэба і самім дбаць пра будучыню, *бо ў бацькоў проста* не хапіла рук для змагання за яе на ўсіх франтах.

У аповесці «Грыбавар» аўтар раскрывае новыя грані гэтай ідэі. На жыццё вяскоўцаў аўтар прапануе глянуць крыху ў іншым ракурсе. Многім маладым сучаснікам, што выраслі ва ўмовах маральнага рэлятывізму, бракуе духоўнай стабільнасці. Аўтар дае магчымасць убачыць знутры ўнутраны свет і інтарэсы людзей, чый маральны вопыт складае асноўнае духоўнае багацце нацыі. Грышка Пруцікаў застаўся самім сабой, прайшоў многія суровыя выпрабаванні. Ён — нібы герой народнага эпасу: знешне непрыкметны, някідкі, але шчодры душой. Прапанаваная аўтарам шкала ацэнкі маральных каштоўнасцей не новая. Заслуга У. Рубанава ў тым, што ён, раскрываючы духоўны свет чалавека працы знутры, можа адначасова глянуць на яго і з гістарычнай дыстанцыі. У выніку складваецца малюнак жыцця з характэрнай гамай светаценяў — адметная асаблівасць беларускай літаратуры з яе цікавасцю да лёсу дробных птахаў—вялікіх працаўнікоў Зяблікаў, Драздоў, Дзятлікаў, Плісіцаў.

Грышку Пруцікава не маглі збіць з дарогі ніякія віхуры. Ён заўсёды ведаў, *што трэба* рабіць, каб прадухіліць бяду, заўсёды была ўпэўненасць, што будучыня прыйдзе. Праўда, якая яна будзе,—пра гэта не думалася, бо Грышку наогул мала цікавілі абстрактныя пытанні. Калі ёсць зямля, вада, лес, паветра, у чалавека з рукамі будзе і ўсё, што трэба да жыцця. Галоўнае, што з вайны вярнуўся. Іншыя нечаканасці не маглі парушыць стабільнага светаадчування, часам яны нават давалі кампенсацыю стратам. Адстаў Грышка ад поезда — затое знайшоў сабе на ўсё жыццё цыганку Ліску, якая стала жонкай Лісаветкай. Пасварыўся ён са старшынёй Родчанкам — і, змагаючыся са стыхіяй, стаў героем, атрымаў узнагароду з рук кіраўніка рэспублікі.

І ўсё ж паступова недзе на дне душы нарастала ў Грышкі Пруцікава трывога — «тое *хліпкае, што знібела* ледзьледзь і задрыжаць якое на поўную сілу мог прымусіць адно чужы дотык».

«Дотык» — споведзь падпітага начальніка Міротнікава — гэта толькі штуршок да непрывычнага роздуму. Эпічнае светаадчуванне парушалася даўно. З'ехала на БАМ дачка, выйшла там замуж, а потым бацькоў папярэдзіла, каб унукаў не чакалі. У апошнія месяцы службы ў войску сын парушыў закон і трапіў у дысцыплінарны батальён. Сам Грышка — былы франтавік, выдатны трактарыст і грыбавар,—хто ён сёння ў адносінах з Міротнікавым? Яго начальнік — васал у большых начальнікаў, якія са сваімі сем'ямі і знаёмымі любяць балявацЬ за кошт падначаленых на ўлонні прыроды. Падобныя норавы ўжо сталі як бы звычаёвым правам, і вось ужо Грышка ладзіць *новаспечаным панам* лазню, вартуе дом паляўнічага. За старанне яму могуць паднесці чарку гарэлкі, дазволяць запрэгчыся ў каляску, каб пакатаць навааўленага панічыка. А хлопчыку вельмі ўжо падабаецца паганяць такога добрага і аб'езджанага каня. Атрымліваецца, што адначасова з грыбаварам Грышкам дзесьці ў бюракратычных зарасніках вараць атрутнае піва Міротнікаў і яго апекуны. Іхнія ўцехі не вабяць Грышку, ён заўсёды стараўся «адкалоць сябе ад гэтых людзей», чуў у душы «барацьбу, мабыць, не столькі ім зразуметую, колькі выкрасаную з душы нутраным чуццём». Да пэўнага часу такая барацьба ратавала душу, сам Грышка Пруцікаў і цяпер застаецца непахісным. Іншая рэч — дзеці. Ці гатовы яны перамагчы спакусы лёгкага жыцця, забыцця? Ці ўсё бацькі зрабілі, каб засцерагчы іх ад маральнай пошасці?

У. Рубанаў не спяшаецца даваць суцяшальныя адказы на падобныя пытанні. Акрамя тых, хто шукае выйсце ў таямнічыя прасветліны жыцця, ёсць і такія героі, у якіх «чорны павой» адабраў зрок, звязаў крылы. У іх хоць і жыве памяць пра нейкія парыванні, але духоўных сіл стае адно на трапятанне — як у таго каралька, тутэйшага калібры, што лётае толькі паміж галінамі і сукамі. Пра гэта пісьменнік расказаў па-мастацку пераканаўча ў апавяданні з іранічным загалоўкам «Ты мне вярнула пяшчоту» і ў аповесці «Грэцкі арэх». «Нейкі ён цьмяны, непрасветлены, герой гэтай аповесці, — робіць цікавае назіранне крытык М. Кенька, — не зразумееш, чаго ён хоча, да чаго імкнецца, якую жар-птушку шукае». Праўда, прыняць бясспрэчна ўсё ў гэтым выказванні нельга, бо герой у аповесці «Грэцкі арэх» якраз «прасветлены» ў такой меры, што вельмі добра бачыцца яго маральная няпэўнасць, «цьмянасць». Перад намі паўстае вобраз духоўнага імпатэнта, калекі бяскроўнай вайны, пра якую пакуль што не часта мы можам прачытаць на старонках кніг пра сучаснасць. У аповесці добра відаць і радаводная тыпа, які страціў здольнасць да ўзнаўлення і падтрымання духоўных каштоўнасцей. Яго духоўныя сваякі — гэта «рускі чалавек на rendez vous» — прадукт грамадскага застою ў часы прыгону», «непрыкаяныя маладзікі», паводле трапнай ацэнкі А. Асіпенкі, — прадукт застою ў нядаўнім мінулым. Падобныя тыпы ў апавяданнях У. Рубанава выяўлены даволі-такі добра. Адчуваецца, што пісьменнік працуе ў рэчышчы аналітычных традыцый сур'ёзнай літаратуры, што адшуканы ім кірунак мастацкага даследавання супярэчнасцей жыцця плённы і перспектыўны.

**«Адкрываць таленты — значыць перш за ўсё шукаць іх», — гаварыў сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак, адкрываючы рэспубліканскі семінар кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў. Семінар, нагадаем, адбыўся сёлетняй вясной, у ім удзельнічала звыш 50 чалавек з абласцей рэспублікі і сталіцы. На ім адзначалася, што не ўсюды да літаб'яднанняў ставяцца з належнай увагай, а гэта адмоўна ўплывае на прыток моладзі ў літаратуру.**

**Пра гэта і пра многае іншае пішуць паэт і журналіст Мікола Трафімчук, а таксама нашы карэспандэнты з Гродна і Гомеля.**

Ад слоў «перабудова», «галоснасць», «дэмакратызацыя» пасвятлела навокал. А яшчэ больш—ад спраў, якія паскорылі крэн у светлы, сонечны бок. Больш сонца—больш цяпла і святла. Больш галоснасці і дэмакратыі —больш адкрытасці і грамадзянскай смеласці. Гэта і ёсць спрыяльная ўмова для развіцця літаратуры, паэзіі!

Прачыталіся аднойчы радкі з верша ўкраінскай паэтэсы Ліны Кастэнка: «Не было эпохі для паэтаў...» Напраўду, не было! Але ж *павінна* быць калі-небудзь. Мо яна сёння пачынаецца?

Калі нас цікавіць паэзія—гэта азначае: нас цікавіць чала*вечая душа. Літаратурная* ж творчасць якраз і пачынаецца з жадання пазнаць сябе, сваю душу. Яна, аказваецца, у кожнага сапраўды свая, непаўторная. І кожны мае прыроднае права на споведзь. Чаму ж тады так клапоцяцца пра недатыкальнасць свайго клана некаторыя прафесійныя літаратары?

# ЯК РЭЧКА ПАЧЫНАЕЦЦА З КРЫНІЦ...

Два гады назад у культурным жыцці Гродзеншчыны адбылася адметная падзея: выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет кнігу «Краю мой — Нёман» з прадмовай Васіля Быкава. У зборніку знайшлі месца вершы, проза, крытычныя артыкулы амаль трыццаці аўтараў. Нядаўна Юрка Голуб паведаміў, што рэдкалегія рыхтуе чарговае выданне, работа па рэдагаванню матэрыялу заканчваецца.

Штогод з'яўляюцца новыя прозвішчы, да літаратуры далучаецца моладзь. І найбольш яскрава гэта відаць, калі гартаеш раённыя газеты.

Бясспрэчна, што ўзровень вершаваных радкоў, апавяданняў, *замалёвак, рэцэнзій* вельмі і вельмі розны. Ды ці й трэба адразу чакаць ад школьніка, калгасніка, рабочага ці настаўніка свежых паэтычных вобразаў, слоўнага майстэрства? З цягам часу прыйдзе і вопыт, і майстэрства, калі, вядома, ёсць у чалавека здольнасці і прага да ведаў.

Не памылюся, калі скажу, што большасць пачынаючых літаратараў, гуртуючыся вакол «сваёй» раёнкі, менш за ўсё думаюць пра ўласныя зборнікі. Ёсць натуры, якім проста неабходна самавыказацца, сцвер-

## ЗА «КРУГЛЫМ СТАЛОМ»— ГІСТОРЫКІ

**На гістарычным факультэце БДУ імя У. І. Леніна адбылося чарговае пасяджэнне «круглага стала», на якім абмеркаваны некаторыя пытанні гісторыі Беларусі. У ім прынялі ўдзел вядомыя вучоныя — супрацоўнікі гістарычных кафедр вышэйшых навуковых устаноў Мінска і іншых гарадоў, АН БССР, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ.**

**Аб праблемах нацыянальна-вызваленчага руху ў пачатку стагоддзя, напярэдадні Кастрычніка, аб пераасэнсаванні ролі асобных дзеячаў таго перыяду гаварылі М. С. Сташкевіч, В. А. Круталевіч, У. А. Сосна, А. М. Мялешка, А. К. Бажко, М. В. Кузняцоў, В. У. Скалабан, А. І. Залескі, І. І. Коўкель (Гродна), А. Ф. Хацкевіч. Прагучалі думкі аб тым, што патрэбны адпаведныя манаграфіі, у прыватнасці, праца аб фарміраванні беларускай нацыі, што наспеў час правесці навуковую канферэнцыю па пытаннях утварэння БССР.**

**А. М. Міхальчанка, намеснік начальніка Галоўнага архіўнага ўпраўлення БССР, паведаміў пра новыя матэрыялы, якімі папоўніўся архіў.**

**Адкрыў і вёў пасяджэнне дэкан гістфака БДУ, доктар гістарычных навук Э. М. Загарульскі.**

**НАШ КАР.**

## Часопісы ў ліпені

### «НЁМАН»

**«Шасцідзесятыя — васьмідзесятыя» — падборка вершаў Ф. Яфімава. Паэзія прадстаўлена таксама творамі В. Грышановіча і М. Купрэева.**

**Публікуецца падборка твораў пісьменнікаў-фантастаў «Тэра фантастыка», заканчэнне рамана В. Адамчыка «І скажа той, хто народзіцца» (аўтарызаваны пераклад Т. Залатухінай).**

**У раздзеле «Публіцыстыка і нарысы» выступаюць У. Кажэўнікаў («Фанфары і манеты») і А. Шчарбакоў («Хто рыхтуе селяніна?»).**

**Успаміны І. Міціна «Кананада на досвітку» прапануюцца ў літаратурнай апрацоўцы А. Кейзарава.**

**А. Марачкін разважае пра творчасць Я. Драздовіча — «Паміж Мнютай і Аутай».**

**Кнігі рэцэнзуюць А. Васілевіч («Дзіцячы час» У. Машкова), Б. Бур'ян («Паўвека на сцэне» Г. Абуховіч у літаратурным запісе Т. Мушынскай) і іншыя.**

### «МАЛАДОСЦЬ»

**Друкуюцца вершы Ю. Кісялеўскага, Л. Паўлікавай, Р. Тармолы, У. Правасуда, У. Сіўчыкава.**

**Проза прадстаўлена аповесцю А. Камароўскага «Заварожаны мяч», апавяданнямі У. Кулакоўскага і В. Хомчанкі.**

**М. Ермаловіч выступае з артыкулам «Старажытная Русь. Полацкі перыяд».**

**«Кухар з дыпломам агранома» — публіцыстычны роздум Я. Чаплі, «Голас крыла» — фотарэпартаж В. Ждановіча.**

**Слова пра Р. Бярозкіна гаворыць Я. Янішчыц — «Праз трапяткое лісце год».**

### «КРЫНІЦА»

**«Форма і змест» —выступленне фармоўшчыка Мінскага аўтамабільнага завода А. Лапцева.**

**А. Бяляўскі прадстаўляе творчасць М. Арла.**

**Розныя маральна-этычныя праблемы закранаюць у сваіх выступленнях А. Байчароў «Контркультура, ці Трохі пра «нефармалаў», У. Граўцоў «Піжоны» і «кресты», Н. Громава «...Добрае слова скажацца ўсяму».**

**З мастачкай І. Малецінай гутарыць А. Глобус — «Постаці і колер».**

**Змешчаны вершы Т. Сапач, нарыс В. Яфіменкі «Вось такі будатрад», артыкулы А. Сідарэвіча «Ордэн, прэмія і званне», У. Крапушчанкі «Цярністы шлях пазнання», У. Ахраменкі «Жыццё і смерць «Ролінгстоўнз», шэраг іншых матэрыялаў.**

### «БЯРОЗКА»

**Літаратурны раздзел прадстаўлены апавяданнем Н. Маеўскай «Высокі летні дзень», навелаю У. Сіўчыкава «Гульня ў тастамант», вершамі В. Макарэвіча і М. Чарняўскага. А. Варатнікоў расказвае пра І. Дамейку — выдатнага геолага, *географа*, этнографа, даследчыка Чылі. Змешчана і заканчэнне апавядання ў малюнках «Дзікае паляванне...» А. Глобуса паводле аповесці У. Караткевіча.**

**Сярод публіцыстычных матэрыялаў — «Канфлікт... на пустцы» Г. Чыгіра, «Такім ён быў» Л. Палуды, «Выпрабавальны тэрмін» Л. Клышкі, «За радком зводкі Саўінфармбюро...» У. Цітова.**

**В. Мартыненка ў нататках «Бонда», «Мроя», «Рэй» і іншыя, або Пераадоленне бар'ера неразумення» разважае пра нялёгкія шляхі станаўлення сучаснай беларускай рок-музыкі, а Д. Лупач у нарысе «Як стаць чэмпіёнкай» расказвае пра спартыўную кар'еру гімнасткі М. Лобач.**



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

Так, кожны да вяршыні літаратурнага майстэрства мусіць прыходзіць сваёй сцяжынай. Але напрамак паказаць абавязаны ўсёвідушчы майстар. Адну, агульную сцяжыну туды пакласці немагчыма. Хто свядома шукае чыйсьці след, каб аблегчыць сабе шлях, марнуе толькі час і сілы.

# ДУХ — ВЕЛІЧЫНЯ ПАСТАЯННАЯ

Няхай даруе мне нецярплівы чытач за крыху абстрактныя разважанні. Я толькі хацеў скіраваць увагу не толькі на сацыяльны, але і псіхалагічны аспект узаемаадносін розных пакаленняў літаратараў. Якая будзе эпоха—паэтаў ці непаэтаў,—залежыць ад таго, як цесна будуць узаемадзейнічаць усе пакаленні творцаў, як кожнае з іх будзе дбаць пра сваю змену і які ўплыў усе яны разам будуць аказваць на грамадскае жыццё.

Неяк «Литературная газета» адвяла была тэме «майстроў і падмайстэр'яў» усю старонку. Аб праблемах пераемнасці ў літаратуры, змены пакаленняў, станаўленні маладых літаратараў абмяняліся думкамі майстар паэтычнага цэха Леў Озераў і малады паэт Генадзь Краснікаў. Аднак размова на гэтым чамусьці была спынена. Мне думаецца, што ў душах многіх творцаў яна ўсё ж выклікала пэўны рэзананс. Тым больш, што ў разважаннях абодвух аўтараў было шмат спрэчных момантаў. Аднак дыскусіі не атрымалася. Ці не таму, што ў довадах Л. Озерава адзіна бясспрэчнай была, бадай што, думка аб тым, што «Саюз пісьменнікаў не спраўляецца, не можа справіцца з літаратурнымі аб'яднаннямі... Тут пануе самацёк. Ніхто не цікавіцца людзьмі, сярод якіх ёсць, бясспрэчна, даравітыя...»

Самацёк ёсць самацёк... На якія толькі стыхійныя плыні не выносіла і аўтара гэтых нататак! «Заранка», «Крыніца», «Ясельда», «Світанак»... Найбольш магутнай на Брэстчыне была тады плынь «Крыніцы»—літаратурнага аб'яднання пры бярозаўскай райгазеце «Маяк коммунизма». Дзякуючы, вядома, энтузіясту літаратурнай справы, тагачаснаму намесніку, а зараз рэдактару газеты Яўгену Васільевічу Сялені. Ды і той факт, што поруч з ім заўсёды была прыцягальная па сіле духу і паэтычнай абаяльнасці Ніна Мацяш, надавала гэтай плыні і вядомасць і папулярнасць. У Бярозаўскі РДК паслухаць сваіх паэтаў і празаікаў збіраліся сотні людзей.

Ведаю шмат літаратурных аб'яднанняў, і не толькі берасцейскіх, а вось бярозаўская «Крыніца»—выключнае. І ў першую чаргу—самавітасцю ўсіх разам і кожнага паасобку. Неяк павялося тут да літаратуры і літсупольніцкай справы адносіцца сур'ёзна, з велікадушнай павагай і далікатнасцю.

А якія паважаныя, салідныя людзі гуртаваліся вакол Яўгена Васільевіча Сялені і Ніны Іосіфаўны Мацяш! Я гавару «гуртаваліся», таму што, на вялікі жаль, гэта мінулы час. Не стала ў жывых Аляксандра Авінава і Валерыя Смірнова, раз'ехаліся былы першы сакратар Бярозаўскага РК КПБ Пётр Лебедзеў і служачы Аляксандр Пашчанка, выйшлі ў шырокі свет Святлана Алексіевіч і Зінаіда Дудзюк. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што знешне быццам нічога і не змянілася. Па-ранейшаму ў «Маяке коммунизма» выходзяць літаратурныя старонкі, у якіх змяшчаюцца творы тых жа даўно знаёмых аўтараў: Ніны Мацяш, Алеся Разанава, Зінаіды Дудзюк, Васіля Сахарчука, Аляксандра Бярнацкага... Яны па традыцыі не парываюць сувязей з «Крыніцай», якая і бруіць дзякуючы іх нязменнай вернасці. А вось свежых струменьчыкаў даўно няма. Няма, таму што прайшло суцэльнае асушэнне.

Як у прыродзе, так і ў народзе. Хто ж будзе клапаціцца сёння тут аб свежых сілах, калі амаль усе «крынічане» далёка ад сваёй «Крыніцы»? А ў Яўгена Васільевіча прыбавілася шмат іншых пільных дзяржаўных і партыйных клопатаў, а ў наменклатурных спісах кіраўнікі літаб'яднанняў адсутнічаюць. Балазе па наменклатуры яны не прызначаюцца. Яны прыходзяць самі. Яны—тыя мецэнаты, тыя «прарабы духу», колькасць якіх не даводзіцца ні планамі, ні дырэктывамі зверху. Праўда, іх мала. Дырэктывай зверху іх, вядома, можна колькасна павялічыць, толькі дух непадуладны ніякім дырэктывам, дух—ён вышэй за ўсё, ён—самая вялікая загадка прыроды.

А можа, і дух—велічыня непастаянная, ён то пакідае зямлю, то зноў на яе апускаецца? Сёння мы дружна журымся на бездухоўнасць, праходзячы міма выставак жывапісу і тэатра, не даслухаўшы па радыё санату Бетховена, не разгарнуўшы ў кнігарні зборнік паэзіі Багдановіча... Скардзімся на адсутнасць часу, на стрэсы на рабоце, на неўладкаванасць у жыцці. Быццам не мы гаспадары жыцця, а нейкія прышэльцы з НЛА.

Не, дух—велічыня пастаянная. Калі, вядома, пастаянныя мы самі.

У свой час «крынічане» бераглі духоўнасць, а яна ў знак удзячнасці берагла іх.

Калі праб'юцца да бярозаўскай «Крыніцы» новыя падземныя струмені, якія вернуць ёй былую бруістасць? Хто адкажа?

«Пісьменнік—расліна шматгадовая»,—пісаў Аляксандр Блок. Творчы лёс у нечым сапраўды падобны да лёсу раслін, што змушаны пераносіць спякоты і завеі, квітнець і жухнуць, сцінацца пад корань і зноў адрастаць. Калі за раслінамі ёсць догляд—будзе, безумоўна, і плён.

Ды вельмі ж яшчэ неўрадлівыя, занядбаныя тыя нівы, на якіх спрабуюць прарасці і расквітнець маладыя таленты. Вось чаму няма іх ні на Маларытчыне і на кобрынскай зямлі, ні на Лунінеччыне і Століншчыне.

Зрэшты: берасцейцам даўно ўжо няма дзе друкавацца. Калісьці, у пяцідзесятыя гады, выходзіў альманах «Буг». Цяпер у пачынаючых літаратараў Брэстчыны ёсць толькі кволыя надзеі на чацвёртую паласу абласной газеты «Заря», дзе, калі пашанцуе, можа з'явіцца нарэшце хоць адзін яго вершык. Ёсць, праўда, яшчэ адна магчымасць выйсці на аўдыторыю, нават рэспубліканскую—тэлевізійны літаратурна-мастацкі часопіс «Буг». Вось і ўсё!

Ніхто, зрэшты, не патрабаваў і не патрабуе, каб пры кожнай райгазеце было створана літаратурнае аб'яднанне. Ды і як патрабаваць, калі «душы не загадаеш». Аднак калі яна прачынаецца, гэта трэба вітаць, трэба песціць і берагчы яе.

Каб усе вакантныя месцы ў літаратуры былі заняты толькі талентамі, каб бяздарнасцям не было куды і прабіцца—вось дзеля чаго патрэбны настаўнікі-мецэнаты, вось у чым высокі сэнс бескарыслівага мецэнацтва.

**Мікола ТРАФІМЧУК.**
г. п. Драгічын.

дзіць сябе ў паэтычным слове. Такое пачуццё выклікаюць, скажам, вершы С. Мазалевіча з Навагрудка, З. Тарасевіч з Воранава, А. Сазановіча і А. Міхуты з Ваўкавыска, В. Русаковіч і Ч. Дзерачанскага з Ашмяншчыны, Р. Пастухова са Слоніма і іншых. І ўсё ж адчуваецца, што мясцовым аўтарам вельмі патрэбна дапамога вопытнага літкансультанта, цесная сувязь з іншымі літгурткоўцамі, калі, зразумела, наогул існуе пры рэдакцыі райгазеты літаратурнае аб'яднанне.

Практыка сведчыць, што там, дзе моцнае літаб'яднанне, — там і спробы пяра пачаткоўцаў заслугоўваюць увагі. На Гродзеншчыне, на маю думку, найбольшага поспеху дасягнула літаратурнае аб'яднанне пры рэдакцыі зэльвенскай раённай газеты «Праца». Застаецца толькі па-добраму пазайздросціць яе нязменнаму кіраўніку настаўніку Дзярэчынскай сярэдняй школы П. М. Марціноўскаму. З яго лёгкай рукі адчулі хараство роднага слова У. Мазго, С. Чыгрын, І. Навуменка, В. Ададурава, М. Скобла.

Нядрэнныя літаб'яднанні ёсць пры лідскай, мастоўскай, слонімскай, ваўкавыскай райгазетах. Апошняя некалькі гадоў назад адкрыла братоў Дэбішаў — Анатоля і Васіля. Кіруе літаратурным аб'яднаннем пры газеце «Знамя Октября» паэт-франтавік С. А. Бандарэнка.

Жыхары Слонімшчыны рэгулярна знаёмяцца праз райгазету з новымі вершамі Анатоля Іверса, Алены Руцкай. Ды не толькі яны прапануюць свае творы літстаронцы. У поўны голас заявілі пра сябе Уладзімір Бутрамееў, Сяргей Чыгрын. Шмат гадоў друкуецца Аляксей Якімовіч, настаўнік, які жыве ў в. Касцяні. Ён піша ў асноўным апавяданні. Летась на рэспубліканскім конкурсе на лепшы твор для дзяцей атрымаў заахвочвальную прэмію. У конкурсе на лепшую песню вызначыўся самадзейны паэт Янка Насута, які атрымаў другую прэмію. Гэты аўтар з Ліды. Увогуле, літстаронка лідскай газеты вылучаецца жанравым багаццем.

Летась на Гродзеншчыне актыўна друкавалася каля трыццаці пастаянных аўтараў. У цэлым было надрукавана дзве дакументальныя аповесці, урывак з мастацкай аповесці У. Бутрамеева, добры дзесятак апавяданняў, лепшае з якіх — «Лёнік» — належыць журналісту са Смаргоні Генрыху Мініну і з'явілася на старонках раённай газеты «Светлы шлях». Шмат было замалёвак, рэцэнзій на новыя кнігі землякоў, абразкоў, нават некалькі песень. І ў той жа час бракуе рэгулярных глыбокіх і грунтоўных аглядаў паэтычнай пошты. Аналіз такі рабіўся літаральна ў некалькіх артыкулах зэльвенскай райгазеты «Праца», навагрудскай «Новае жыццё», мастоўскай «Зара над Нёманам». Нестае, думаецца, кваліфікаваных рэцэнзентаў.

Чаму, скажам, абласному аддзяленню СП БССР, якое аб'ядноўвае 11 пісьменнікаў, не курыраваць пэўныя рэдакцыі райгазет, не гутарыць з пачаткоўцамі, членамі літаб'яднанняў? Такія сустрэчы і творчыя абмены думкамі куды больш дадуць пачынаючым літаратарам, чым кніжная навука.

Зазначу і такую акалічнасць: у раёнах, дзе літаб'яднанні пры газетах існуюць сімвалічна альбо працуюць слаба, — там знаходзяць спрыяльную глебу для друкавання сваіх опусаў графаманы, якія да тых мясцін адносін не маюць. Калісьці, пад час працы на Міншчыне, упершыню давялося сутыкнуцца з вершамі М. Алтухова. Аказалася, што не толькі рэдакцыі суседняй вобласці трымаюць абарону ад напорыстай атакі гэтага аўтара. Гродзеншчына таксама не абыдзена яго ўвагай.

Дзіву іншы раз даешся, атрымліваючы ў рэдакцыйнай пошце канверты са зваротнымі адрасамі Кіева, Масквы, гарадоў Сібіры. Вось табе і сціплая раённая газета!.. Аднак усё вельмі проста: капейчына да капейчыны — рубель набяжыць. Хто там угледзіць, што вершы пад капірку аднаго і таго ж аўтара з'яўляюцца ў райгазетах Беларусі, Кіргізіі ці Далёкага Усходу?

Рэдакцыя свіслацкай раённай газеты «Заветы Ильича» часта летась друкавала вершы А. Дзяменцьева, Н. Энтэліса, А. Папярэчнага, А. Смольнікава, Л. Шчыпахінай, С. Астравога, В. Дзямідава. Што і казаць: гэта вядомыя савецкія паэты. Аднак чаму не знаходзіцца месца беларускім пісьменнікам, тым, хто жыве ў вобласці, урэшце?

Застаецца толькі згадаць, што магутная плынь рэчкі пачынаецца з кволага ручайка ці крыніцы. Так і шматграннае жыццё літаратуры немагчыма без прытоку новых таленавітых аўтараў, пошук якіх павінен пачынацца менавіта ў глыбінцы.

**В. ЗАДАЛЯ.**
г. Гродна.

# ЧВЭРЦЬ СТАРОНКІ НА ЎСІХ

На нядаўнім семінары кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў, справаздача аб якім была змешчана ў «ЛіМе», слушныя нараканні былі выказаны і ў адрас гомельскай пісьменніцкай арганізацыі. Чаму ж так здарылася, што Гомельшчына, якая ў свой час дала нам такіх слынных майстроў слова, як І. Мележ, І. Шамякін, А. Макаёнак, І. Навуменка і інш., цяпер быццам бы збяднела на таленты? Магу пагадзіцца толькі з адной агаворкай: і сёння ў нас ёсць здольныя празаікі, паэты, драматургі. Але работу з моладдзю адпаведныя арганізацыі не вядуць, належных умоў для разгортвання талентаў у нас няма. Ці не па гэтай прычыне амаль усе пісьменнікі Гомельшчыны, за выключэннем М. Даніленкі, І. Сяркова, У. Верамейчыка і В. Яраца, у свой час пераехалі жыць у Мінск? Адзіная газета «Гомельская праўда», якая часам адводзіць чвэрць старонкі паэтам, не ў стане задаволіць усіх. А празаікі і драматургі пазбаўлены і гэтай мажлівасці. Большасць жа вершаў, што з'яўляюцца на старонках абласной газеты ў апошні час, далёкія ад сапраўднай паэзіі.

І яшчэ. Па-за ўвагай Гомельскага аддзялення СП БССР застаецца і дзейнасць гарадскіх літаб'яднанняў, ад якіх, шчыра кажучы, на сённяшні дзень засталіся толькі назвы. Адзінай ластаўкай хіба што з'яўляецца літаб'яднанне «Вышыня», якое створана пры рэдакцыі шматтыражнай газеты «За высокое качество». Узначальвае яго на грамадскіх пачатках член Саюза журналістаў СССР, паэт і публіцыст Віктар Кіеня. Пры газеце плённа працуе кабінет маладога аўтара. Штомесяц гурткоўцы збіраюцца на пасяджэнні, абмяркоўваюць свае творы, даюць адзін другому карысныя парады. Я лічу, што сёння «Вышыня» аб'ядноўвае лепшых самадзейных гомельскіх аўтараў.

Каб наладзіць выданне, напрыклад, альманаха—а такая патрэба ў гамяльчан даўно наспела,—павінна быць зацікаўленасць з боку гомельскіх членаў СП БССР. А яны ў гэтым плане пакуль што пасіўнічаюць.

Упэўнены, што, калі за такую работу возьмецца энергічны, ініцыятыўны чалавек, літаратурная справа на Гомельшчыне зрушыцца з мёртвай кропкі.

**У. КАЛЕНЧЫКАЎ,**
**настаўнік.**
г. Гомель.



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ

# УСЁ Ў ТОЙ ЖА ПАЗІЦЫІ?

## ЗНОЎ ПРА ВЕРХНІ ГОРАД, МЕТРО І «НАВУЧАННЕ ДЭМАКРАТЫІ»

**Гэтая частка лімаўскай пошты вось ужо колькі месяцаў захоўваецца ў досыць пульхнай папцы. Утварылася своеасаблівае «дасье», якое час ад часу папаўняецца новымі матэрыяламі. Чытацкія допісы, вялікія калектыўныя лісты, цэлыя артыкулы, газетныя выразкі, нават копія пастановы партыйнага бюро і прафсаюзнага камітэта паважанай навуковай установы...**

**Тут «пахавана» і адна наша публікацыя — адбітак звярстанай, падрыхтаванай да друку газетнай паласы, — якая па не залежных ад рэдакцыі прычынах у свет не выйшла.**

**Тым не менш, мы вырашылі зноў увайсці ў тую ж «раку». Яшчэ раз з дапамогай чытачоў звярнуцца да канфлікту, які ў нечым прыцішыўся, у нечым — абвастрыўся, але па-ранейшаму з'яўляецца канфліктам нашых дзён. У ім цесна пераплялося многае з таго, што і сёння выклікае гарачыя спрэчкі, хвалюе і непакоіць.**

26 САКАВІКА і 5 красавіка ў газеце «Вячэрні Мінск» пад рубрыкай «Вучыцца дэмакратыі» быў надрукаваны артыкул «Пазіцыя ці поза?», які меў на мэце «не па чутках, а кампетэнтна» асвятліць шэраг праблем, што ўзніклі ў справе аховы помнікаў гісторыі і культуры ў сувязі з будаўніцтвам другой чаргі сталічнага метрапалітэна. Карэспандэнты «ВМ» звярнуліся да начальніка інстытута «Мінскметрапраект» В. У. Чаканава, кіраўніка брыгады транспарту інстытута «Мінскпраект» У. М. Вараксіна, члена спецыяльнай камісіі Дзяржбуда БССР, загадчыка кафедры БПІ Ю. А. Сабалеўскага і іншых спецыялістаў, якія засведчылі, што з усіх магчымых варыянтаў пракладка метро праз Верхні горад і размяшчэнне тут станцыі «Няміга» з'яўляецца адзіна прымальным і правільным. Грамадскасці таксама былі дадзены гарантыі, што ні будаўніцтва, якое ідзе цяпер поўным ходам, ні далейшая эксплуатацыя «падземкі» не нанясуць шкоды гістарычнаму цэнтру Мінска.

Меў згаданы артыкул і яшчэ адну мэту, дакладней — мішэнь. «Так, праблемы захавання і аднаўлення помнікаў даўніны хвалююць сёння многіх гараджан, — адзначалася ў ім. — Але на гэтым жадаюць *зарабіць* пэўную *папулярнасць* сумніцельнага характару прадстаўнікі некаторых самадзейных аб'яднанняў ды і не толькі яны. Глыбокі аналіз сітуацыі яны падмяняюць крыклівымі лозунгамі, аргументы — эфектнай ігрой на публіку, а сутнасць праблемы застаецца «за кадрам». Публікацыя ў «Вячэрнім Мінску» рэагавала на адну незвычайную і нязвыклую падзею — мітынг, які адбыўся 20 сакавіка ў скверы на плошчы Свабоды па ініцыятыве маладзёжнага аб'яднання «Талака». Сярод іншага на мітынгу прагучаў заклік спыніць будаўніцтва станцыі метро «Няміга».

Такая пастаноўка пытання карэспандэнтам «ВМ» Б. Залескаму і М. Ільюшэнку, мабыць, падалася «неглыбокай», талакоўцаў абвясцілі «крыкунамі», «пазёрамі», «дэмагогамі», а самой «Талацэ» быў учынены сапраўдны разнос. Дзеля дыскрэдытацыі суполкі ў вачах шырокай грамадскасці журналісты нават ахвяравалі прафесійнай этыкай — пайшлі да «Талакі» ў госці, «узброіўшыся» звесткамі з асабовых спраў, працоўных кніжак, студэнцкіх заліковак і міліцэйскіх пратаколаў, а таксама «кампраметуючымі» гаспадароў фотаздымкамі. Завяршаўся артыкул і ўвогуле недвухсэнсоўным палітычным абвінавачаннем: «Далей, як кажуць, ісці няма куды. Куды ж ідзе «Талака»?..» Цікава, ці не праўда, што магло звесці разам членаў «Талакі» з братамі Луцкевічамі, «людзьмі з мінулага»?».

МЕНАВІТА такая адмысловая методыка выкладання «ўрокаў дэмакратыі» найперш збянтэжыла нашых чытачоў. Вось, напрыклад, што напісалі мінчане муж і жонка **Саўко**: «Артыкул выклікаў у нас здзіўленне, а ў некаторых месцах і абурэнне. Здзіўляе, натуральна, не тэма артыкула, здзіўляе тон, якім аўтары вядуць гаворку».

А вось як адказаў на адно з пытанняў карэспандэнтаў «Вячоркі» — куды, маўляў, глядзяць «бліжэйшыя родзічы»? — пісьменнік Васіль **Сёмуха**, бацька А. Сёмухі, названай сярод ініцыятараў мітынгу на плошчы Свабоды: «Пасля публікацыі артыкула ў мяне шмат пыталіся: гэта праўда, што «Талака»—зборышча нацыяналістаў, нацыстаў, антысаветчыкаў *і сяброў Луцкевічаў*? Не, — адказваў і адказваю. Не вельмі «далёкія» Алесіны родныя, два дзяды і бабуля, леглі ў зямлю ад рук фашыстаў і іх памагатых. Мае дзеці, дачка і сын, ведаюць, хто ёсць хто, яны выхоўваліся ў духу інтэрнацыяналізму, і мне, іх бацьку, сёння радасна бачыць, што яны растуць людзьмі, не абыякавымі да лёсу роднага народа, яго гісторыі, культуры, этычных і маральных каштоўнасцей... Чаму ж такія дзікія пытанні задаюць мне людзі і газета?»

Яшчэ адзін ліст з нашага архіва... «У той дзень мы таксама *былі* ў скверы на *плошчы* Свабоды, выслухалі ўсіх прамоўцаў. Параўноўваючы бачанае на ўласныя вочы з тым, што трапіла на газетныя старонкі, мы прыйшлі да высновы, што згаданы артыкул ацэньвае «Талаку» аднабакова і ўводзіць грамадскасць у зман, — дзяліліся думкамі акцёр Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, член ЦК ЛКСМБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР **В. Манаеў** і кандыдат біялагічных навук, навуковы супрацоўнік АН БССР **Л. Тарасенка**. — Аўтараў артыкула «Пазіцыя ці поза?» злуе, што талакоўцы не вераць аптымістычным запэўніванням метрабудаўцаў. А можа, не такія ўжо і пераканаўчыя — афіцыйныя запэўніванні, змешчаныя ў «Вячэрнім Мінску»? Дарэчы, не толькі ўдзельнікаў «Талакі» не супакойвае такая інфармацыя, — вось і паважаны Васіль Быкаў выказвае заклапочанасць сітуацыяй з будаўніцтвам метро («Известия», 10 сакавіка 1988 г.). Назавём і яго крыкуном, ды яшчэ такім, які выносіць смецце з хаты? Ён жа і ўвогуле апелюе да цэнтральнага друку... «Навошта была патрэбна станцыя метро каля самых сцен архітэктурнага помніка XVII стагоддзя — Кафедральнага сабора?» — так ставіць пытанне В. Быкаў. Менавіта так ставіць пытанне і «Талака», прапануючы абвясціць мараторый на будаўніцтва да таго часу, пакуль не будуць прыняты пад увагу ўсе аргументы праціўнікаў станцыі метро «Няміга». Сёння, сем разоў адмераўшы, многае можна змяніць. Заўтра, калі метро ўвойдзе ў строй, не зменіш ужо нічога. Гэта будзе «рэальнасцю». А калі што-небудзь разваліцца, мы зноў будзем гаварыць пра памылкі і звыкла разводзіць рукамі... Справа, думаецца, не столькі ў лозунгах (дарэчы, на мітынгу быў і такі: «Верхні горад — экзамен перабудовы»), як у тым, што існуе цэлы комплекс застарэлых праблем, якія трэба было вырашаць даўно і якія доўгі час замоўчваліся. Колішняе маўчанне можна зразумець (хоць апраўдаць беспрынцыповасць нельга нічым і ніколі), але сёння вырашаць гэтыя праблемы трэба рашуча, у духу часу. Менавіта гэта мы бачым на прыкладзе «Талакі». Гэтыя маладыя хлопцы ідуць на значную рызыку — быць незразуметымі, нават абылганымі — дзеля высакароднай мэты. І гэта — пазіцыя!»

Так пісалі чытачы «ЛіМа» амаль чатыры месяцы назад. Ці трэба варушыць мінулае? Месяцы гэтыя былі вельмі насычаныя, дзейсныя. Істотна змянілася і стаўленне да нефармалаў. Тым жа «Тутэйшым», «Талацэ» і іншым суполкам прадаставіў свае старонкі і, адпаведна, усесаюзную аўдыторыю часопіс «Нёман». У адной з нядаўніх перадач радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» з талакоўцамі досыць пачціва гутарылі і спрачаліся загадчык сектара эканомікі АН БССР, доктар эканамічных навук В. Крыцкі, загадчык аддзела культуры ЦК ЛКСМБ М. Масюкоў, інструктар Мінскага абкома КПБ У. Гусараў, — было прызнана, што «Талака» «кампетэнтная ў пытаннях нацыянальнай гісторыі і культуры», а самі нефармалы самакрытычна зазначылі, што маюць патрэбу ў самаўдасканальванні, пашырэнні ведаў, узмацненні аргументацыі. Вокрыкаў, бірачак відавочна паменела...

Справа, аднак, не толькі ў «Талацэ», не толькі ў метро і не ў Верхнім горадзе. У тым, што і сёння абразлівай мянушкі «крыкуна» ці «дэмагога» рызыкуе ўдастоіцца кожны, хто зробіць замах на ведамасныя амбіцыі. Справа ў надзвычай трывалым яшчэ разуменні дэмакратыі як гульні ў адны вароты.

**Каб не быць галаслоўнымі, працытуем пачатак зусім свежага «паступлення» ў наша «дасье». «Паважаная рэдакцыя! звяртаюцца ў «ЛіМ» супрацоўнікі ВА «Белрэстаўрацыя» Э. ВЕЦЕР, Е. КУРТО, В. ГЛІННІК, Л. ЛІПСКАЯ, Н. ПЯТРОВІЧ, У. ДЗЯНІСАЎ. — Вельмі просім змясціць гэты ліст з меркаваннямі наконт праблем, узнятых у артыкуле «Пазіцыя ці поза?». Названы артыкул непасрэдна закранае сферу нашых прафесійных інтарэсаў. Апрача таго, усе мы з'яўляемся членамі секцый Таварыства аховы помнікаў і вельмі ўсхваляваны лёсам гістарычнага цэнтра горада. Пасля публікацыі артыкула «Пазіцыя ці поза?» мы даслалі свой ліст у рэдакцыю «Вячэрняга Мінска», але ніякага адказу не дачакаліся, хоць мінула ўжо шмат часу...»**

МЫ не збіраемся ўмешвацца ва ўнутранае жыццё рэдакцыі «Вячэрняга Мінска» і аспрэчваць манаполію газеты «вучыць дэмакратыі» на тэрыторыі, акрэсленай гарадской мяжой. Але звяртаючыся да праблем, вакол якіх цяпер ідуць гарачыя спрэчкі, карэспандэнты «ВМ» ці то ў спешцы, ці то знарок не пацікавіліся думкай навуковай грамадскасці, у прыватнасці, спецыялістаў у галіне аховы помнікаў — гісторыкаў, археолагаў, рэстаўратараў. Нават на сустрэчы за «круглым сталом» «Вячоркі» («Яшчэ раз пра метро і Верхні горад», 12 мая г. г.), дзе прысутнічалі дактары гістарычных навук Л. Побаль і Г. Штыхаў, кандыдат мастацтвазнаўства З. Пазняк і іншыя, ім былі адведзены хутчэй ролі рэзанёраў, меркаванні якіх ужо не могуць істотна паўплываць на ходу падзей. Працытуем справаздачу: «Удзельнікі сустрэчы У. М. Дзянісаў, Л. М. Трэпет, П. А. Русаў, Л. Д. Побаль і іншыя выказалі свае сумненні ў мэтазгоднасці *пракладкі* другой лініі метро праз Верхні горад, на іх думку, праекціроўшчыкі маглі б знайсці іншы, больш аптымальны варыянт. Адначасова яны выказвалі заклапочанасць лёсам гістарычных помнікаў у часе будаўніцтва і эксплуатацыі метро... У ходзе працяглай дыскусіі (поўная стэнаграма займае многія дзесяткі старонак) на ўсе гэтыя пытанні былі дадзены грунтоўныя адказы спецыялістаў Дзяржбуда БССР, ГалоўАПУ Мінгарвыканкома, інстытутаў «Мінскметрапраект» і «Мінскпраект»... Пра тое, чаму другая лінія метро павінна прайсці менавіта праз цэнтр горада, у нашай газеце паведамлялася ўжо досыць падрабязна (глядзіце «ВМ» за 5 лютага, 18, 19, 26 сакавіка 1988 г.)».

Такім чынам, мы зноў вярнуліся да артыкула «Пазіцыя ці поза?», а значыць, да лімаўскай пошты на гэтую тэму. Таму, напэўна, будзе натуральна падаць цяпер — без лішніх каментарыяў — думку нашых чытачоў.

**Супрацоўнікі ВА «Белрэстаўрацыя»:**

**«Усім вядома, што захаваны кавалачак старажытнага Мінска — Верхні горад, які перажыў войны і наша ўласнае варварства 60—70-х гадоў — апошняя рэшта з архітэктурнай і горадабудаўнічай спадчыны, што засталася ў мінчан. Нагадаем, што археалагічныя пласты ў зямлі пад ім і забудова на паверхні — помнік усесаюзнага значэння. Усялякая новабудоўля, а тым больш такая кардынальная, як тунелі і станцыя метро, што робіцца адкрытым спосабам на нязначнай глыбіні, з'яўляецца грубым парушэннем норм аховы помнікаў. Праект другой чаргі метрапалітэна ў гэтым месцы быў зроблены і зацверджаны яшчэ ў 70-я гады, калі меркавалася Верхні горад знесці ўвесь, апрача двух касцёлаў XVII—XVIII стст. Пра такія адносіны да гістарычнага цэнтра горада сведчаць усе без выключэння планы рэканструкцыі цэнтра Мінска.**

**Але ішоў час, многае змянілася. Вось і Верхні горад, здавалася б, удалося ўратаваць — і ад апантаных прыхільнікаў руйнавання помнікаў даўніны, і ад новаспечаных «рэстаўратараў» (гл. часопіс «Строительство и архитектура Белоруссии», № 4 за 1987 г.). Ёсць урадавая пастанова аб яго прафесійнай рэстаўрацыі. Дзяржава выдаткоўвае на рэгенерацыю немалыя грошы, на гэтую справу ахвяруюць свае працоўныя рублі грамадзяне... Але пачалося будаўніцтва другой лініі метрапалітэна. Праект 70-х гадоў мінай запаволенага дзеяння ўзрывае ахову і рэстаўрацыйныя планы знутры: знішчаецца археалагічны пласт, пад пагрозай апынуліся помнікі гісторыі і архітэктуры.**

**Давайце пройдземся ўздоўж трасы другой лініі. Ужо шмат гаварылася пра новыя шчыліны сабора XVII ст., апрача таго, скразныя шчыліны з'явіліся на мурах будынка Белсаўпрофа — былога Базыльянскага манастыра XVII ст., значна пашкоджаны (шчыліны ў *сценах і на столі фае*) тэатр імя Янкі Купалы — помнік архітэктуры XIX ст., літаральна раскалоўся на дзве часткі дом № 34 на рагу вуліц Астроўскага і Шпалернай, у цяжкім стане школа № 26. Нават калі ўдасца не зруйнаваць помнікі ў час праходкі, што вельмі няпэўна, то шматгадовая вібрацыя зробіць сваю справу. Усе меры зніжэння вібрацыі, пералічаныя ў артыкуле «Пазіцыя ці поза?», паменшаць яе нязначна. Хацелася б верыць спецыялістам — праекціроўшчыкам метро, але жыццё вучыць, што іншыя з іх нізавошта не хочуць прызнаваць свае памылкі.**

**Здзіўляе і заява, што праект будаўніцтва другой лініі метро нібыта быў узгоднены з усімі ўстановамі, маючымі дачыненне да вывучэння і аховы помнікаў. Так, пасля зацвярджэння ў вузкім коле спецыялістаў праект дасылаўся на ўзгадненне ў Інстытут гісторыі АН БССР, дзе быў абвергнуты з падрабязнай аргументацыяй ягонай шкоднасці для помнікаў. Больш таго: у пачатку 1986 года супрацоўнікі ВА «Белрэстаўрацыя» па сваёй ініцыятыве звярнуліся ў ЦК КПСС з хадайніцтвам аб скасаванні праекта будаўніцтва станцыі «Няміга» і пераносе тунеляў метро ў іншае месца. Той ліст быў перасланы ў мінскае ГалоўАПУ, дзе яго «прынялі да ведама».**

**Аўтары артыкула «Пазіцыя ці поза?» замілавана распавядаюць пра адкрытасць і дэмакратычнасць абмеркавання праблем, звязаных з будаўніцтвам метро. Але ж нам, рэстаўратарам, добра вядома, што гэта не так. Нават публікацыі ў беларускім друку з'явіліся толькі пасля таго, як газета «Известия» выступіла з артыкулам «Скупой платит дважды».**

**Што да абмеркавання мастацкага афармлення станцый метрапалітэна, дык гэта ў цяперашняй сітуацыі пытанне далёка не самае важнае і не тычыцца непасрэдна аховы помнікаў. Як кажуць, калі ёсць пагроза страціць галаву, па валасах не плачуць... Мы ўжо прызвычаіліся памінаць свае помнікі, страчаныя пры ажыццяўленні грандыёзных праектаў, якія не зважалі на жывое аб-**



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

лічча горада, што фарміравалася стагоддзямі, — і, тым не менш, зноў і зноў рызыкуем».

**Э. Зайкоўскі, С. Тарасаў, М. Крывальцэвіч, С. Вяргей, Л. Дучыц** і іншыя (усяго 30 подпісаў), супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР:

«У артыкуле «Поза ці пазіцыя» знікла сама сутнасць праблемы, якая не залежыць ад таго, з «зарэгістраваных» ці з «незарэгістраваных» вуснаў гучыць. Не сумняваемся, што аўтары шчыра перажываюць з той нагоды, што ў час Вялікай Айчыннай вайны «была знішчана большасць гістарычных і архітэктурных помнікаў» Мінска. Сапраўды, «горад... ляжаў у руінах». Аднак мы гісторыкі і прывыклі аперыраваць фактамі. А яны сведчаць, што ў Мінску ў час вайны сярод помнікаў гісторыі і культуры цалкам быў знішчаны адзін будынак — Дом I з'езда РСДРП. Ён згарэў, бо быў пабудаваны, як і цяперашні яго макет, з дрэва. Астатнія ж вядомыя архітэктурныя і гістарычныя помнікі ў Мінску захаваліся цалкам або часткова. З тымі ці іншымі стратамі, але яны стаялі. Таму мы мяркуем, што несумленна ўсё тлумачыць вынікамі вайны. Сляды вайны самі па сабе вельмі глыбокія і трагічныя, дык ці трэба спісваць на яе яшчэ і знос раёна Нямігі ў 60—70-х гадах, валоў старажытнага Мінскага замчышча, Дамініканскага касцёла і Святадухаўскай царквы, частковы знос і непазнавальную перабудову Езуіцкага калегіума і многіх іншых помнікаў? Факты таксама сведчаць, што ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў былі знесены «Гарадская вежа» і адзін з будынкаў калегіума езуітаў (помнік барока XVIII ст.), касцёл дамініканцаў (XVII ст.), знішчаны мусульманская мячэць у Татарскім прадмесці, гістарычныя будынкі на вуліцы Савецкай, будынак Сапегаў (так званы «дом Пятра I»), замчышча... У гэтыя ж гады карэнным чынам перабудавана былая духоўная семінарыя, царква Марыі Магдаліны на Старажоўцы, жаночае епархіяльнае вучылішча. У 1962 годзе ўзарваны касцёл і рэшткі кляштара бенедыктынак (XVII ст.). Гэты мартыралог можна доўжыць і доўжыць...

Сёння, нарэшце, прызнана, што «ў тканіну гістарычнай забудовы горада ўвarваліся вышынныя будынкі, парушыўшы яе цэльнасць». У якасці выйсця абвешчаны адкрыты конкурс на распрацоўку канцэптуальных праектных прапаноў па забудове гістарычнай зоны Мінска. Але як можна аднавіць жывое гістарычнае асяроддзе, калі яно паслядоўна знішчаецца? Гэта — дэмакратычна? Дэмакратыя была б тады, калі б у 1984 годзе замест таго, каб адводзіць у аддзяленні міліцыі пратэставаўшых студэнтаў і засвечваць стужкі ў фотаапаратах, было праведзена шырокае абмеркаванне магчымасці зносу будынка першага мінскага тэатра. Дэмакратыя была б тады, калі б у 1972 годзе вынеслі на ўсеагульны разгляд планы будаўніцтва станцыі метро на археалагічным помніку, які ўжо ў той час знаходзіўся пад аховай закона. Дэмакратыя будзе тады, калі гараджане ўведаюць, што ў выніку будаўніцтва метрапалітэна могуць загінуць самыя старажытныя культурныя напластаванні XI—XII стст. Ці ўсё гэта і многае іншае зусім не істотна, калі «гораду патрэбна метро»?».







Вось што пабачыў днямі ў раёне Верхняга горада, дзе гаспадарыць «Метрабуд», наш чытач фотааматар Аляксей ІЛЬІН. Спілаваныя дрэвы старога сквера, «свежыя» шчыліны на фасадах дамоў — будаўніцтва набірае тэмпы...

**Ігар Чарняўскі**, археолаг:

«Перш за ўсё: якая першапрычына «незвычайнага ажыўлення ў скверы на плошчы Свабоды»? Яе старанна затушавалі карэспандэнты «Вячэрняга Мінска», а ў нумары за 5 красавіка начыста «забыліся». Яшчэ добра памятныя падзеі, якія адбываліся на вуліцы Няміга ў 1972 годзе, на Мінскім замчышчы ў 1955-56 гадах. Цяпер ужо некаторыя архітэктары і горадабудаўнікі прызнаюць памылковасць зносу старажытнай вуліцы. Не такая простая справа і з замчышчам, межы якога некалі памылкова вызначыў В. Р. Тарасенка. Памылка тая, як сцвярджаюць некаторыя вучоныя, стала «ракавой» для гістарычнага цэнтра Мінска. Але ж яна была відавочная яшчэ ў 50-я гады, калі выйшла кніга Ю. Ягорава «Горадабудаўніцтва Беларусі», у якой былі пададзены архіўныя планы канца XVIII ст. А задоўга да выхаду згаданай кнігі была прынята пастанова СНК БССР ад 5 ліпеня 1926 года «Аб абвяшчэнні дзяржаўнай уласнасцю помнікаў старажытнасці, мастацтва, быту і прыроды». У «Спісе помнікаў, якія абвяшчаюцца дзяржаўнай маёмасцю БССР» у дзесятым пункце запісана «Замкавая гара на Нямізе — Менск». Праз два гады ў часопісе «Наш край» (1928, № 1) З. І. Даўгяла надрукаваў план Мінска 1783 года, на якім пазначаны межы замчышча. Як бачым, папярэднія звесткі меліся, і застаецца толькі дзівіцца, чаму ў 1950 годзе Савет Міністраў рэспублікі вызначыў межы дзяржаўнага запаведніка Мінскага замчышча, абапіраючыся на даследаванні В. Р. Тарасенкі.

Як бы там ні было, але ў 1956 годзе ва ўсходняй частцы помніка скапана каля чатырох метраў культурнага пласту, якім адсыпалі ўпадзіну на тэрыторыі цяперашняга стадыёна ля Палаца спорту. Тады ж скапалі значную частку вала замчышча. І пры пракладцы Паркавай магістралі «ніхто не бачыў», што пад каўшом экскаватара гінуць найкаштоўныя археалагічныя матэрыялы. Ды што казаць пра тыя даўнія часы, калі ў 1985-86 гадах пры пракладцы інжынерных сетак за магазінам «Алеся» былі часткова знішчаны рэшткі гарадскога вала, не горшыя за выяўленыя ў раскопе каля Свіслачы.

Такім чынам, зыходным для спецыялістаў інстытута «Мінскметрапраект» было «чыстае поле» сярод старажытнага горада. Ні раней, ні зараз ніхто з іх не ўспрымае тэрыторыю гістарычнага цэнтра як нешта вартаснае, з чым трэба лічыцца.

Лінія метро на замчышчы зойме вялікую плошчу. Гэта не толькі тыя чатыры працэнты, што адводзяцца пад станцыю «Няміга». Сюды трэба дадаць і плошчу, на якой будуць пракладзены камунікацыі і якая стане ахоўнай зонай метро. Сюды ўжо ніколі не ступіць нага даследчыка. Да таго ж, варта ўлічыць не гістарычную плошчу замчышча, яе ўжо няма, а тое, што засталося ад помніка на сённяшні дзень.

Можна канстатаваць, што пракладка метрапалітэна праз два гістарычныя цэнтры Мінска — замчышча і Верхні горад — галоўная прычына той напружанай сітуацыі, якая зараз тут склалася. Метрабудаўцы палічылі, што будаўніцтва на «пустэчы» абыдзецца больш танна, чым у іншым месцы. Сёння ж неабходнасць выдаткоўваць сродкі на ўмацаванне не толькі запланаваных будынкаў істотна павялічвае выдаткі. Хто ж будзе выдаткоўваць грошы на ахоўныя мерапрыемствы пасля завяршэння будаўніцтва метро?

Дарэчы, на праблему ўмацавання варта таксама зірнуць інакш, як тое прапануюць метрабудаўцы. Работы, звязаныя з другой чаргой, вядуцца ў зоне Верхняга горада з 1983 года. Але толькі ў 1986-м, калі сталі відавочныя пашкоджанні будынкаў і ўзняла голас грамадскасць, былі ўстаноўлены рэперы і пачалося ўмацаванне. За кропку адліку, як бачым, бярэцца 1986 год. Магчыма, з таго часу асаблівых змен на помніках і не адбылося, але ж у папярэднія гады метрабудаўцы фіксацый не рабілі — параўноўваць няма з чым.

У канцы таго ж года ў мінскім гарадскім савеце Таварыства аховы помнікаў абмяркоўвалася схема пракладкі метрапалітэна пад Верхнім горадам. Здарылася гэта толькі пасля таго, як грамадскасць звярнулася ў Мінскую транспартную пракуратуру з прычыны зносу агароджы былога касцёла бернардынак. Члены архітэктурнай секцыі былі азнаёмлены з дакументамі, якія абгрунтоўвалі захаванне пабудоў. Тады ж імі была выказана прапанова прадугледзець магчымасць аднаўлення будынкаў былой Святадухаўскай царквы. Аднак пра аднаўленне унікальнага помніка беларускага рэнесансу і размяшчэнне ў ім залы дзіцячай філармоніі, якая вымагае захавання пэўных акустычных і вібрацыйных норм, метрабудаўцы, як высветлілася, і не чулі. Больш таго, у зоне метро забаронена весці будаўнічыя работы. Метрапалітэн мае «ахоўную грамату», як і помнік архітэктуры. Толькі падыход да правілаў аховы тут невымерна больш строгі, чым у дачыненні да «звычайных» помнікаў. Ці не становіцца, такім чынам, метро ўжо цяпер непераадольнай перашкодай у ажыццяўленні праекта рэгенерацыі Верхняга горада?».

ТАКІЯ вось думкі, меркаванні... Напэўна ж, не бясспрэчныя. Аднак зразумелы і палемічны запал нашых чытачоў, зразумелае іх імкненне вылучыць нейкі асобны аспект праблемы, абвастрыць пытанне. Рыхтуючы гэтую публікацыю, мы таксама не мелі на мэце, што называецца, расставіць усе кропкі над «і».

Відавочна і тое, што артыкул у гарадской газеце, які выклікаў такі рэзананс, не з'яўляецца ісцінай у апошняй інстанцыі. Улічваючы ўсю складанасць сітуацыі, звязанай з аховай мінскіх помнікаў, можна толькі пашкадаваць часу і энергіі, змарнаваных на «ідэалагічнае забеспячэнне» будаўніцтва метро. Мінулыя месяцы маглі быць скарыстаны дзеля пошукаў выйсця з трывожнага становішча. А каб упэўніцца, што яно менавіта трывожнае, дастаткова зрабіць невялікую экскурсію па вуліцах сталіцы.

Нельга не зважаць і на маральныя выдаткі артыкула «Пазіцыя ці поза?». Нашы чытачы з абурэннем пішуць, што карэспандэнты «Вячэрняга Мінска» не здолелі ўзняцца да асэнсавання цікавых і неадназначных працэсаў абуджэння грамадскай свядомасці і зняважылі прафесійную і чалавечую годнасць некаторых людзей, у прыватнасці, вядомага гісторыка і публіцыста Зянона Пазняка.

Можна прывесці шмат вытрымак з лістоў у падтрымку гэтага чалавека (дарэчы, мяркуем, у рэдакцыі «Вячэрняга Мінска» была і ёсць магчымасць зрабіць тое самае). Але мы вырашылі даць слова саміму **З. Пазняку:**

«Я больш дваццаці гадоў аддаў змаганню за захаванне гістарычна-архітэктурнай спадчыны Мінска. Гэта палавіна майго жыцця. Гэта шлях, які, асабліва ў 60—70-х гадах, як у значнай ступені і сёння, не абяцаў і не абяцае таму, хто ім ідзе, ніякіх выгод, ніякіх сацыяльных, матэрыяльных ці службовых перспектыў. Пра тое, што прыйшлося перажыць, — мала хто ведае, як мала хто ведае, якой цаной удалося нешта ўратаваць.

Я не кажу тут, чаго каштавала ў 70-я гады арганізацыя і правядзенне архітэктурна-археалагічных раскопак Верхняга горада (які ніколі да гэтага археалагічна не вывучаўся), колькі сіл было аддадзена мінчанамі для абароны ад зносу свайго гістарычнага цэнтра. Колькі паслана лістоў, даведак, петыцый, прашэнняў, колькі было дыскусійных сутычак, канфліктаў, колькі прыходзілася выслухваць дэмагогіі, пагроз і адкрытай нянавісці. Я ўжо не кажу пра бюракратычныя рэпрэсіі перыяду застою, якія мне прыйшлося паспытаць і перажыць тройчы. І ўсё ж ніхто і ніколі, нават калі я быў маладзейшы, не рашаўся публічна мяне зневажаць. У самых зацятых маіх антаганістаў пры ўсіх іх недахопах і супрацьлеглых пазіцыях, пры іх высокай пасадзе заставалася, відаць, нейкае разуменне, нейкае маральнае табу, якое прымушала і стрымлівацца, і якое з лёгкасцю пераступілі карэспандэнты газеты.

Наколькі трэба быць безадказным і як трэба не паважаць чалавека, каб публічна абвясціць яго «попутчиком» разам са злодзеем-дамушнікам, што зрабіў 29 крадзяжоў, і асобай, якая падала заяву на выезд з СССР!

Увесь тон артыкула Б. Залескага і М. Ільюшэнкі, уся задума, змест і тэндэнцыйнасць заключаюцца ў тым, каб унушыць чытачам, што ў аснове руху за захаванне культурнай спадчыны народа стаяць амаральныя людзі, асобы палітычна няспелыя, несумленныя, нікчэмныя і несур'ёзныя... У «Вячэрнім Мінску» быў выбраны метад самы лёгкі і самы бессаромны — публічная зняважа чалавечай годнасці, грамадская кампраметацыя. Такія прыёмы недапушчальныя ў наш час. Тут парушана элементарная журналісцкая этыка і прыстойнасць».

Будзем шчырыя, апошняе слова ў вырашэнні той ці іншай складанай праблемы належыць людзям дасведчаным і кампетэнтным — прафесіяналам, спецыялістам у сваёй справе. Больш таго, дэмакратызацыя нашага жыцця якраз і мае на мэце разняволенне творчага патэнцыялу, перадавой ініцыятывы. І гэта цудоўна, што інжынеру, настаўніку, журналісту, тэатральнаму рэжысёру альбо старшыні калгаса даецца магчымасць найбольш поўна рэалізаваць свае талент і веды. Ды адначасова невымерна ўзрастае і адказнасць іх, калі хочаце, падкантрольнасць — той самай грамадскай думцы, якой нельга грэбаваць, а тым больш маніпуляваць.

**Пошту чытаў і каменціраваў Андрэй ГАНЧАРОЎ.**



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# Куды падацца рэжысёру?

**8 ліпеня ў «ЛіМе» Г. Алісейчык расказала пра няпростыя праблемы, што паўсталі сёлета перад мастакамі - сцэнографамі, выпускнікамі БДТМІ. Мушу зазначыць, што іх лёс падзялілі і маладыя рэжысёры.**

Я і два мае аднакурснікі-рэжысёры толькі-толькі атрымалі дыпломы (наш чацвёрты калега яшчэ чакае абароны). У надзвычай складаных умовах ажыццявілі пастаноўкі сваіх спектакляў у Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча і ў Брэсцкім аблдрамтэатры. Да прыкладу, мой спектакль у Брэсце выпускаўся па-за планам, на дэкарацыі ніякіх сродкаў не далі, дый сама малая сцэна, дзе я мусіла ажыццяўляць пастаноўку, толькі рыхтавалася да адкрыцця. Калі б не шчырая зацікаўленасць з боку акцёраў, дык, дальбог, дыплома сёлета я б не ўбачыла.

Спектаклі нашы, прынятыя мастацкімі саветамі тэатраў і камісіяй Міністэрства культуры БССР з адзнакай «выдатна», паводле слоў тэатральнай адміністрацыі, карыстаюцца папулярнасцю ў гледачоў. Абарона ў сценах роднага інстытута таксама прайшла паспяхова. Што ж далей?

Маім аднакурснікам пашанцавала, паабяцалі размеркаваць іх у Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі ў Бабруйску. Мо і размяркуюць. Я ж засталася без працы па спецыяльнасці і, адпаведна, без надзеі нешта атрымаць у хуткім часе. Хоць ведаю, што рэжысёрскія вакансіі ёсць і ў Гродне, і ў Брэсце (я ўжо не кажу пра Мінск і пра тое, што адзін з маіх аднакурснікаў меў права выбару любога тэатра БССР, бо з'яўляўся Ленінскім стыпендыятам). Шкада, што пасля шматгадовай вучобы нельга застацца і працаваць у роднай рэспубліцы.

Прынамсі, адзін з тэатральных дзеячаў — дырэктар і мастацкі кіраўнік Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра І. С. Пятроўскі літасціва прапанаваў каму-небудзь з нас паспрабаваць сябе ў якасці... асістэнта рэжысёра. У выпадку, калі малады чалавек спадабаецца тэатральнаму дзеячу, ён можа праз пэўны час даручыць яму самастойную пастаноўку.

Ці ж не прасцей было б самім «мэтрам» глядзець спектаклі выпускнікоў, а пасля рабіць высновы пра іх творчыя здольнасці? Чаму кіраўнікі беларускіх тэатраў так пагарджаюць пачаткоўцамі? Як жа пераламіць гэтае абыякавае, бюракратычнае стаўленне да нас? Вядома, куды лягчэй шукаць «варагаў» па ўсёй нашай неабсяжнай краіне, а пасля разводзіць рукамі: няма, маўляў, у нас дыхтоўнай рэжысёрскай змены, няма ў нас нацыянальнай рэжысёрскай школы...

**Марыя МАРЧАНКАВА,**
**выпускніца рэжысёрскага факультэта БДТМІ.**

**ЛЬВОЎСКІ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ІМЯ М. ЗАНЬКАВЕЦКАЙ ПРАЦЯГВАЕ ГАСТРОЛІ НА БЕЛАРУСІ**

◆ *Чытач дзеліцца ўражаннем*

# Талентам патрэбна прастора

МЕСЯЦ ВЫСТУПЛЕННЯЎ у Мінску—і зноў дарога, на гэты раз — у Гродна. Месяц выступленняў у Мінску — гэта больш за 60 спектакляў на дзвюх сцэнах (у памяшканні Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі і ў Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў імя Ільіча), выязныя спектаклі, запісы на рэспубліканскім тэлебачанні, сустрэча з творчай інтэлігенцыяй горада ў Доме літаратара... Гастролі па рэспубліцы працягваюцца, але мінская іх палова ўжо мінула і можна падвесці пэўныя вынікі, зрабіць некаторыя падагульненні, акрэсліць аблічча тэатра.

Натуральна, адным словам ці адным сказам нельга даць нават самую агульную ацэнку майстэрству занькаўчан. І ўсё ж калектыў дэманструе высокую сцэнічную культуру, выклікае ў гледача пачуццё эстэтычнага задавальнення, нават захаплення. Шмат хто, з кім давялося гаварыць пра тэатр, былі вельмі высокай думкі пра яго. Сапраўдным прафесіяналізмам і багатым рэпертуарам гастралёры заслужылі прызнанне гледачоў.

Заслужылі? Тых, хто хадзіў на спектаклі, — безумоўна, так: а тых, хто не хадзіў?.. А першых, на вялікі жаль, было вельмі і вельмі мала. Да завяршэння гастроляў многія гледачы ведалі адзін аднаго ў твар... Так што даводзіцца шчыра прызнаць: шырокага, публічнага прызнання тэатр не атрымаў. Але вялікай віны саміх занькаўчан у гэтым, думаецца, няма. Гэтай прыкрай сітуацыі знаходзіцца мноства аб'ектыўных і суб'ектыўных, сапраўдных і ўяўных прычын: не пашэнціла са сцэнічнымі пляцоўкамі, не спрацавалі як мае быць «арганізатары культуры», маўчала прэса, не было належнае рэкламы, камусьці падаўся непераадольным «моўны бар'ер» і да т. п. Але давайце згадаем, ці трашчаць ад перапоўненасці залы нашых, беларускіх тэатраў? Толькі на асобных спектаклях. Змяншаецца, на жаль, не толькі колькасць аматараў тэатра, зніжаецца, так бы мовіць, іх якасны ўзровень. Вось і на мінскіх гастролях занькаўчан «Дзеці Арбата» паводле рамана А. Рыбакова — спектакль цікавы, востры, палемічны, але мастацкія вартасці якога небясспрэчныя, — збірае паўнюткую залу, а неўміручы «Атэла» — усяго... 57 чалавек.

У рэпертуары таксама ёсць «Тарцюф» Ж. Б. Мальера (цікава было б параўнаць яго з купалаўскай пастаноўкай, але гэты спектакль калектыў у Мінск не прывёз), і «Дом, дзе разбіваюцца сэрцы» Б. Шоу, і драма Э. дэ Філіпа «Філумена Мартурана». Увогуле, класіка складае аснову рэпертуару занькаўчан: да згаданых далучаюцца чатыры пастаноўкі твораў заснавальнікаў нацыянальнай літаратуры: «Гайдамакі» паводле аднайменнай паэмы Т. Шаўчэнкі, «Ой, не хадзі, Грыцю...» М. Старыцкага, «Жыцейскае мора» і «Бесталанная» І. Карпенкі-Карага. Шаснаццаць гадоў на сцэне львавян ідзе спектакль па п'есе І. Рабакляча «Марыя Занькавецкая». Адчуваецца, што сама п'еса напісана паводле састарэлых мастацкіх узораў, і сцэнаграфія спектакля традыцыйная, але дзякуючы выдатнай акцёрскай ігры спектакль і сёння глядзіцца з цікавасцю. Цікавым атрымаўся і спектакль «Правінцыялкі» па п'есе сучаснага ўкраінскага драматурга Я. Стэльмаха, дзе акцёрам і пастаноўшчыку ўдалося падняцца да значных сацыяльных абагульненняў. П'еса А. Кудрацава «Мар'я» далёка не бясспрэчная, мастацкага адкрыцця для беларускага гледача і чытача ў ёй няма, але прыемна, што занькаўчане звярнулі ўвагу на твор мінскага драматурга і далі яму сцэнічнае жыццё.

Найбольшай папулярнасцю, паўтару, карыстаўся спектакль «Дзеці Арбата». Гэта невыпадкова і сімптаматычна: глядач прагне гістарычных ведаў, а львавяне аднымі з першых прапанавалі мінчанам мастацкае асэнсаванне сталінскай эпохі сродкамі тэатра. Так, публіцыстычныя вартасці гэтага спектакля вышэй за мастацкія. Пастаноўцы не хапае знітаванасці, многія характары як след не распрацаваны; захапіўшыся агульнай ідэяй, стваральнікі спектакля выпусцілі з-пад увагі не менш важныя дэталі. Разам з тым, выразна адчуваюцца настойлівыя, мэтанакіраваныя пошукі рэжысёра А. Бабенкі і акцёраў, што дазваляе сцвярджаць: гэты спектакль — не даніна модзе, а сведчанне грамадзянскай сталасці і смеласці калектыву.

Пастаноўкі твораў украінскай драматургічнай класікі для шмат каго з мінчан мелі гісторыка-этнаграфічную цікавасць, але гэтым іх значэнне не абмяжоўваецца. Такія спектаклі, думаецца, павінны быць у рэпертуары кожнага тэатра, і добра, што яны ёсць у занькаўчан, і значэнне іх надзвычай вялікае, але... Украінскім (адпаведна — беларускім) з гонарам можа называць сябе не той тэатр, які іграе на ўкраінскай мове п'есы з украінскага жыцця, а той, які ўсімі сродкамі нацыянальнага сцэнічнага мастацтва ўзвышае свайго гледача да разумення вышэйшых узораў мастацтва, назапашаных чалавецтвам. Бясспрэчна, занькаўчане маюць ужо ў гэтай справе значныя здабыткі, але спыняцца на дасягнутым нельга. Ёсць усе падставы для таго, каб на іх афішы з'явіліся яшчэ шмат якія творы з сусветнай класікі. Якія, перапытаеце, падставы? Выдатная ігра акцёраў. Для акцёраў тэатра імя М. Занькавецкай характэрныя, перш за ўсё, высокі прафесіяналізм і высокая культура. Яны іграюць па-сапраўднаму, з поўнай выкладкай, без фальшу — нават калі ў зале 57 чалавек. Уласціва занькаўчанам арганічнае паяднанне дакладнасці руху, жэсту з імправізацыяй на сцэне; у спектаклях не бачыцца зададзенасці акцёрскага выканання. Нельга не адзначыць і высокі ўзровень моўнай культуры, якой так бракуе нашым беларускім тэатрам. І, вядома, музыкальнасць, галасістасць, пявучасць занькаўчан...

**Артыстам тэатра імя М. Занькавецкай, асабліва старэйшаму і сярэдняму пакаленню, уласціва творчая разнастайнасць, шматпланавасць. Цэлую галерэю яркіх характараў стварыла К. Хам'як: Гарпіна Захараўна («Марыя Занькавецкая»), Моця («Мар'я»), Вусця Шурай («Ой, не хадзі, Грыцю...»), Разалія («Філумена Мартурана»), Райская («Жыцейскае мора»). Насычанасцю, мастацкай пераканаўчасцю вызначаюцца ролі Б. Казака — Яга («Атэла») і Сталіна («Дзеці Арбата»). Глыбокім псіхалагізмам пазначана творчасць Т. Літвіненка, доказ таму — па-майстэрску выкананыя ролі Філумены Мартурана, Ганны («Бесталанная»), маці («Дзеці Арбата»). Сілай пачуцця, праўдзівасцю, дакладнай перадачай душэўных зрухаў героя ўражваюць вобразы Атэла, Ґонты («Гайдамакі»), Івана Барыльчанкі («Жыцейскае мора»), створаныя Ф. Стрыгуном, але дзеля справядлівасці мушу адзначыць, што на гэтым фоне выкананне ім ролі Даменіка Сарыяна выглядае даволі блякла. Несумненныя творчыя ўдачы ёсць у артыстаў малодшага пакалення**

# ВЯДЗЕ НАС У ЦУДОЎНЫ СВЕТ...

**Штрыхі да творчага партрэта музычнага каментатара Элеаноры ЯЗЕРСКАЙ**

Надараецца ў канцы тыдня, ды іншым разам і ў будні дзень, хвіліна, калі можна адпачыць, паслухаць музыку, паглядзець тэлевізар. Менавіта ў гэты час прыходзіць з тэлеэкрана госця, якая суправаджае нас у цудоўны свет музыкі, — музычны каментатар Элеанора Язерская, звычайная жанчына, але для многіх з гледачоў — незвычайная.

Заўсёды з ветлівай усмешкай, заўсёды энергічная, жыццярадасная, яна, здаецца, не ведае стомы, не ведае тых турбот, якімі насычана жыццё кожнай жанчыны. Як проста і даходліва расказвае яна пра складаныя музычныя творы, як эмацыянальна перадае свае адносіны да таго, пра што распавядае, як лёгка льецца яе гаворка! Здаецца, што яе праца — неперапыннае свята. Ці так гэта?

**— Раней, калі я не працавала на тэлебачанні, а была знаёма з ім, як і кожны чалавек,— праз хатні экран, гледзячы гатовыя праграмы, — мне таксама здавалася, што гэта проста і лёгка. Цяпер жа, а працую я на тэлебачанні 10 гадоў, магу сказаць, што гэтая праца як неверагодна цікавая, так і неверагодна цяжкая. Яна вымагае надзвычайнай мабілізаванасці, гранічнай сабранасці, яна забірае цябе ўсю. Бывае, так стомішся, што прыйдзеш з запісу (ці з перадачы ў эфір) — і няма сіл нават да тэлефона падысці... Застаецца толькі пагладзіць любімага сібірскага ката Мішу.**

Сапраўды, толькі самыя блізкія людзі бачаць яе такой, якой не бачым яе мы, тэлегледачы, — стомленай, кволай, бяздзейнай. У гэта цяжка паверыць, калі ведаеш чалавека заўсёды бадзёрым, усмешлівым. Жыццярадасная ўсмешка — неад'емная рыса яе экраннага вобраза. Злыя языкі кажуць, што яна дазваляла сабе ўсміхацца нават тады, калі расказвала пра смерць Кармэн.

**— Так, у оперы Кармэн памірае, але ж застаецца музыка, бессмяротная, цудоўная музыка! І таму не трэба журыцца, трэба жыць. Я ўвесь час адчуваю прагу да жыцця, да новага, цікавага. У гэтым ёсць нават нейкая ўсяеднасць. Гэта і дрэнна і добра, але інакш немагчыма. Жыццё творчага тэлевізійнага работніка, а тым больш музычнага каментатара, складаецца такім чынам, што ўвесь час працуеш. Нават калі прыходзіш на канцэрт, на спектакль, глядзіш кінафільм, сустракаешся з мастаком, паэтам, кампазітарам, — заўсёды працуе думка: а як гэта можна выкарыстаць у сваёй працы, як гэта можа дапамагчы тэлегледачу ў ягоных меркаваннях?**

Дарэчы, у сваіх музычных перадачах Элеанора Язерская не абмяжоўваецца аналізам музычных твораў, выказваннем сваіх адносін да музыкі, дэманстрацыяй сваіх ведаў, яна заўсёды імкнецца запрасіць на перадачу цікавых людзей, прычым — не толькі калег-музыкантаў, але і мастакоў, пісьменнікаў, драматургаў, рэжысёраў. І найчасцей гэта сябе цалкам апраўдвае — яркія творчыя асобы вельмі цікава, неардынарна выказваюцца і пра музыку. Напэўна, шмат каму запомнілася перадача пра спявачку Марыю Біешу з удзелам Аляксандра Кішчанкі. А нарадзілася думка пра такую перадачу ў майстэрні мастака, каля незавершанага партрэта спявачкі. Незабыўнай і вельмі хвалюючай не толькі для гледачоў, але і для самой Элеаноры Язерскай была сустрэча з Васілём Быкавым у перадачы, прысвечанай балету Яўгена Глебава «Альпійская балада» паводле аднайменнай аповесці.

Прыгадаць можна многія цікавыя перадачы. Цыкл «Музычныя спектаклі тэатраў краіны», у якім Э. Язерская знаёміць беларускага гледача з лепшымі дасягненнямі музычных тэатраў розных рэспублік. Шматлікія перадачы пра беларускую музыку — яе мінулае і сённяшні дзень, лепшыя творы нашых кампазітараў. Пэўны час працавала Э. Язерская і для рубрыкі «Сустрэнемся пасля адзінаццаці» — і тут яе перадачы таксама вылучаліся з агульнага шэрагу сваёй незвычайнасцю, зацікаўленым асабістым падыходам каментатара да справы.

Сёння цяжка нават уявіць сабе Элеанору Язерскую без тэлебачання, а наш музычны эфір — без Элеаноры Язерскай. Але ж яна прайшла немалы працоўны шлях, перш чым апынулася на тэлебачанні. І пачаўся гэты шлях у Сенніцкай музычнай школе калгаса імя Гастэлы, дзе яна, тады навучэнка музычнага вучылішча, выкладала спевы і тэорыю музыкі. Потым была Беларуская дзяржаўная кансерваторыя, пасля заканчэння якой Э. Язерскую чакала накіраванне ў маскоўскую аспірантуру. (Між іншым, яна, адна з лепшых студэнтак, займаючыся на апошніх курсах, сама ўжо выкладала гісторыю музыкі на завочным аддзяленні БДК). Аднак не навуковая і выкладчыцкая



Гутарка ў студыі: паэт У. Някляеў, каментатар Э. Язерская і кампазітар Л. Захлеўны. Фота У. ДЗЕМКІНА.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023



«Бесталанная» І. Карпенкі-Карага. Сцэна са спектакля.
Фота П. ПРАЦЫКА.

**— Я. Мукі (Грыцько ў «Ой, не хадзі, Грыцю» і Дзякаў у «Дзецях Арбата»), Л. Бароўскай (Таня ў «Правінцыялках»), Д. Залізнай (Маруся ў «Ой, не хадзі, Грыцю»), Г. Давыдавай (Дэздэмона), А. Чарній (Варвара ў «Дзецях Арбата»), Т. Жырко (Саша там сама).**

Аднак тэатр — гэта не адно толькі акцёры. Сцэнаграфія занькаўчан мае выражаную тэндэнцыю да эканоміі выяўленчых сродкаў: дэкарацыі звычайна нескладаныя, але багатыя на дэталі, якія нясуць сэнсавую нагрузку. Вельмі часта можна ўбачыць своеасаблівыя рашэнні рэжысёра-пастаноўшчыка, і разам з тым прыходзіш да высновы, што належнай рэжысуры ў занькаўчан няма... Практычна ўсе пастаноўкі ажыццёўлены двума чалавекамі, і калі, заходзячы ў залу, бачыш сцэну без заслоны, то ўжо напэўна ведаеш, што спектаклі рабіла А. Бабенка, і што на працягу дзеі... дэкарацыя мяняцца не будзе. Калі ж з праграмкі дазнаецеся, што пастаноўшчыкам быў Ф. Стрыгун, дык адсюль амаль адназначна вынікае, што традыцыйная заслона перад пачаткам будзе на месцы, а сцэна будзе ледзь не ўвесь час круціцца.. Вось і... усё!

Магчыма, глядач у сваёй асноўнай масе не заўважае гэтага, але калі сочыш за тэатрам уважліва, дык бачыш, як са спектакля ў спектакль вандруюць асобныя рэжысёрскія прыёмы (хоць бы апрананне-распрананне акцёраў), аднолькавыя мізансцэны і, нарэшце, тыя самыя кошыкі, вяночкі, брылі і г. д.

Зрэшты, рэжысура — балючае месца шмат якіх тэатраў краіны. Львавяне, трэба аддаць ім належнае, старанна вырашаюць гэтую сваю праблему, эксперыментуюць, шукаюць... Так яно і павінна быць, бо акцёрскія магчымасці трупы надзвычайныя, шырыня і глыбіня талентаў патрабуе прасторы разгарнуцца, вымагае ўсё новых і новых форм, вырашэнняў, прыёмаў...

Тэатр імя М. Занькавецкай працягвае гастролі па рэспубліцы. Мінская палавіна іх ужо скончылася. Ці паспяховаю яна была? Ці ўдалай? Бадай што так. Усё ж прыезд гасцей са Львова зрабіўся прыкметнай падзеяй у тэатральным жыцці беларускай сталіцы. Занькаўчане застануцца ў памяці гледачоў да наступных гастроляў, ад якіх нас, спадзяёмся, будзе аддзяляць не такі вялікі прамежак часу, як ад папярэдніх.

**Усевалад РАГОЙША,**
**студэнт БДУ**
**імя У. І. Леніна.**

праца вызначыла жыццёвы шлях Э. Язерскай. Яшчэ пад час навучання ў кансерваторыі яе запрасілі сказаць уступнае слова да опернага спектакля, потым — правесці гутарку пра музыку ў філармоніі і неўзабаве запрасілі ў штат філармоніі лектарам-музыказнаўцам. І вось маладая дзяўчына, выдатная студэнтка, якую чакае аспірантура ў Маскве, адмаўляецца ад навуковай працы дзеля сваіх слухачоў, простых людзей, якім неабходна зацікаўленае, чулае слова пра музыку. І пачалася асветніцкая, прапагандысцкая праца. 10 гадоў у філармоніі, тысячы праведзеных канцэртаў, гутарак са слухачамі самага рознага ўзросту.

Няма на Беларусі мястэчка, дзе б Э. Язерская не выступала з канцэртнымі брыгадамі, не чытала лекцыі пра музыку. Філарманічныя справы яна спалучала з супрацоўніцтвам на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, нават вяла цыклавыя праграмы. Але трэба было з'явіцца на тэлебачанні праграме «Рэзананс», каб Язерская зрабіла канчатковы выбар.

Так, «Рэзананс», па сутнасці, тая праграма, з якой і пачалася Элеанора Язерская як музычны каментатар. І не ў тым справа, што дзякуючы гэтай праграме яна перайшла працаваць на рэспубліканскае тэлебачанне, на пасаду музычнага каментатара, спецыяльна для яе ўведзеную ў штатны расклад. Справа ў тым, што ў гэтай праграме выявіліся ўсе лепшыя якасці Э. Язерскай — музыказнаўцы, арганізатара, прапагандыста. Гэта была **яе** праграма.

**— Пра ўсё, што мяне хвалюе, што мне падабаецца ў музычным мастацтве, я імкнулася расказаць тэлегледачам, і не проста расказаць, але і зацікавіць, пераканаць.**

У «Рэзанансе» было шмат новага цікавага матэрыялу. І як тут не сказаць, што пад час правядзення ў нашай краіне Першага міжнароднага музычнага фестывалю адзінае рэспубліканскае тэлебачанне, якое працавала на фестывалі ў Маскве поруч з Цэнтральным, было Беларускае, і прадстаўляла яго Элеанора Язерская, якая потым прысвяціла цэлую праграму «Рэзанансу» гэтай падзеі. Альбо другі прыклад: у Ленінградзе адкрылася мемарыяльная кватэра-музей Фёдара Іванавіча Шаляпіна, і праграма «Рэзананс» зрабіла пра гэта рэпартаж. У «Рэзанансе» гучалі архіўныя запісы таго ж Фёдара Іванавіча Шаляпіна, Эдзіт Піяф, расказвалася пра музычныя прэм'еры, гасцямі праграмы былі Іван Сямёнавіч Казлоўскі, Фуат Мансураў, іншыя выдатныя музыканты нашага часу.

Праграма «Рэзананс» была, бадай, самай адметнай музычнай праграмай Беларускага тэлебачання ў свой час. Сёння яе няма. Але пачаўся новы цыкл праграм — «Метраном», у якім Э. Язерская захоўвае традыцыі «Рэзанансу».

**— Пра што б у музыцы ты ні гаварыў — гэта заўсёды духоўнае выхаванне, духоўнае ачышчэнне. Навучыць разумець цудоўную музыку, данесці да слухачоў сваю любоў да яе, каб і яны палюбілі і зразумелі яе цудоўны свет, — гэта своеасаблівае прапаведніцтва, спавядальнасць. Менавіта гэтак я мяркую пра нашу працу.**

Вось гэтаму прапаведніцтву, духоўнаму выхаванню сваіх сучаснікаў і прысвяціла сваё жыццё музычны каментатар Элеанора Язерская.

**Л. БАГУН.**

**З ПОШТЫ АДДЗЕЛА МУЗЫКІ**

# БУДЗЕМ ГАВАРЫЦЬ ПА ШЧЫРАСЦІ

Нядаўна ў Саюзе кампазітараў БССР адбыўся адкрыты партыйны сход, на парадку дня якога сярод іншага было абмеркаванне артыкула члена нашага саюза Пятра Альхімовіча «Трэба гаварыць па шчырасці» («Вячэрні Мінск», 6 мая г.г.). Сваімі думкамі з нагоды гэтай публікацыі лічу неабходным падзяліцца на старонках «ЛіМа».

Сам факт з'яўлення артыкула, які выклікаў нават бурны пратэст некаторых маіх калег, не быў чымсьці надзвычайным. Мы ўсе ўжо, здаецца, паспелі прызвычаіцца да вострых матэрыялаў, што рэгулярна друкуюцца ў прэсе і крытыкуюць высокіх асоб і высокія інстанцыі. Пытанні, закранутыя П. Альхімовічам, таксама не ўпершыню ставяцца: па праблемах нашага музычнага жыцця выступалі ў друку, рэспубліканскім і цэнтральным, народныя артысты СССР Яўген Глебаў і Ігар Лучанок ішла гаворка на кампазітарскіх пленумах і звычайных сходах.

Сапраўды, справы ў нашай музычнай культуры занядбаныя. І тут вінаватыя не толькі кампазітары. Патрэбны кардынальныя перамены. Трэба ўзнімаць агульны культурны ўзровень у рэспубліцы. І артыкул П. Альхімовіча быццам бы пра гэта. Адно бянтэжыць: далёка не бездакорная пазіцыя аўтара.

Не зважаючы на аўтарытэты і званні, П. Альхімовіч спрабуе паводле ўражанняў ад фестывалю «Мінская вясна» крытыкаваць апошнія творы нашых вядучых кампазітараў, праўда... бяздоказна. Канцэрт для аркестра «Кліч» Я. Глебава і 5-ю сімфонію Д. Смольскага ён адносіць да жанру сюіты. Што ж, кожны мае права на сваё меркаванне. Але калі аўтары названых твораў самой музыкай пацвярджаюць абвешчаны імі жанр, дык доказнасць П. Альхімовіча нагадвае доказнасць вядомага літаратурнага героя: «Гэтага не можа быць, таму што гэтага не можа быць ніколі». А ўспомнім жа, што гістарычнае развіццё жанраў і форм у музыцы прывяло да размытасці некалі дакладных, вызначальных для іх, межаў! Успомнім і тое, што сюіта была «родапачынальніцай» санатна - сімфанічнага цыкла...

Зрэшты, даваць ацэнку ў апошняй інстанцыі, не аргументуючы яе, — характэрна для артыкула П. Альхімовіча. Можа, прычына гэтага — першае, павярхоўнае праслухоўванне і далёка не ідэальнае выкананне новай музыкі? (Не хачу вінаваціць тут выканаўцаў: яны за кароткі тэрмін імкнуліся спасцігнуць усе творы праграмы сёлетняй «Мінскай вясны», а часу, як звычайна, было для гэтага мала). Можа, замінаў аўтару артыкула стэрэатып стаўлення да сучаснай музыкі, да таго ж, «сваёй гадоўлі»? Бо заўважыў жа неяк выдатны польскі кампазітар Вітальд Лютаслаўскі, што за дрэннае выкананне Моцарта вінавацяць заўжды выканаўцаў, а за дрэннае выкананне сучаснага твора вінавацяць яго нага стваральніка.

І яшчэ адно, на мой погляд, перашкодзіла П. Альхімовічу быць шчырым у сваіх меркаваннях. Гэта альбо адсутнасць, альбо «частковая» прысутнасць яго на некаторых канцэртах, пра якія піша. Так, не пайшоўшы на канцэрт Мінскага камернага аркестра, ён задаволіўся ранішняй рэпетыцыяй, дзе творы прайграваліся фрагментарна, дзе не было творчага імпэту, характэрнага для канцэртнага выканання. Хто-хто, а аўтар артыкула, сам кампазітар, павінен гэта разумець. Гаворачы пра «Канчэрта гроса» С. Бельцюкова, ён абвінавачвае аўтара ў тым, што той паказаў студэнцкую работу. Хіба ж гэта азначае заганнасць твора? Менавіта кансерваторскія работы С. Рахманінава (опера «Алека»), С. Пракоф'ева (Першы канцэрт для фартэпіяна з аркестрам), Д. Шастаковіча (1-я сімфонія) увайшлі ў скарбонку сусветнай музычнай культуры. І адкуль у П. Альхімовіча звесткі, што «Канчэрта гроса» — вынік пералажэння твора, зробленага з разлікам на іншы інструментальны склад, — для камернага аркестра? Наколькі ведаю я, «Канчэрта гроса» прагучала ў адпаведнасці з адзінай партытурай, напісанай С. Бельцюковым.

На камерным канцэрце з твораў маладых беларускіх кампазітараў П. Альхімовіч паявіўся «пад заслону», бо, паводле яго прызнання, прысутнічаў у іншай зале, на іншым канцэрце — слухаў ігру Святаслава Рыхтэра. Ці можна ў такім разе разважаць пра творы сваіх маладых калег? У рэшце рэшт, гэта неэтычна.

У дачыненні да некаторых твораў пазіцыя аўтара ўвогуле туманная. Наконт 5-й сімфоніі А. Мдзівані ён піша: «Яна не ўсім падабаецца, ды затое ўжо ў ёй дакладна музыка А. Мдзівані». Наконт п'есы для народнага аркестра «З рога ўсяго многа» А. Рашчынскага прыводзіцца доказ (незразумела, чаго: ці то няўдаласці твора, ці то «смеласці» кампазітара пазначыць сваё аўтарства): вось, маўляў, М. Глінка «не адважваўся лічыць «Камарынскую» сваёй музыкай, назваў сціпла — «Фантазія на тэмы вясельнай і плясавой». Але сказаў жа вялікі М. Глінка, што стварае музыку народ, а мы, кампазітары, яе толькі аранжыруем. Інача як ставіцца да аўтарства фіналу 4-й сімфоніі П. Чайкоўскага, «Уверцюры на тры рускія тэмы» М. Балакірава, «Уверцюры на рускія тэмы» і «Казкі» М. Рымскага-Корсакава і іншых твораў, цесна звязаных з фальклорам? Як ставіцца, урэшце, да выказвання П. Чайкоўскага: «...руская сімфанічная школа ўся ў «Камарынскай», падобна да таго, як увесь дуб — у жолудзе»?

Крытыкуючы арганізацыю канцэртаў фестывалю, П. Альхімовіч і тут не шукае прычын і аргументаў. Зрыў выканання Канцэрта для трубы з аркестрам Э. Санадзе і 3-й сімфоніі А. Соніна ён тлумачыць нядбайнасцю арганізатараў. Але вядома, што Канцэрт Э. Санадзе не прагучаў з-за саліста, які па ўважлівай прычыне не змог прыехаць у Мінск, а сімфонію А. Соніна было немагчыма падрыхтаваць да выканання з-за недакладна перапісаных аркестравых партый. У чым жа тут вінаватыя арганізатары, прынамсі, кіраўніцтва рэспубліканскай філармоніі?

Дзіву даешся, як не зважае аўтар на тое, што можа запярэчыць ягоным высновам. Так, гаворачы пра ўсю беларускую музыку, П. Альхімовіч папракае яе за нізкі мастацкі ўзровень, што замінае ёй быць канкурэнтаздольнай. Але ж, апроч названых у артыкуле І. Лучанка і Э. Ханка, чыя творчасць перасягнула межы рэспублікі, было б дарэчы ўспомніць і іншых кампазітараў. Хіба не гучалі творы Л. Абеліёвіча і Г. Вагнера, А. Багатырова і У. Алоўнікава, Ю. Семянякі і Д. Смольскага, А. Мдзівані і Р. Суруса, У. Дарохіна і В. Помазава і іншых, уключаючы самога П. Альхімовіча, у нашай краіне і за яе межамі? Хіба не ставіліся балеты Я. Глебава ў Маскве, Ленінградзе, Чэлябінску, Новасібірску, Львове, Хельсінкі, а опера С. Картэса «Матухна Кураж» у Каўнасе і Кішынёве? Хіба не заказваліся балеты Я. Глебаву і С. Картэсу тэатрамі Фінляндыі і Кубы? І гэта, паводле слоў П. Альхімовіча, значыць, што «мы, беларускія кампазітары, амаль не даём прадукцыі, што зацікавіла ўсю краіну»?

Слушныя папрокі аўтара артыкула «Трэба гаварыць па шчырасці» наконт падрыхтоўкі музычных кадраў у рэспубліцы, наконт адмежаванасці Саюза кампазітараў БССР ад сусветнага музычнага працэсу. Але справа не толькі ў тым, што нам ёсць чаму і трэба вучыцца: нам ёсць і што паказаць слухачу. Для гэтага патрэбна разумная настойлівая прапаганда і, вядома, падняцце музычнага ўзроўню тых, для каго мы пішам. І вызваленне ад празмернага апекавання з цэнтра, што часта адмяжоўвае нашу творчую арганізацыю ад сучаснай музычнай практыкі. Сапраўды, ці не варта нам заняцца самаадукацыяй і зрабіцца больш самастойнымі ў пытаннях культурнага развіцця? Ці не варта пераадолець шматгадовую інертнасць і самім выйсці на кантакт з кампазітарскімі супольнасцямі суседняй Польшчы, ГДР, Чэхаславакіі, Венгрыі, Югаславіі, тым больш, што ў Мінску знаходзяцца консульствы дзвюх з названых краін?

Сёння, у час перабудовы, трэба быць актыўным кожнаму, не хавацца «ў вежах са слановай косці» і не адмоўчвацца. Сёння кожны мае права і павінен адкрыта выказваць сваю думку. Але рабіць гэта трэба з адказнасцю. Любыя, здавалася б, самыя правільныя заўвагі выклікаюць недавер, калі яны неабгрунтаваныя, зробленыя на падставе неправераных фактаў. Давайце больш крытычна ставіцца да сябе і з павагай — да іншых.

**Алег ЗАЛЕТНЕЎ,**
**кампазітар.**



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

**ПРОЗА**

Алесь ЖУК



# ЧУЖАЯ ПЕСНЯ

*АПАВЯДАННЕ*

— ЧАГО гэта ты ўстаў неўпару?

Ён сцепануўся ад нечаканасці, разгублена агледнуўся: Настася стаяла ля ложка басанож і адзявала спадніцу.

— Што гэта цябе зранку да акна прыляпіла? — зноў запыталася сястра, спраўна закруціла вакол стану спадніцу і, збочыўшыся, пачала зашпільваць аплікі.

— Выспаўся. Перад смерцю і сну няма.

Сястра нічога не адказала: зусім слабым і нядужым здаваўся ён тут, у вёсцы, — па-старэчаму сухенькі і чысценькі самаўпэўнены гарадскі дзядок. Дзе ўжо ў яго пытацца здароўя! І як гэта ён надумаўся ў такую слату ехаць у гэту глуш? І пісем жа не пісаў — маці толькі некалі, бывае, ўспомніць, што недзе Паўлік як «вялікім» чалавекам стаў, жыве з панамі. Настася ўжо і не думала, што жыў ён яшчэ недзе, гэты невядомы яе брат, а ўчора ўвечар, у дождж, заявіўся. Брата пытаўся, а пра яе не ведаў!..

Павел зноў завярнуўся да акна. Ля пачарнелага ад вільгаці плота стаяла рабінка, і на яе чырвоных ягадах віселі цяжкія кроплі.

Было чуваць, як Настася мылася ў мыцельніку, потым пачала падпальваць у печы, выйшла на двор, мабыць, выпусціла з хлеўчука курэй, бо раптам на варотах з'явіўся залацісты вялікі певень, залопаў крыламі, коратка кукарэкнуў і нечага спужаўся, саскочыў на зямлю, азірнуўся, выцягваючы шыю...

...Вялікі чырвона-залацісты певень са скрываўленым і звіслым набок грэбенем кінуўся біць яго, і ён закрычаў спуду. На крык з хаты выбегла маці з хвартухом у руцэ і пачала адганяць пеўня, лупцуючы паскамі, а той не хацеў здавацца, і толькі калі маці добра-такі даняла яго, закудахтаў ад болю і кінуўся ўцякаць.

Маці выцірала яму слёзы, і па руцэ яе з ранкі буйна кацілася крывінка...

Як гэта было даўно! І маці тады была ўдвая маладзей, чым ён цяпер.

— Ты б малака хоць пакуль выпіў, — паклікала Паўла з кухні сястра.

Яна змахнула хвартухом табурэтку, але ён не сеў, стоячы выпіў паўлітровы эмаліраваны кубак сырадою.

— Дзякуй, Насця, — падзякаваў ён, сумеўся гэтай сваёй далікатнасці і выйшаў у чысты пакой, у задуменні абышоў вакол круглага стала, зазірнуў у люстэрка, што стаяла на ім, паправіў гальштук, які з'ехаў набок.

Позірк яго ўпаў на рамкі з фотакарткамі, якія віселі над вокнамі. Ён падышоў бліжэй, пачаў углядацца. То хлопцы недзе на танцах, ля плота на вясковай вуліцы, — у шырачэзных штанах і кашулях з закасанымі рукавамі... Лупатае немаўля на дыванчыку старанна кусае палец на назе... Насцярожана застыў на фатаграфіі юнак у новым касцюме, з гальштукам-лапаткаю на грудзях. Ах, як няёмка і нязвычна яму ў гэтым убранні!

А вось пажоўклы здымак: мужчына ў дабротным галіфэ, у доўгай, чуць не да калень, гімнасцёрцы, перахопленай камсастаўскаю папругай, стаіць, паклаўшы руку на спінку крэсла. Аж свецяцца наглянцаваныя боты!.. Два дзядзькі ў кажушках, пры зброі, — аўтамат у аднаго на каленях, у другога — за плячыма вінтоўка, — кураць самакруткі і, мабыць, не здагадваюцца, што іх здымаюць.

Здымкі ў большасці старыя, цьмяныя. І рамкі абклеены палоскамі белай паперы ў зубчыкі. Папера пажаўцела і пасохла.

І нешта адно няўлоўнае ў рысах твару і гэтых дзядзькоў, і юнака: неяк аднолькава глядзяць іх вочы, аднолькава акрэслены падбародкі...

«Няўжо гэта Настасін такі? — падумаў ён пра юнака. — А то мо браты?»

— Уключы радзіва, Павел! — папрасіла з кухні Настася.

Ён уключыў невялічкую пляскатую радыёлу, ад якой паўз бэльку вілася расцягнутая залацістая спружынка антэны. Гралі скрыпкі, і мелодыя была лёгкая і балючая, як даўні, прыглушаны часам успамін.

Павел падышоў да ложка, выцягнуў з-пад яго свой чорны лакіраваны чамадан з жоўтым замком-«маланкаю», паклаў яго на ложак, расчыніў. Усміхнуўся — падарунак вёз толькі аднаму брату, адрэз на касцюм...

...Братава калыска вісела ля печы, над палком, насланым з дошак. На адной з вяровак быў раскудлачаны вузел. Ён, калі хацеў паглядзець на брата, станавіўся на палок і чапляўся рукою за гэты вузел, цягнуў да сябе калыску. Калі толькі маці бачыла гэта, хапалася за хвартух, хлёсткія паскі якога ён добра ведаў.

— Куды пабраўся? А каб табе кроўная доля! Дзіця выкінеш!..

Стала горача ад думкі, што Настасі нічога не ўзяў. Ніколі б і не падумаў, што ў яго ёсць яшчэ і сястра, і другі брат яшчэ быў. І ў самога яго прозвішча другое, не бацькава, — Ляткоўскі.

А ўчора ішоў ад шашы ў дождж, па гразкай восеньскай дарозе, і яшчэ неяк радаваўся, што адважыўся паехаць у гэту глуш, але добры настрой праходзіў: было цёмна, гразка, мокра ў ногі і неспакойна ад думкі, што яшчэ — не дай бог! — захварэе. Ды ён нікому не сказаў, куды і чаго едзе. Ці мала што падумаюць, калі хопяцца яго. І ён раскайваўся, што паддаўся таму незразумеламу, раптоўнаму жаданню — паехаць... Ён, стары, спрактыкаваны, захацеў нейкіх прыгод, як хлапчук, хоць павяло на гэта нешта другое, нейкая незразумелая прыцягальная сіла, пра якую ён нічога не ведаў, не здагадваўся нават, хоць за век свой і багата пабачыў свету... Можа б, ён і завярнуў назад, каб мог здагадацца, што няма ні тае хаты, ні брата, што вясковы хлапчук прывядзе яго, мокрага і збянтэжанага, да незнаёмай жанчыны, якая і акажацца яго сястрою!

Настася затупала да стала. Прынесла на талерцы горку бліноў, яечню і печанае сала, гуркоў, бульбы, якая густа парыла, потым пачала насіць кілбасу, сырое сала, нібы збіралася на добрыя госці.

Павел глядзеў на яе, і зноў пачала быццам прыходзіць заспакоенасць і лагоднасць — і добрым быў шэры восеньскі дзень за акном, рабінка, далёкі лес...

— Нашто гэтулькі? — здзівіўся ён.

— А то ж шкадаваць буду! У мяне ж есці няма каму. Хіба Шура з сям'ёю ў госці наедзе, — адказала яна і паставіла на стол гранёныя стограмоўкі.

Ён паглядзеў на яе, мажную, поўную, са спакойным круглым тварам, нібы не было за плячыма больш шасцідзесяці год, на яе вялікія рукі...

— То садземся, паснедаем.

Яна скінула хустку, павесіла на біла ложка. Яе густыя пасівелыя валасы былі роўна зачэсаны і закручаны на патыліцы.

— Ну давай, брацік, за ўсё, што пражылося і каб яшчэ жылося! — падняла яна чарку.

Ён глядзеў, як яна спраўна выпіла гарэлку, і падумаў, што, калі вып'е, то ап'янее. Адпіў ён некалькі глыткоў. Яна толькі глянула на яго і нічога не сказала.

— А я Антосю на касцюм прывёз, — пачаў ён.

— Дзе яму той касцюм! Мо і касцей ужэ німа. Яны ж са Сцяпанам разам і леглі.

— Пра цябе і Сцяпана я не ведаў... А дзе іх пахавалі?

— Хто яго ведае. Іх, казалі, ранілі, як на дарогу хадзілі, немцы жывымі пабралі. Замучылі недзе. За гэту вайну тут уся зямля магілаю стала. Столькі палажылі!

Сястра гаварыла проста, спакойна, як пра будзённае.

— Мне ўжэ после іх картачку людзі перадалі, пасля вайны.

Настася паглядзела на рамку з фатаграфіямі:

— А гэта мой стаць. Яшчэ як прадсядацелям сельсавецкім быў. Год толькі і пабыў, адале і злёг. Збіты быў, зранены...

— А сем'і братоў?

— Спалілі. Тады ж тут усіх палілі. Акружылі і запалілі. Гэта ўсё пасля вайны адбудавалі. А ты што робіш там? — запыталася сястра.

Павел разгубіўся.

— Спяваў... некалі. А цяпер нічога.

— З нашага роду ўсе галасістыя. А грошы як зарабляў?

— Спяваў...

— А-а! Дак гэта як арціст?

— Так. А пра цябе, прабач, нічога не ведаў. Адрэз хоць хлопцу свайму вазьмі.

— Нашто ён яму! Ён і сам інжынер, хватае ўсяго.

— Не павязу ж я назад! Пакладзі хоць...

— Да ўжэ ж... Ну, то дзякуй, Павел!

Паўлу не хацелася больш есці. Ад выпітага забалела галава.

— Астаўся б ты ў мяне. Пагуляў бы, патаптаўся ля дому, пад'еў усмак, паспаў, а то — што цень, як ветрам не паваліць, — зноў загаварыла сястра, і ў голасе яе была спагада. Хацеў адказаць, што нельга яму, але падумаў, што смешна гаварыць ёй пра нейкія там візы. І што ён рабіў бы тут сярод гэтага лесу, гразі? Увесь век пражыў у горадзе, пры грашах усё-такі, прывык да раскошы. А для Настасі і праўда ён жаласлівы ў сваім шчыгульным убранні, па-гарадскому выхаханы і кволы.

— Няма як, Настася, — адказаў ён і ўстаў з-за стала. Нечаму зрабілася так балюча і маркотна, што ў вачу навярнуліся слёзы, і каб не заўважыла сястра, ён нахіліўся над чамаданам, пачаў вымаць пакупкі.

— Якія гэта ў цябе пласцінкі?

— А, гэта мае арыі, — адказаў ён.

— А я думала: вальцы. Вольчыны пабілі маю пласцінку. «На сопках Манжура». Вот я ж любіла яе слухаць! Казалі, адкупяць, да ўсё не збяруцца.

Павел прамаўчаў і сунуў пакунак назад у чамадан. Гэта былі яго любімыя арыі, і запісаны яны ў даўні час, калі ён «грымеў» і не ўспамінаў пра далёкую лясную вёсачку, з якое забраў яго пан Ляткоўскі, даў сваё прозвішча і вывучыў за спевака ў светлай Італіі. Яго і цяпер памятаюць у розных краінах...

— Мо пайду, запрагу каня? Куды ты з чамаданам пойдзеш!

— Не трэба! Правядзеш мяне лепш, — запярэчыў ён. Яму не хацелася заставацца аднаму ў пустой хаце, захацелася хутчэй пайсці.

Па вуліцы ішлі побач. Настася ў новай ватоўцы, у гумавых ботах, ступала збоку паўз сцежку па рэдзенькай гразі.

Павел уцягваў галаву ў каўнер плашча і шкадаваў, што не ўзяў шалік. Ступаў ён па старых слядах на сцежцы — было сушэй. Чаравікі, якія Настася была паставіла ноччу на печ, ссохліся і ціснулі ногі. Капялюш Павел нацягнуў на лоб, — каб не сагнаў вецер, думаў, што трэба пра нешта загаварыць да сястры, але не ведаў пра што, і толькі яшчэ больш уцягваў галаву ў каўнер паліто.

За вёскаю, цярэспаля, да самае шашы, вілася бліскучая ад вільгаці, выбітая нагамі сцяжынка, па якой дзеці бегалі ў школу.

Настася спынілася, паставіла на вытаптаную прыдарожную траву чамадан.

А Павел усё думаў, што б сказаць, адчуваў, што нешта яшчэ забыўся — і не мог успомніць. Ён не заўважыў, калі спынілася сястра, і ўсё ступаў, панура ступаў наперад.

— Павел! — абазвалася Настася.

Ён разгубіўся і вінавата падышоў да яе. Твар сястры быў спакойны, як і тады, калі яна падавала на стол, калі пакавала яму ў чамадан і кілбасу, і яблыкі, — навошта яны яму, калі хапае і грошай? Але ён не адмаўляўся: баяўся пакрыўдзіць.

— Ну, то хай цябе бог сцеражэ! — спакойна сказала Настася, паклала рукі яму на плечы і тройчы пацалавала. Шчокі і вусны ў яе былі халодныя.

— Настася, а Настася! — паклікаў ён.

Яна павярнулася да яго.

— Маці дзе, Настася? Я думаў, ты мяне зводзіш...

— Партызан на могілках акружылі былі. Танкамі ўсё зраўнялі...

Яна яшчэ нешта гаварыла сваім сумным, спакойным голасам, але ён не чуў, ішоў чужы па сцяжынцы, якая мякка гойдалася ўвачу, ішоў туды, дзе засталіся для яго на зямлі толькі беленькі двухпавярховы катэдж у зялёных прысадах і любімы чорны бульдог Джэра.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023



**Соф'я ШАХ**



## Хочацца высі і доўгага дня

●

Проста страх, а можа, прадчуванне, —
часам узмацняюцца яны.
Доўга я перамагчы не ў стане
гэты наступ зябкі, нутраны.

Вось іду я, слухаю і бачу,
а дакладней, — молада жыву.
Як магу, стараюся, — іначу
долі накананаванай канву.

Сілы аніколькі не шкадую,
пра яе не думаю запас.
Бедаваць — ва ўсю бяду бядую
і мацней люблю жыццё ў адказ.

●

А дробнай бяды не бывае,
нязначнай трывогі няма.
І страх, што аднойчы ўзнікае, —
ўзнікае зусім нездарма.

Так хочацца многа і хутка,
адразу, цяпер, назаўжды, —
а хвілі з цярплівасцю гнуткай
усё выпаўзаюць з бяды.

Так хочацца высі і сіні,
і доўгага дня, і цяпла, —
а чуйныя ліпы, асіны
трапечуць, што восень прыйшла.

І значыць, да новага лета
адзіную мару душы
ад болю свайго непрыкметна
схавай,
прызабудзь,
заглушы...

●

Пачатак жа, яшчэ пачатак, —
і можна, як само сабой,
лічыць за неблагі парадак
і гэту муку, гэты боль.

Чакаць няпроста, хто ж гаворыць.
Ва ўсе вякі чакаць — іспыт.
Калі душу разлука морыць —
і дабрабыт не дабрабыт.

Але адно суцешыць можа,
не трэба толькі забываць:
якая ўсё-такі раскоша,
што ў свеце ёсць каго чакаць.

●

Мама паўтараецца ўва мне, —
рысы, звычкі, нават ціхі голас.
Чым жыву больш, тым яны паўней
праяўляюцца ў душы раз-пораз.

Смех яе дарэшты стаў маім,
і мая хада — як калісьці.
Як яна, — я позіркам жывым
галублю траву, аблокі, лісце.

Як і ёй, — мне мілы гэты свет,
колькі пражыла, а ўсё дзіўлюся...
Пройдзе час, — за мамаю услед
я ў дачцэ аднойчы паўтаруся.

●

Усё часова — нават гора
і цёмныя, бы ночы, дні.
Не падуладны часу голад
па чалавечай цеплыні.

Жывой душы удзел спагадны, —
ўсяго якая пара слоў, —
а твой дасюль настрой няладны
цяплее і крыляе зноў.

Здаецца, проста і магчыма:
раз голад — трэба наталіць...
Але праходзіш моўчкі міма, —
то не цяпло, — калі прасіць...

●

За сцяною гарадскога дома,
у дрымотнай, цёплай цемнаце
конікі стракочуць так знаёма,
нібы ў полі ці на лузе дзе.

Апантана, як было калісьці
у маленстве, за абсягам дзён.
Помню, варта толькі з хаты выйсці —
і адразу ў стракатлівы звон.

Позірку нябачныя, глушылі
легкаверны і шчаслівы смех.
Як яны той шорсткі звон рабілі?
Падзівіцца б ціхенька на іх...

●

Я прайду з Вамі ўсё, што адушчана
доляй,
што належыць прыняць, — як належыць
прыму.
І трывог, і знямог, а расстанняў
найболей
шчодра выпадзе, ведаю, шчасцю майму.

Я змагу, я агораю выпрабаванні.
Не сумею хіба што ў жыцці аднаго:
хоць аднойчы узняцца вышэй за каханне,
апусціцца аднойчы ніжэй за яго.

**Уладзімір МАЗГО**



## Паласа перашкод

Міхасю СКОБЛУ

Калі цяжка,
аж пот
Вочы засціць
ратаю —
Паласу перашкод
Зноў тады
прыгадаю.
Там бязвусы узвод —
У сталення зеніце —
Кожны дзень,
кожны год
Спасцігаў таямніцы.
Лабірынт,
нібы бінт,
Хваляванне загоіць,
Каб ніколі
ў нябыт
Не сышло
дарагое.
Роў шырокі —
навек
Страх утопіць
сумненні.
Як вада мірных рэк,
Чыстым будзе —
сумленне.
І пакліча ў палёт
Зноўку
мара старая.
...Паласой перашкод
Мы жыццё вывяраем.

## Дэзактывацыя

Змываем пыл,
які пускалі нам у вочы —
Да лозунгаў і рапартаў
ахвочыя, —
З дарог палескіх
і ўласных твараў,
З жытнёвых ніў
і сонечных абшараў.
Свідруе
набалелае пытанне:
Ішлі наперад
і не бачылі таптання?
Таму што пыл
пускалі нам у вочы,
Да лозунгаў і рапартаў
ахвочыя.
Пісалі
ці заводзілі раманы,
А моладзь
ачмуралі наркаманы.
Не зналі
ці баяліся пагудкі,
А кодэкс
распінала прастытуткі...
Змываем пыл,
які пускалі нам у вочы,
Да лозунгаў і рапартаў
ахвочыя.
Наш час — адказны,
і наш шлях — няблізкі,
Навошта нам
падробкі і прыпіскі.
Адзінства справы
плюс
адзінства слова, —
Адно тады
дасць плён
перабудова...

●

...Нашто ж на Зямлі
сваркі і звадкі, боль і горыч,
калі ўсе мы разам ляцім да зор?
М. БАГДАНОВІЧ.

Жанчыне дадзена —
радзіць,
Жанчыне дадзена —
расціць.
Каханай быць,
адзінай быць,
Крый бог,
дзяцей асіраціць...

Я рос з дзяцінства
сіратой,
Туманы піў,
як сырадой,
І пад вандроўны стук
калёс
Не скардзіўся
на лёс.

Спасціг
з трывогаю цяпер:
У чалавеку
дрэмле звер,
І пры жывых бацьках —
штогод
Расце
атрад сірот.

Няўжо
забыліся зусім,
Як вочы нам
адкрыў Максім:
Навошта сваркі,
звадкі,
боль?..
У гэтым соль...

●

Зайздрошчу лесу:
ён глыбока
У глебу родную
урос.
Зайздрошчу лесу:
ён высока
Узняўся ўгору —
да нябёс.
Тут,
пад сасновай вершалінай,
Цар-грыб
скідае капялюш.
Тут пні імшэюць і галіны,
Але няма
замшэлых душ...

●

Ты — гараджанін,
толькі напракат
Не возьмеш памяць
дзедаўскай катрынкай,
Дзе думка,
выгібаючы асфальт,
Прабілася
дрыготкаю травінкай.

●

Хаця
даўно адкрытае
спазнаў,
Адзначыш,
не хаваючы здзіўлення,
Што кожная
чарговая вясна
Табе прыносіць
радасць абнаўлення...

**Алег САЛТУК**



## Суд

У касцёр падкіну сушняку —
Часу да світанку яшчэ многа.
Дай, агонь, на дружбу мне руку,
Адкажы даверліва і строга,
Дзе на свеце праўда, дзе спадман,
Чым я стану — парасткам ці прахам?
Лягу на дзіраваністы курган
Тварам да зямлі, нібы на плаху.
Я павінен гэта перажыць,
Перайначыць нешта і адрынуць.
Чую, як зямля дрыжыць-дрыжыць,
Бачу яе слёзы на травінках.
Будзем грэць з табой яе, касцёр,
Ты агнём, а я грудзьмі сваімі,
Хай шугае полымя да зор
І благое адлятае з дымам.
Сам сабе я вынесу прысуд,
І што будзе вельмі ён суровым,
Толькі нам з табою ведаць тут,
Ды сасонкам саракагадовым.
Хай цячэ і вечнасць, і ручай.
Не згарай і ты праз гэту вечнасць...
Захлібнецца кнігаўкай адчай,
Летучы з надзеяй на сустрэчу.

## Вяртанне

Карані сплёў на сцежцы сасоннік —
Спатыкаюся.
Што са мной:
Ці ж даўно я, малы неўталоннік,
Мог і ў цемры прабегчы па ёй?

Мог.
Сягоння ўжо гэта не проста.
Дык пайду, покуль ногі нясуць,
Я туды, дзе цалуюцца росы
І крыніцы праз вечнасць цякуць.

Там заснулі дзяды на пагосце,
Там бацькоўскі канчаецца век.
Там я страціў святое штосьці,
А яно ў маім сэрцы жыве.

Абсмяюць, абгавораць сарокі:
— Адшукаўся, нарэшце, зямляк...
Парушынка ўлязела мне ў вока?
Не, я плачу ад шчасця, дзівак.

Хутка вёсачка будзе на ўзлобку.
Захлынуся тугой цішынёй...
Разгараецца зорак шматкроп'е...
Недапісанай песні маёй.

## Будзеш!

Светлай памяці У. С. КАРАТКЕВІЧА

Над Ушаччынай жнівень стаяў,
Адвячоркавы — росны і свежы.
Наплываў церпкі водар траў
Ад стагоў, што стаялі, як вежы.

Помніць кропелька і рака
Найшаноўнага госця.
Ты равеснікам быў вякам
І травінцы малой на пагосце.

Нылі недзе няўлоўна званы,
Можа, ў Віцебску, можа, ў Гародні.
Ведаў ты, як пражыць без маны
І адкуль, і якога мы роду.

Каласы ўжо чакалі сярпоў.
Незабыўны той час, незваротны.
Адышоў?
Не — дадому прыйшоў,
Задумены, шчаслівы, гаротны.

Ты ляжыш пасярод зямлі.
І вярба, і чаzенія ў скрусе.
БЫЎ.
ЁСЦЬ.
БУДУ.
Не будзеш калі, —
Значыць, бог уцячэ з Беларусі!



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# БЕЗ БЕЛАГА АДЗЕННЯ

## НАТАТКІ З ЗАЛЫ СУДА

ЁН СЯДЗІЦЬ на лаве падсудных, стомлена апусціўшы галаву. Толькі зрэдку кідае ў залу, здаецца, абыякавы позірк. Угледзеўшы сярод нешматлікіх прысутных жонку, маладую жанчыну ў моднай футравай шапцы, — ледзь бачна ўсміхаецца. Магчымасць хоць такога кантакту з блізкім чалавекам — адзіная, мабыць, радасць для 67-гадовага чалавека. Яму, па ўсім відаць, даўно ўсё надакучыла. І гэтая судовая зала, і бездакорна карэктны суддзя (член калегіі Вярхоўнага суда БССР І. П. Гогаль), і беспрыстрасны пракурор, і жанчыны-адвакаты, што сядзяць якраз перад ім — можна сказаць, апошні рубеж ягонай абароны, і канваіры, што змяняюць адзін аднаго ля яго персоны, і гэтыя сведкі, і гэтыя цікаўныя людзі, што прыходзяць з дня ў дзень на працэс палюбавацца ягонай ганьбай.

Працэс ідзе ўжо каторы месяц. А допытам сведкаў, паказанням экспертаў, зноў допытам, праверкам паказанняў няма канца. Ды што ж, і сама справа яшчэ на следстве разраслася за дзесяць пульхных тамоў.

— Як вы сябе адчуваеце, Касько? — пытаецца суддзя.

— Дзякуй, грамадзянін суддзя, кепска. Але пастараюся вытрываць.

Так пачынаецца кожнае пасяджэнне. І ў нейкую хвіліну можна адчуць у сабе шкадаванне да гэтага старога чалавека з хворым сэрцам, паўсляпога (у яго паражэнне сятчаткі ды яшчэ катаракта)...

БЫЛЫ прарэктар Мінскага медыцынскага інстытута Павел Ісакавіч Касько ў лістападзе 1986 года быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за хабарніцтва. Было ўстаноўлена, што Касько, займаючы пасаду прарэктара па вучэбнай частцы інстытута і будучы намеснікам старшыні прыёмнай камісіі, узяў хабару на суму 13 тысяч 464 рублі.

Касько лічыць сябе чалавекам з духоўнымі запатрабаваннямі, аматарам літаратуры. На адным з першых судовых пасяджэнняў с пафасам сказаў пра сябе, цытуючы класіка: «Дрэвы паміраюць стоячы».

Пры вобыску на яго кватэры былі канфіскаваны бібліятэка сусветнай літаратуры, зборы твораў Чэхава, Шолахава, іншых класікаў.

Пратаколы бясстрасна зафіксавалі: Касько меў наступныя ўзнагароды: ордэн Чырвонай Зоркі, ордэн Айчыннай вайны, ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі, ордэн Славы 2-й і 3-й ступеняў, медалі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За абарону Сталінграда», «За ўзяцце Кёнігсберга», «За доблесную працу».

Калі на судзе баявыя таварышы Касько ўспаміналі яго як адважнага і сумленнага салдата, былы баец Касько плакаў, і слёзы гэтыя не былі лжывымі. Але слёзы гэтыя не маглі быць і выкупленнем. Так, усё было — і добрае, і благое. І баявое юнацтва, і старанная вучоба, і шматгадовая праца, і званне заслужанага ўрача рэспублікі, і... гандаль людскімі лёсамі. І плаціць таксама трэба *за ўсё. Па законе. І па праўдзе.*

«Гандаль лёсамі людзей» — такой фармуліроўкі ў законе, вядома, няма. Ды й не пагодзяцца, я ўпэўнены, ні сам Касько, ні яго «сябры» з такой фармуліроўкай. «Касько заўсёды памагаў людзям, ніколі не мог адмовіць у просьбе», — неаднойчы прагучала ў паказаннях сведкаў. Дарэчы, у такіх справах, як хабарніцтва, часам вельмі цяжка бывае вызначыць мяжу паміж «сведкам», «пацярпеўшым» і «злачынцам». Арт. 170 КК БССР *вызваляе асобу*, якая дала хабар, ад крымінальнай адказнасці, калі гэтая асоба добраахвотна заявіла аб факце хабару. З дзесяткаў людзей, якіх назваў Касько і якія праходзілі па яго справе, толькі трое апынуліся побач з Касько на *лаве падсудных*. Гэта ўрач Маладзечанскай райбальніцы П. Галавач, работніца Навагрудскага маслазавода В. Беняш і пенсіянерка Ю. Няверка.

Шчыра кажучы, мяне цікавіла ў судзе не столькі юрыдычная кваліфікацыя тых або іншых выпадкаў, колькі псіхалогія, згодна якой паднашэнне, пратэкцыя ўспрымаюцца як нешта натуральнае, як звычайныя праявы нармальных чалавечых узаемаадносін.

Вось што гаварыў адзін са сведкаў, дзеці якога вучацца ў мединстытуце, партыйны работнік з Глуска. Ён не адмаўляў знаёмства з Касько. Па-першае, яны — землякі; па-другое, Касько як камуніст заўсёды цікавіўся справамі ў родным раёне ( у адной з сярэдніх школ у Глуску на Дошцы гонару вісіць партрэт выпускніка П. І. Касько). Вельмі цікава было размаўляць з Касько — «субяседнікам неардынарным, надзвычай разумным і яркім». Не адмаўляў сведка і той факт, што ў час паступлення ў інстытут яго сына — медаліста — прывёз прарэктару дамоў некалькі слоікаў з марынаванымі грыбамі і мёдам, а таксама мяшок бульбы.

— Але ж гэта ў парадку рэчаў! — усклікае пакрыўджаны ў лепшых пачуццях галава сямейства. — Калі б за гэта саджалі, хто б тады наогул застаўся на волі?

Ці не праўда — цікавая логіка, асабліва для партыйнага работніка?

Між іншым, выклік на судовы працэс гэты партыйны дзеяч успрыняў як... выклік аўтарытэту райкома. Ён пачаў разважаць на судзе пра грамадскую карысць, сацыялістычную законнасць, пра тыя змены, што адбываюцца ў нашым грамадстве, але яго развагі раптоўна перапыніў Касько.

— Я ж прасіў вас летам 86-га года: не ездзіце вы да мяне больш! Чаму вы, разумеючы **абстаноўку** (выдзелена мною. — **В. Т.**) у краіне, усё роўна ездзілі? Ваш сын—медаліст, ён усё адно паступіў бы...

Канечне, аб нейкай прынцыповасці Касько гаварыць тут не даводзіцца. Ён у 85—86 гадах працягваў браць хабар з яшчэ большай хціваснцю. Якраз у той час, калі разгортвалася барацьба «за чыстае і чэснае аблічча партыйца». І ён, дарэчы, выступаў тады на сходах, заклікаў калег быць сумленнымі і непадкупнымі на экзаменах. Вучыў студэнтаў трымаць марку прафесійнай і чалавечай годнасці. Не мог не вучыць. Такая ў яго была **пасада**.

І ніхто — ні былы рэктар інстытута А. Ключароў, ні былы прарэктар па навуковай рабоце, цяперашні рэктар А. Кубарка, ні былы сакратар парткома Р. Заяц, ні калегі Касько па кафедры нічога асаблівага не бачылі ў паводзінах прарэктара. Прарэктара, у кабінеце якога ў апошнія гады яго работы ўвесь час таўкліся нейкія людзі — з пакункамі, торбамі, сеткамі, ценямі хадзілі за ім, не давалі праходу.

— Чым вы можаце растлумачыць, што ўсімі паважаны ў інстытуце чалавек, ветэран вайны і працы, сумленны вучоны і настаўнік раптам аказваецца на лаве падсудных? — пытаўся старшыня суда Ілья Пятровіч Гогаль у сённяшніх кіраўнікоў інстытута, былых калег і сяброў Касько.

У адказ яны аднолькава разводзілі рукамі...

— Як жа так атрымалася, — дапытваўся суддзя, — што вакол Мінскага медінстытута склалася пэўнае грамадскае меркаванне, што без хабару туды няма чаго і патыкацца? Чуткі і пагалоскі пра гэта ў народзе шырыліся і множыліся з кожным годам. «Слава» пра інстытут даходзіла не толькі да самых глухіх вёсак, але пайшла за межы рэспублікі. З'яўляюцца хабарнікі ў самім інстытуце (сярод іх — прафесар І. Ганчарык). Нават тэхнічны работнік інстытута, далёкі ад медыцыны, бярэцца дапамагчы зусім незнаёмаму чалавеку перадаць грошы прарэктару за вяртанне ў інстытут аднаго адлічанага за двойкі студэнта. Аўтарытэт вышэйшай навучальнай установы, яе рэктарата на вачах развальваўся, а кіраўніцтва інстытута нічога не адчувала?

Адказу на гэтае пытанне на працэсе так і не прагучала...

ВЫСТУПЛЕННІ рэктара і сакратара парткома нагадвалі звычайныя службовыя справаздачы. Гаварылася, напрыклад, пра недахоп мужчын сярод будучых медыкаў, пра недахоп кадраў у сельскай мясцовасці, пералічваліся мерапрыемствы па прафесійнай арыентацыі, гучала строга дазіраваная самакрытыка. Не было толькі аднаго — маральнай ацэнкі таго, што здарылася ў інстытуце.

З вуснаў Касько і некаторых яго калег гучала на судзе і крытыка ў адрас вышэйшых інстанцый — Міністэрства аховы здароўя, былога Міністэрства вышэйшай адукацыі. Крытыкаваўся перш за ўсё сам парадак прыёму абітурыентаў у інстытут.

Асістэнт кафедры агульнай і неарганічнай хіміі Мінскага медінстытута А. Колб і настаўніца хіміі адной з сярэдніх школ Н. Соладава, іншыя выкладчыкі, якіх не раз прыцягвалі да работы ў прыёмнай камісіі, расказвалі на працэсе пра інструктаж, які праводзіўся заўсёды перад пачаткам работы прыёмнай камісіі. Прысутнічалі на ім прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, рэктар, сакратар парткома і канечне — Касько, які адказваў за навучальны працэс і фактычна кіраваў работай камісіі. Інструктаваліся экзаменатары ў тым плане, што найбольшай увагі патрабуюць

◆ *Помніць, ведаць, зберагаць*

# Безыменны сімвал Браслава

Калі хто нават і першы раз трапіў у Браслаў, не мог не ўбачыць бетонную стэлу, што стаіць на пануючай над гарадком замкавай гары. Гэты слуп-вежа добра відаць з возера Дрывяты, з новых і старых дарог, якія сыходзяцца ў Браславе. На вежы калі-нікалі запальваецца ліхтар, і тады яе можна прыняць за які-небудзь маяк.

Стэла стаіць на квадратным пастаменце. А ў ім ёсць ніша, у якой, пэўна, была калісьці памятная дошка. Ды следу ад яе не засталося. Калі пацікавіцца ў мясцовых людзей, што гэта за слуп стаіць на замкавай гары, то ў лепшым выпадку які-небудзь чалавек у гадах можа адказаць, што гэта помнік доктару. Іншы можа дадаць — браслаўскаму доктару. А вось прозвішча яго ўжо наўрад ці хто назаве...

А між тым, гэты браслаўскі доктар меў адно са старадаўніх на Беларусі прозвішчаў — Нарбут. Ён належаў да славутага беларуска-літоўскага роду Нарбутаў, прадстаўнікі якога былі вядомымі гісторыкамі, філосафамі, асветнікамі, вайскоўцамі. У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі названы тры Нарбуты: Казімір — філосаф сярэдзіны XVIII стагоддзя, які ўваходзіў у знакамітую Адукацыйную камісію, прафесар Віленскага універсітэта, выдаўца першага падручніка логікі на польскай мове; Тэадор, родам з маёнтка Шаўры Лідскага павета, — *ваенны інжынер* рускай арміі, ён жа — археолаг, які адным з першых вёў на Беларусі археалагічныя раскопкі, і вядомы гісторык, аўтар дзевяцітомнай «Гісторыі літоўскага народа» і іншых гістарычных даследаванняў. Тэадор Нарбут *знайшоў* і апублікаваў шэраг каштоўных гістарычных крыніц, у тым ліку і зараз добра вядомы беларускі летапіс «Хроніка Быхаўца». Урэшце — Людвіг Тэадоравіч Нарбут, сын Тэадора Нарбута. Удзельнік паўстання 1863—64 гадоў. Узначальваў атрад паўстанцаў Лідскага павета. Тры месяцы паспяхова вёў барацьбу з карнікамі. Паўстанцкія ўлады прысвоілі яму званне палкоўніка. Загінуў у баі ў *Дубіцкіх лясах*...

Але ў Тэадора Нарбута былі яшчэ два сыны — Баляслаў, таксама ўдзельнік паўстання, за што быў сасланы ў Сібір, і — малодшы, Станіслаў, якому ў той час было дзесяць-адзінаццаць гадоў. Але ў душы Станіслава паўстанне пакінула глыбокі след, і ў будучым, безумоўна, гэта адыграла сваю ролю ў фарміраванні дэмакратычных поглядаў, у выхаванні пачуцця справядлівасці.

Старэйшы Нарбут — Тэадор — таксама быў пакараны за прыхільнасць да паўстанцаў, і са свайго родавага маёнтка Шаўры, які ўлады прызналі гняздом паўстанцаў, вымушаны быў пераехаць у Вільню. Тым часам Станіслаў паспяхова скончыў Віленскую гімназію. Дзе вучыцца далей? Універсітэт у Вільні быў закрыты. Пры дапамозе сяброў Тэадору ў 1872 годзе ўдаецца ўладкаваць малодшага сына ў Мюнхенскі універсітэт. Праз сем год Станіслаў Нарбут абараніў дысертацыю і вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны. Неўзабаве вяртаецца на радзіму, і з гэтага часу ўсё яго жыццё, праца, уся дзейнасць будуць звязаны з невялікім, заштатным гарадком на Віленшчыне — Браславам. Пятнаццаць гадоў Нарбут працуе тут як прыватны ўрач, але ўрэшце заканчвае яшчэ і медыцынскі факультэт Дэрптцкага універсітэта (зараз Тарту), атрымлівае неабходны яму «рускі» дыплом, бо са сваім замежным дыпломам ён не меў права афіцыйна *працаваць урачом у межах* Расіі.

Нарэшце ў 1904 годзе Нарбута прызначылі на вакантную пасаду ўрача другога ўчастка ў тым жа Браславе. А з 1919 года ён стане павятовым урачом, будзе ўзначальваць у павеце ўсю *ахову здароўя людзей* і адначасова сам весці лячэбную практыку.

Біяграфію, жыццёвы шлях Станіслава Нарбута, які насіў дадзенае людзьмі і, несумненна, самае пачэснае для ўрача імя народнага доктара, зараз аднаўляе ў экспазіцыі ў Браслаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі (які неўзабаве будзе адкрыты) навуковы супрацоўнік музея, малады краязнавец Кастусь Шыдлоўскі.

Памёр браслаўскі доктар у сакавіку 1926 года, прарабіўшы ў Браславе трыццаць сем год.

1907 год быў у жыцці Нарбута асабліва значны: яго доўгія хадайніцтвы мелі нарэшце вынікі — была пабудавана ў Браславе земская бальніца, па тым часе адна з лепшых на Віленшчыне. (Між іншым, і зараз у цагляных будынках



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

